*Леанід Лыч*

# МАГІЛЬНАЕ
## ў часы нямецкай акупацыі
## (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.)

*Успаміны*

Мінск
«Кнігазбор»
2011

УДК 94(476.1)”1941/1944”
ББК 63.3(4Беи)622
Л88

**Лыч, Л.**
**Л88** Магільнае ў часы нямецкай акупацыі (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.) : успаміны / Леанід Лыч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 104 с.
ISBN 978-985-7007-14-1.

У кнізе ў форме ўспамінаў апавядаецца пра самыя трагічныя часы ў гісторыі мястэчка Магільнае, што ў многім характэрна і для бальшыні іншых населеных пунктаў Беларусі. Матэрыялы кнігі выклічуць зацікаўленасць найперш за ўсё ў тых, чыё жыццё так ці інакш звязанае з Магільным. З ёю карысна будзе пазнаёміцца таксама і тым, хто займаецца краязнаўствам.

**УДК 94(476.1)”1941/1944”**
**ББК 63.3(4Беи)622**

**ISBN 978-985-7007-14-1**



*Прысвячаю землякам-магілянам*
*часоў вайны і нямецкай акупацыі*

## АД АЎТАРА

З кожным годам у краіне становіцца ўсё менш і менш непасрэдных сведак нямецкай акупацыі. Ніхто больш за іх не валодае праўдзівай інфармацыяй пра гэты пакутлівы час у жыцці беларускага народа. Вельмі шкада, што ў нас не вядзецца на афіцыйным узроўні сістэмная праца па зборы інфармацыі ад такіх сведак пра звязаныя з нямецкай акупацыяй падзеі. Сёлета ж спаўняецца роўна 70 гадоў, як яна няпрошаным госцем усталявалася ў нашым краі. Ці ж гэта не нагода, каб штосьці даведацца пра яе не толькі з кніг, а і ад непасрэдных сведак? Нагода, ды яшчэ якая! Грэх не выкарыстаць яе. Давайце не паўтараць нашага горкага вопыту, калі ў пік знікнення «неперспектыўных» вёсак, адыходу на той свет народжаных у канцы XIX — пачатку XX ст. людзей у нас не знайшлося ні часу, ні сродкаў, каб атрымаць ад іх так патрэбныя не толькі для навукі, але і саміх людзей звесткі пра наш найбагацейшы ў свеце фальклор, адмысловую для кожнага рэгіёна мясцовую лексіку. Стаць апавядальнікам пра жыццё ў гады акупацыі — гэта, без перабольшвання, наш нацыянальны абавязак. Добра было б, каб для такога роду ўспамінаў не шкадавалі сваіх старонак нашыя раённыя, гарадскія і абласныя газеты. У велізарнай каштоўнасці такіх матэрыялаў для аднаўлення ўсенароднай памяці пра нямецкую акупацыю Беларусі не можа быць аніякіх сумненняў. Менавіта гэта і падштурхнула аўтара дадзеных радкоў узяцца за пяро, нягледзячы на тое, што яму ідзе ўжо 83-ці год, і хоць збольшага паказаць перажытае яго родным мястэчкам Магільнае* ў самыя цяжкія часы сваёй гісторыі.

* У вымаўленні мясцовых жыхароў на канцы назвы іх населенага пункта чуецца літара «е».

# 1. КРЫХУ ПЕРАДГІСТОРЫІ

Вайна фашысцкай Германіі з СССР адзіная ў сваім родзе. Але яна не аднолькавая ў лёсе людзей. Кожны перажыў яе па-свойму. Як пачалася вайна, мала хто думаў, што стане яе героем ці ахвярай, пойдзе ў партызаны ці адзенецца ў форму паліцэйскага. І даволі часта ў выбары таго ці іншага варыянту ледзь не вырашальную ролю адыгрываў выпадак, чым свядомае абдумванне, на якім баку барыкадаў заняць сабе месца.

Калі на беларускую зямлю звалілася гэтае нечуванае гора, мне ішоў трынаццаты год. Нарадзіўся і жыў за тры кіламетры ад савецка-польскай дзяржаўнай мяжы 1939 года. У нашым мястэчку Магільнае, што на Вуздзеншчыне*, і перад самай вайной размяшчалася пагранічная камендатура. За рэдкім выключэннем усе дзеці, а сярод іх і я, раслі вялікімі, шчырымі патрыётамі СССР. Лічылі, што ў выпадку вайны фашысты абавязкова атрымаюць па зубах.

Наколькі памятаю сябе з гадоў свайго дзяцінства, самай любімай тэмай у размовах нашых людзей была вайна. Пра яе гаварылі дарослыя і дзеці, у сем'ях і школе. Але найчасцей за ўсё па вечарах у стыхійна выбраных для гэтага месцах. На прызбах каля хатаў сядзелі людзі сталага веку, а вакол іх тоўпіліся маладыя мужчыны (жанчыны не ўдзельнічалі ў такіх вечарах) і, вядома ж, дзеці (таксама толькі мужчынскага полу). На мой і сённяшні розум гаворка пра вайну вялася ва ўсіх дачыненнях дастаткова прафесійная, праўда, з пэўнай пераацэнкай рэальнай баяздольнасці Чырвонай Арміі. Можна толькі радавацца, што прырода не абдзяліла і тагачаснага беларускага мужыка даваць больш-менш правільную ацэнку таму, што адбывалася не толькі ў яго мясцовасці, а і дзесьці на вялікай адлегласці ад яе. Найбольш за ўсё лічыліся з меркаваннямі тых, хто ў гады Першай сусветнай вайны спаўна панюхаў пораху. А такіх ой як багата было сярод магілян**! Некаторых з іх франтавыя дарогі прывялі ў Францыю, а быў і такі (па імені Саўка), што апынуўся ажно ў Сахары. Прыкладна з паловы ўдзельнікаў той вайны трапіла ў нямецкі палон. Словам, было каму паразважаць і каго паслухаць, калі размова заходзіла пра ваенныя падзеі. Да такіх размоў вялікую зацікаўленасць мелі і пагранічнікі, хаця не выключаю, што іх прысутнасць магла быць выклікана і іншага парадку прычынамі: даведацца пра настрой людзей. Звычайна кожная з такіх

* У нашай мясцовасці і тады, і зараз слова Вузда вымаўляюць з выразнай прысутнасцю ў ім першай літары «В», таму, каб не парушаць такога правіла, і я прытрымліваюся яго на пісьме.

** У нашых жыхароў ёсць яшчэ і такія саманазвы: магіленцы, магілянцы, магільнянцы. Свой колішні сельскі савет яны называлі Магільнянскім, Магіленскім, Магілянскім.



сустрэч местачкоўцаў заканчвалася на аптымістычнай ноце: у свеце няма роўнага СССР саперніка.

Гэтаму аптымізму крыху нашкодзіў вераснёўскі 1939 года паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Праз нашу мясцовасць прайшло нямала вайсковых падраздзяленняў. Не выключана, што не самых сучасных, перадавых паводле сваёй тэхнічнай аснашчанасці. Пагаворвалі, што яна нават мала ў чым перасягае тое, што было характэрна рускай арміі часоў Першай сусветнай вайны. Вельмі дрэннае ўражанне ў людзей пакінула масавае выкарыстанне абмоткаў, якімі абгортваліся ногі ад салдацкіх чаравікаў да самых каленяў. А вось нам, школьнікам, гэта прыйшлося даспадобы. Здабыць у салдат такі кампанент абутку сталася зусім проста, таму дзесьці праз месяц ледзь не пагалоўна ўсе хлопцы хадзілі ў школу ў абмотках, чаму ніяк не пярэчылі настаўнікі.

Вельмі хутка сталі вяртацца дамоў удзельнікі таго верасннёўскага паходу, сярод якіх было і некалькі пагранічнікаў з Магільнянскай камендатуры. У публічных размовах яны не дапускалі аніякіх крытычных заўваг датычна ўдзелу савецкіх войскаў у баявых аперацыях, аптымістычна заяўляючы, што ім быў бы пад сілу і непараўнальна больш сур'ёзны праціўнік. Мне ж давялося быць сведкам і крыху іншых размоў. Пастараўся пра гэта добра знаёмы майму тату пагранічнік. Пасябравалі яны зусім не выпадкова: першы з іх працаваў на мясцовай хлебапякарні дрывасекам і вартаўніком, а другі — адвозіў хлеб у пагранкамендатуру. Глынуўшы надвячоркам у нашай хаце дзве-тры чаркі гарэлкі, у пагранічніка тут жа развязаўся язык, і ён накінуўся з бязлітаснай крытыкай на многае з таго, што давялося ўбачыць у арміі. Паводле яго слоў, ідучы ў атаку, некаторыя чырвонаармейцы больш крычалі не «За Сталина!», а «Заставили!». Відаць, яму давялося нешта даведацца пра ўзбраенне і дысцыпліну ў нямецкім войску, бо напаўголаса прамовіў такое:

— Міша (майго бацьку жыхары мястэчка называлі толькі Міхасём, а пагранічнік, будучы рускім па нацыянальнасці, зваў свайго напарніка па працы Мішам), не дай бог нам сутыкнуцца з гэтай краінай.

У гурце людзей публічна нешта падобнае ніхто не адважыўся б сказаць. Хоць і з вялікай асцярожнасцю, але ж усё дазвалялі сабе штосьці пазітыўнае сказаць па тэхнічную аснашчанасць нямецкай арміі, баявы дух яе салдат дэпартаваныя ў канцы 1939 года ў Магільнае польскія яўрэі. Іх інфармацыі нельга было не верыць, бо яны на многае нагледзеліся ў час нямецка-польскай вайны, добра разумелі, наколькі быў магутней Вермахт у параўнанні з войскам Другой Рэчы Паспалітай.

Міне трохі часу, і ваенны патрыятызм магілян ізноў апынецца на высокім узроўні, чаму ўсяляк паспрые і адпаведная ідэалагічная апрацоўка іх мясцовай савецкай уладай і кіраўніцтвам пагранкамендатуры. Па іх ініцыятыве была праведзена добра запалая мне на ўсе гады ў памяць ваенная гульня мужчынскага насельніцтва прызыўнога ўзросту ўсяго Магільнянскага сельсавета. Яно было падзелена на «чырвоных» і

«белых». У якасці зброі выкарыстоўваліся не якія-небудзь вучэбныя ружжы, а звычайныя аскрэбеныя ад кары двухметровыя сасновыя калы. Як і спадзяваліся, перамагалі «чырвоныя». Дарослыя людзі ўпотай насміхаліся з такой надуманай бойкі, а нам, дзецям, гэта вельмі спадабалася і паслужыла прыкладам, каб і самім перайсці да ваенных гульняў. Працягваліся яны аж да самай сапраўднай нямецка-савецкай вайны. Ахвотна ўдзельнічалі ў іх нават вучні старэйшых класаў. Назіраючы за ўсім гэтым, дарослыя не раз заяўлялі, што, відаць, неўзабаве быць і сапраўднай вайне.

Такое ўсё часцей і часцей можна было пачуць з вуснаў удзельнікаў вечаровых «вечаў» магільнянскіх мужчын, хаця і ведалі яны, што ніхто не адмяняў падпісанага паміж СССР і Германіяй 23 жніўня 1939 года пакта аб ненападзе. У мэтах параўнання іх баяздольнасці прысутныя на «вечы» вельмі часта выкарыстоўвалі назвы розных відаў добра вядомых усім нам звяроў. Калі СССР атаясамлівалі з мядзведзем, дык Германію — з ваўком, з лісам, а то нават і з зайцам. Аднойчы адзін з самых актыўных і сталых удзельнікаў вечаровых сходаў з ліку пагранічнікаў, наслухаўшыся такіх параўнанняў, заявіў:

— Это будет война между львом и тигром.

Пярэчыць яму ніхто не збіраўся, тым больш што, зрабіўшы такую рэпліку, ён вельмі хутка падаўся да сябе ў камендатуру. Мяне ж дужа глыбока закранула яго параўнанне, але для правільнага ўяўлення пра сілу льва і тыгра не хапала канкрэтных ведаў. Неяк набраўся смеласці і ў час перапынку паміж урокамі спытаў на калідоры пра гэта ў настаўніцы па заалогіі. Адказ быў такі:

— І той, і другі звер і дужы і каварны. Звычайна леў дужэйшы за тыгра. Але калі тыгр малады, а леў стараваты, то першы з іх можа перамагчы другога.

Не выключана, што такое акурат і меў на ўвазе той пагранічнік. Не ведаю, па якой прычыне, але ад таго вечара яго больш не даводзілася бачыць сярод пагранічнікаў Магільнянскай камендатуры. Мо за выказанае параўнанне (яно ж не пасавала да афіцыйнай бальшавіцкай ідэалогіі) паслалі несці службу ў больш глухое месца. А данесці на таго пагранічніка было каму з цывільных грамадзян. Як высветлілася пазней, камендатура мела сярод іх даволі разгалінаваную агентурную сетку.



## 2. ВАЙНА СТАЛА РЭАЛЬНАСЦЮ

Першы дзень вайны Германіі супраць СССР — 22 чэрвеня 1941 года — нікольki не пахіснуў як заўсёды бадзёры, ваяўнічы настрой магілянцаў, цвёрда ўпэўненых у хуткай, бліскучай перамозе над ворагам. Такі настрой панаваў і ў мяне. Галоўным клопатам стала здабыць дзе-небудзь палітычную карту Еўропы, каб рэгулярна адзначаць на ёй даты заняцця Чырвонай Арміяй гарадоў, як гэта рабіў каля двух гадоў таму, калі яна ўступіла на тэрыторыю Заходняй Беларусі. І па сёння добра памятаю, як не падымалася мая рука, каб адвесці на ўсход лінію дзяржаўнай мяжы паміж СССР і Літвою, калі ёй перадалі Вільню і Віленскі край. Быў упэўнены, што ў час нямецка-савецкай вайны мне не давядзецца такога рабіць. З вялікімі цяжкасцямі палітычную карту Еўропы ўсё ж раздабыў, але жаданых адметак на ёй не рабіў, бо не меў аніякіх звестак пра пераможны паход Чырвонай Арміі ў краіны гэтага кантынента. А не меў таму, што пра гэта нічога не паведамлялася ні па радыё, ні ў газетах. Больш таго, на другі дзень вайны ўсе службовыя радыёпрыёмнікі былі знесены ў адно з памяшканняў і ўзятыя пад надзейную ахову. Спехам, але без усялякай панікі праводзілі ў першыя дні вайны мабілізацыю мужчын у войска. Мой тата з-за вострага пароку сэрца заставаліся дома, што зусім не радавала мяне. Ехалі людзі на прызыўны пункт у раённы цэнтр Вузда без усялякага страху. Калі хтосьці з матак ці жонак, развітваючыся з дарагім чалавекам, плакаў, гучалі такія суцяшальныя словы:

— Чаго тут слёзы ліць? Трэба немцам добра даць у карак. Праз два-тры месяцы вярнуся дамоў. Зімаваць абавязкова будзем разам.

Такім абяцанням верылі і дарослыя, і дзеці, таму мо і не было надрыўнага плачу пры развітанні з тымі, каго праводзілі на барацьбу з ворагам.

І ўсё ж мабілізацыю, не па віне магілян, не давялося поўнасцю правесці, на што былі ўласцівыя для ўсіх райваенкаматаў Міншчыны прычыны.

### Мішка і Грышка* пайшлі ваяваць супраць сваіх

Неўзабаве пасля заканчэння Грамадзянскай вайны ў нашым мястэчку стварылася

незвычайная сям'я, пра што як след пастаралася Сонька Тумiловіч. Па невядомых прычынах ёй ніяк не ўдавалася выйсці замуж, мо таму адважылася на тое, каб за якія-небудзь два ваенныя гады нарадзіць ад нямецкага

* У нашай мясцовасці вельмі пашыраны ласкальныя імёны, прычым не толькі ў дачыненні да дзяцей, але і дарослых, людзей самага сталага веку. таму я карыстаюся не запісанымі ў пашпартах імёнамі, а тымі, якія ўжывалі самі местачкоўцы.

і аўстрыйскага ваеннапалонных (іх нямала было ў вайну ў Магільным) па сыну, аднаго з якіх назвалі Мішкам, другога — Грышкам. І яны самі, і людзі ведалі пра іх паходжанне, што, аднак, не выкарыстоўвалася дзеля насмешак. Хлопцы паканчалі па чатыры класы Магільнянскай пачатковай школы, з утварэннем калгаса сталі працаваць у ім. Карысталіся аўтарытэтам, не лезлі ў бойку. На прызыўны пункт ў Вузду паехалі з такім жа прыўзнятым настроем, як і ўсе астатнія. Іх франтавы лёс, як і многіх іншых магілян, невядомы. Дамоў не вярнуліся, таму цяжка сказаць, загінулі ад пасланай немцам ці аўстрыйцам кулі альбо трапілі ў палон. Маці памерла ў 60-я гады. Да канца свайго жыцця хату ацяпляла толькі тым, што на сваіх худых плячах прыносіла з лесу.

## Прыкметы вялікай трагедыі

Настрой жыхароў мястэчка сур'ёзна сапсавалі яго ўраджэнцы, што працавалі ці вучыліся ў Мінску. Некаторыя з іх ужо на другі-трэці дзень вайны вярнуліся дамоў і па сакрэту паведамілі сваім бацькам пра страшэнныя пажары ў сталіцы. Гэтая трывожная навіна імгненна разнеслася па ўсім мястэчку. Калі раней добра бачнае вечарам зарава з боку Мінска (адлегласць да якога прыкладна 90 км) тлумачылася самымі рознымі прычынамі, дык цяпер ужо ўсе пагаджаліся, што галоўная і адзіная з іх — гэта ўчынены варожай авіяцыяй пажар. Ад гэтага часу вельмі моцна пахіснуўся настрой у людзей. Пры ўсім жаданні трымаць яго на ранейшым узроўні ўжо не ўдавалася ні мясцовай савецкай адміністрацыі, ні вечна бадзёрым, упэўненым у сваёй сіле пагранічнікам.

На другі ці трэці дзень вайны магілянам давялося сустрэцца і з такой незвычайнай з'явай сярод белага дня. Па Нарадоўскай (сёння — Школьная) вуліцы мястэчка рухалася два-тры дзясяткі мужчын, адзетых у аднолькавую для ўсіх чорную форму. Даведаўшыся, дзе крама, яны прыбавілі хады. Купіць нічога не купілі, а бралі з прылаўка і паліц усё, што лічылі патрэбным для сябе. Паклiканыя на дапамогу ўчастковы міліцыянер, а разам з ім некаторыя сельсавецкія службоўцы аказаліся бездапаможнымі ў такой сітуацыі. Пакуль дадумаліся, што трэба клікаць на дапамогу пагранічнікаў, гурт людзей у чорным накіраваўся па старой грэблі ў бок Вузды. Некаторыя з магілян чулі, што свае ўчынкі грабежнікі апраўдвалі жаданнем не даць немцам пажывіцца за кошт беларускага народа. Як высветлілася пазней, разрабаваннем магазіна займаліся зняволеныя, што будавалі аэрадром пад Баранавічамі, а за колькі дзён да захопу немцамі гэтага горада былі адпушчаны па хатах.

Дарэчы, у збудаванні таго аэрадрома ўдзельнічаў і магільнянскі юнак Коля Цыбульскі, толькі не як зняволены, а як вольнанаёмны. Хаця яму і не так складана было ў тую сумятню дабрацца да Магільнага, на гэта не пайшоў, а ў арганізаваным парадку разам з большынёю будаўнікоў выехалі цягніком на ўсход. Калі праязджаў самую блізкую да Магільнага чыгуначную станцыю Коласава (адлегласць паміж імі каля 15 км), толькі рукой памахаў у бок малой радзімы. З баямі прайшоў да Берліна і распісаўся на сценах Рэйхстага.

З Баранавічамі ў магілян была звязана і яшчэ адна падзея, якая моцна паўплывала (не ў лепшы бок) на іх настрой. Пагранічнікі вельмі прасілі і дарослых, і дзяцей абавязкова дакладваць ім пра сустрэчы з незнаёмымі людзьмі. Аднойчы, гуляючы ў лесе, мы заўважылі, што на абочыне дарогі Магільнае — Язвіны (вядзе ў бок Мікалаеўшчыны) сядзяць і ляжаць у вайсковай форме мо каля дзесяці-пятнаццаці чалавек. Не марудзячы, адразу бяжым і дакладваем дзяжурнаму па камендатуры. Рэакцыя была імгненнай. З сабою пагранічнікі (іх было каля пяці чалавек) узялі толькі двух хлопцаў, у тым ліку і мяне. Як толькі пагранічнікі на свае вочы заўважылі вайскоўцаў, нам загадалі вярнуцца дамоў. Дамоў, вядома, мы не пайшлі, а здалёку непрыкметна назіралі за ўсім, што адбывалася. А адбывалася ўсё мірна і спакойна. Вайскоўцы без пярэчанняў рушылі ў вызначаным пагранічнікамі накірунку. Назіраючы за такой мірнай і спакойнай абстаноўкай, пасмялелі і мы, дазволілі сабе амаль ушчыльную наблізіцца да калоны людзей у вайсковай форме. Гэта дало нам магчымасць распазнаць у іх лётчыкаў. І так яно было на самай справе. Унутр камендатуры іх не завялі, хвілін 10–15 пратрымалі каля ўваходных дзвярэй і дазволілі рухацца ў заданым напрамку. Ім была Вузда. Пайшлі туды нядаўна пабудаванай шашой. Хутка стала вядома, што лётчыкі апынуліся ў Магільным з прычыны таго, што іх самалёты былі знішчаны варожай авіяцыяй на ўзлётных пляцоўках Баранавіцкага ваеннага аэрадрома. У паніцы, без усялякай каманды зверху пілоты кінуліся наўцёкі, шукаючы сабе паратунку. Вось таму і дабралася адна група з іх да Магільнага, што не магло не азмрочыць настрой, глыбока задумацца яго жыхарам пра няўдачы на фронце. Яшчэ большую трывогу выклікала з'яўленне ў мястэчку невядомых цывільных людзей, якія, ратуючыся ад немцаў, самастойна, без усялякага павадыра ўзялі курс на ўсход. Спачатку рухаліся невялікімі групамі, а затым усё зілося ў суцэльную лавіну. Дзеці ад летняй спякоты, нязручнасці сядзець на плячах у бацькоў плакалі наўзрыд, што чуваць было мо за сто метраў ад калоны ўцекачоў. Спыніць іх панічнае шэсце ў маскоўскім напрамку не спрабавалі ні пагранічнікі, ні савецкая мясцовая адміністрацыя. Жыхары мястэчка ледзь не цалкам пазбавілі сваіх дзяцей малака, каб толькі падзяліцца ім з тымі, каго дарослыя ўцекачы неслі на плячах ці везлі ў калясках.

## Нас пакідае непераможная Чырвоная Армія

Аднак усё бачанае ў тыя дні аказалася не больш як толькі кветачкамі. З ягадамі сутыкнуліся на некалькі сутак пазней, калі ў абгон цывільных

уцекачоў на вялікай хуткасці праімчалася некалкі ваенных аўтамабіляў, і афіцэры звярнуліся да нашых людзей з нечаканым, проста ашаламляльным пытаннем:

— Нет ли в вашем местечке немцев?

Даведаўшыся, што няма, без затрымкі парулілі паралельна калоне ўцекачоў таксама на ўсход. Пагранічнікі не болей як толькі зафіксавалі гэты трывожны і для іх факт.

У ноч пасля нечаканага з'яўлення першых савецкіх ваенных аўтамашын мала хто спаў з магілян, на што мелася важкая прычына. У іх дамах безупынна дрыжэлі вокны ад руху па ўсіх вуліцах ваенных грузавых і легкавых машын, замаскіраваных зялёнымі галінкамі ад дрэў. Перад абедам з'явіліся і першыя натоўпы пехацінцаў, выклікаўшы страшэннае ўражанне ў людзей, таму што многія былі зусім разутыя, баючыся намуляць ногі. Некаторыя ўмудраліся абгарнуць іх анучамі, каб не набіць мазалі. Дзеля гэтай выратавальнай мэты выкарыстоўвалі і гімнасцёркі, застаючыся ў сподняй кашулі, што яшчэ больш дадавала негатыву ў тое страшэннае відовішча. Па розных прычынах далёка не ўсім удавалася паспяхова справіцца з той бядой, таму сустракалася нямала салдатаў у чырвоных ад крыві анучах на нагах. З болем назіраючы за ўсім гэтым, проста не хацелася верыць, што па вуліцах мястэчка ідуць, а часам і бягуць савецкія чырвонаармейцы. Не раз даводзілася бачыць, як разганялі іх па баках вуліцы легкавушкі з высокім начальствам у кабінах. Заўважалася і такое, што паводле вайсковай формы ў адной і той жа калоне ўцекачоў знаходзіліся салдаты і афіцэры з розных часцей. З-за вялікай панікі, страху ўсё перамяшалася, не паддавалася аніякаму рэгуляванню. У той страшэннай сітуацыі ў найбольш цяжкім стане апынуліся афіцэры, палітрукі. Мала таго, што ў выпадку палону іх чакалі ўведзеныя фашыстамі суровыя меры пакарання, дык не так усё проста было з выкананнем сваіх службовых абавязкаў у сувязі з рэзкім падзеннем дысцыпліны сярод чырвонаармейцаў. Відаць, адзначанае — гэта галоўная прычына, што некаторыя афіцэры свядома знішчалі свае асабістыя дакументы і партбілеты. Аўтар дадзеных радкоў на ўласныя вочы бачыў, як іх шпырлялі ў раскладзенае на ўскрайку лесу вогнішча, а дзяцей прасілі кінутае спаліць датла.

Другой сур'ёзнай праблемай у афіцэраў было, як пастрыгчыся пад шараговага салдата, каб на выпадак палону ўхіліцца ад суровай кары. Многіх з іх выручылі нястомныя, умелыя рукі дэпартаванага ў Магільнае з Варшавы цырульніка — яўрэя Мендэля Ляўковіча. Але здаралася і такое, што ён не спраўляўся з наплывам «кліентаў». На выручку прыходзілі вясковыя жанчыны, бо вельмі многія з іх самі стрыглі «пад авечачку» сваіх дзяцей. Такой патрэбнай звычкай добра валодалі і мая мама. Думаю, праз іх рукі прайшло каля дзясятка афіцэраў. Працавалі толькі за «спасибо» і гэтым былі задаволены.

Карэнныя перамены адбываліся ў небе над Магільным, яго наваколлі і нават на большай адлеглясці, асабліва ў бок Стоўбцаў. У першыя дні вайны адсюль даносіўся да нас прыемны на слых гул савецкіх самалётаў, бо працавалі яны на чыстым, высокай якасці бензіне. Рэзка ўсё змянілася на чацвёрты-пяты дзень вайны, калі тым маршрутам пачалі лётаць нямецкія самалёты. Звычайна гэта былі бамбардзіроўшчыкі. У авіяцыйных мэтах Германія выкарыстоўвала бензін нізкай якасці, таму гул ад варожых самалётаў вызначаўся нязвыклай парывістасцю, непрыемнай на ўспрыманне. Па гулу і мы, дзеці, ведалі пры з'яўленні над Магільным самалётаў — гэта нашыя ці нямецкія.

Яшчэ да таго, як у небе над Магільным пачалі кружыцца першыя нямецкія самалёты, людзі сталі рыхтаваць для сябе бамбасховішчы, звычайна на сядзібах непадалёку ад хаты. Было яно і ў нас. Каб такія сховішчы больш -менш адпавядалі свайму прызначэнню, пры іх збудаванні абавязкова раіліся з удзельнікамі Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў. Іх (удзельнікаў) хапала ў мястэчку. Паблізу нашай хаты жыло каля пяці чалавек. З іх выбралі аднаго — Мікалая Жыгаловіча. Калі раніцай бацькі ішлі на калгасную працу, нас заўжды папярэджвалі, каб, добра пачуўшы гул нямецкіх самалётаў, адразу беглі ў бамбасховішча, што мы і рабілі. На шчасце жыхароў Магільнага, нямецкія самалёты ні разу не бамбілі яго вуліцы, запоўненыя чырвонаармейцамі. Не было скінута ні адной бомбы па двух мастах цераз раку Нёман. Відаць, не рабілі гэтага таму, што глядзелі на тых чырвонаармейцаў як на верагодных ваеннапалонных. У той сітуацыі для немцаў не было аніякай патрэбы разбураць і масты, па якіх неўзабаве яны на вялікай хуткасці рухаліся наперад.

### Уваход у пагранкамендатуру не забараняецца

Як толькі адступленне савецкіх войскаў набыло масавы характар, вуліцы Магільнага да адказу перапоўніліся жывой сілай і тэхнікай, нам зусім перасталі трапляцца на вочы свае пагранічнікі. А бачыцца з імі вельмі хацелася, бо ад іх мы атрымлівалі так патрэбную ў той час самую свежую — і як заўжды істотна падфарбаваную — інфармацыю. Прычына не паказвацца на вуліцах была, прычым, надзвычай сур'ёзная. Употай ад людскіх вачэй камендатура ў вялікай спешцы рыхтавалася да эвакуацыі. Як пазней стала вядома, з ёю добра запазніліся, бо не было каманды зверху пакідаць свае пазіцыі. Пакінулі ж іх сярод ночы, таму ніхто з местачкоўцаў не быў сведкам той жахлівай падзеі. Жахлівай таму, што з уцёкамі пагранічнікаў людзям ужо нічога не заставалася чакаць, як толькі прыходу немцаў. Расчыненыя насцеж у камендатуру вароты спачатку наводзілі на магілян вялікі здзіў, а праз некаторы час ужо выклікалі жаданне зайсці туды, куды раней нікога без асаблівай патрэбы не пускалі. Людзі — дарослыя і дзеці — не сталі марудзіць з задавальненнем сваіх жаданняў. І варта было першым наведвальнікам паквапіцца на тыя ці іншыя неабходныя ім рэчы, як гэта адразу ж набывала масавы характар.

Так непрыступная да апошнягя часу камендатура стала аб’ектам суцэльнага рабавання. Ніводзін, чыя нага ступіла на яе тэрыторыю, не пажадаў заставацца ў ролі гледача. Маю ўвагу спачатку прыцягнула да сябе радыёапаратура, але, калі зразумеў, што яна наўмысна папсавана (вядома ж самімі пагранічнікамі), падаўся шукаць чаго-небудзь іншага. Гэтым іншым стала пакінутая на сталах закусь, якую ўжо з зайздросным апетытам елі хлопцы. Тут мне ўпершыню давялося пакаштаваць розныя віды варэння, да якога і сёння не раўнадушны. Добра падсілкаваўшыся, пайшоў у чытальную залу для пагранічнікаў, дзе прыхапіў партыю шашак і даміно. Бясконца рад быў, што ўдалося здабыць фабрычныя лыжы, бо дома меў толькі самаробныя. А вось канькоў нідзе не знайшоў. У адрозненне ад дзяцей дарослыя квапіліся на зусім іншыя рэчы: боты, валёнкі, кажухі, пасцельныя прылады. Пад вечар ужо пацягнулі дамоў мэблю. Адна з маіх сясцёр — Ліда ці Ада — прынесла досыць прыгожую этажэрку для кніг, якая прастаяла ў нашай хаце не менш як чвэртку стагоддзя.

Мінула ўсяго толькі суткі пасля эвакуацыі пагранічнікаў, а людзі, асабліва з суседніх да камендатуры дамоў, ужо пачалі разбіраць яе плот, службовыя, гаспадарчыя і жылыя аб’екты. Будавалі ж іх з вельмі добрага матэрыялу, які яшчэ мог паслужыць не адзін дзясятак гадоў. Аднойчы і мой тата пажадалі паглядзець разам са мной, як «распранаюць» камендатуру. Не вытрымалі і сталі на павышаным тоне размаўляць з тымі, хто займаўся дэмантажнымі работамі, і ў адказ пачулі:

— Ты што, Міхась, хочаш, каб усё гэта немцам дасталося, каб яны тут нейкую вайсковую арганізацыю размясцілі ці шпіталь адкрылі?

Тату не было што запярэчыць, і яны прамаўчалі. А назаўтра пайшлі на канюшню, запрэглі каня і два ці тры вазы прывезлі дамоў будаўнічага матэрыялу, які затым удалося выкарыстаць для розных гаспадарчых патрэб.

## Збліжэнне магілян з заходнімі беларусамі

Не баюся памыліцца ў сцвярджэнні, што з пачаткам панічных уцёкаў Чырвонай Арміі на ўсход ад вераснёўскай (1939) дзяржаўнай савецка-польскай мяжы адбылося не на словах, а ў рэальнасці аб’яднанне ўсходніх (савецкіх) і заходніх (польскіх) беларусаў. Канкрэтна для магілян гэта на поўную моц выявілася адразу ж пасля выезду з іх мястэчка пагранічнікаў. Яны да апошнягя дня трымалі на замку старую дзяржаўную мяжу толькі ўжо не з колішняй колькасцю асабовага складу. Літаральна праз дзень-два пасля патаемнай начной эвакуацыі пагранічнікаў у мястэчку з’явіліся людзі з «усходніх крэсаў», шукаючы ў ім сваіх родзічаў. І яны знаходзіліся, у тым ліку і ў суседняй нам хаце, дзе жыла з дзвюма дочкамі Ніна і Маняй цётка Параска (дзявочае прозвішча Дубіцкая, у замужжы — Лыч). У гэтую хату з вялікай радасцю завітала яе старэйшая сястра Гэлька з Мікалаеўшчыны, куды яна яшчэ да ўсталявання дзяржаўнай мяжы паміж СССР і Польшчай выйшла замуж. Некалькі дзён доўжылася тая ўзаемапажаданая сустрэча дзвюх сясцёр. Зразумела, запрашаліся на яе і суседзі. Нават і ў тыя грозныя дні тут ніяк нельга было абысціся без застолля, песень. Усё гэта на некалькі часу перапынялася толькі тады, як на нашай Кавалёўскай (цяпер — Камсамольскай) вуліцы зноў з’яўляліся чырвонаармейцы, спехам уцякаючы ад немцаў.

Даволі частымі сталі выпадкі наведвання Магільнага «заходнікамі» без дай прычыны, толькі з-за простай цікаўнасці. Не драмалі і магіляне, бо і яны хацелі ведаць пра жыццё людзей на захадзе ад былой дзяржаўнай мяжы. Як становічае адзначу, што ў час такіх узаемасустрэч не адбылося ніводнай канфліктнай сутычкі паміж людзьмі рознага ідэалагічнага выхавання, што можна патлумачыць усведамленнем імі сваёй прыналежнасці да аднаго і таго ж народа. У ходзе сумесных размоў часта ўзнімалася пытанне, дзе людзям лепш матэрыяльна жылося — у СССР ці ў Польшчы. Няцяжка здагадацца, што магіляне казалі ў СССР, а «заходнікі» — у Польшчы. Слухаўшы ўсё гэта, я ніяк не мог стрымацца і, прыйшоўшы дахаты, спытаў у заўжды аўтарытэтнага для мяне таты. Пасля прывядзення шэрагу важных аргументаў яны сказалі: «У Польшчы». Больш ужо я не ставіў перад сабою такога пытання, цалкам пагадзіўшыся з татам.

## Другая лавіна адступлення

Начны ад’езд пагранічнікаў са сваіх пазіцый выпадкова супаў з падзеннем масавасці панічных уцёкаў чырвонаармейцаў ва ўнутр краіны. Але, як неўзабаве высветлілася, усё гэта мела часовы характар, і вуліцы Магільнага, яшчэ ў большай ступені, ізноў былі забіты разгубленымі салдатамі і афіцэрамі. Відаць, ізноў дзесьці ім удалося вырвацца з нямецкага акружэння. І, каб яшчэ раз не паўтарылася такая бяда, як толькі маглі хутчэй беглі ад яе.

Мясцовае насельніцтва беспамылкова вырашыла для сябе, што яго пакідаюць сам- насам з ворагам, і таму не раз выказвала сваю незадаволенасць каму-небудзь з высокага вайсковага начальства. Аднойчы на свае вушы чуў ад чырвоных камандзіраў:

— Совершена непоправимая ошибка, и неизвестно, как можно выйти из этого ужасного положения.

І па сёння ў маёй памяці захоўваецца ад тых часоў незвычайны па смеласці ўчынак, аўтарства якога належыць усімі намі паважанай і любімай піянерважатай (ні імя, ні прозвішча на памятаю). Яе цалкам заслужанаму аўтарытэту сярод дзяцей мог бы пазайздросціць любы з настаўнікаў Магільнянскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы (да 1939/40 н.г. была няпоўнай сярэдняй школай). На летнія месяцы яна не паехала дамоў, а засталася ў Магільным працаваць з піянерамі. З болем у грудзях назіраючы за панічным адступленнем «непераможнай», яна

не стрымалася, стала пасярод вуліцы з распасцёртымі рукамі і пачала крычаць:

— Остановитесь! Почему вы избегаете сражения с врагом! Кому, как не вам, защитить нас от фашистской Германии!

— Уйдите в сторону с дороги! — пракрычаў хтосьці з камандзіраў.

Піянерважатая не зрушылася з месца. У аднаго з чырвонаармейцаў не вытрывалі нервы, і ён з такой сілай штурхнуў у грудзі абаронцу магілян, што яна паваліліся на зямлю. Імгненна падбеглі два салдаты і аднеслі бунтаўшчыцу да плота. Хаатычнае адступленне непераможнай Чырвонай Арміі працягвалася. Для абароны Магільнага чырвонаармейцы не зрабілі аніводнага прыцэльнага стрэлу па ворагу. Мо гэта і не самы горшы варыянт, бо ў выпадку ўзброенага супраціўлення гінулі б не толькі людзі ў вайсковай форме, але і мірныя жыхары. У тыя незабыўныя дні на магільнянскай зямлі не пралілося і кроплі чалавечай крыві.

## Некалькі дзён безуладдзя

Пачалося яно з ад’ездам з Магільнага кіраўнічых работнікаў мясцовага сельскага савета, партыйнага актыву і па часе супала з эвакуацыяй пагранічнікаў. І ў дадзеным выпадку не абышлося без панікі, стыхіі. Ніхто з начальства не звярнуўся са словам да сваіх жыхароў, не сказаў, як ім цяпер быць, калі савецкая ўлада спыняе сваё функцыянаванне. Дарэчы тут будзе сказаць, што ніводная магільнянская сям’я не падалася ў эвакуацыю.

Як бы людзям цяжка ні было бачыць поўную бездапаможнасць салдатаў Чырвонай Арміі, разгубленасць камандзіраў, адсутнасць канкрэтных дзеянняў з боку мясцовай улады, неяк жа мірыліся, звыкаліся з бядой. Адступалі ж, беглі, ратуючыся ад нямецкага палону, свае, родныя салдаты. А калі вуліцы вызваліліся ад іх, магілянам стала яшчэ цяжэй на душы, бо ведалі, што цяпер ужо давядзецца прымаць у сваім доме агрэсіўных, ваяўнічых немцаў. Па нейкіх прычынах яны не спяшаліся. А вось чырвонаармейцы сяды-тады з’яўляліся, праўда, невялічкімі групамі. Часам маглі прамчацца адна-дзве машыны. Адна з іх, да адказу загружаная снарадамі, прынесла вялікую бяду магілянам. Бачачы, што ў бензабаку паліва не больш як на тры-чатыры кіламетры, вырашылі на самай высокай хуткасці загнаць яе ў багністае балота. Тады, калі не мелі справы з заганнай практыкай суцэльнай меліярацыі, з гэтым не было праблем у Магільнага. Нашыя хлопцы беспамылкова вызначылі такую багністую мясціну, і ў шафёра ўсё выдатна атрымалася. На наступны дзень некаторыя з тых хлопцаў прыйшлі на тое месца, каб выняць з багны два-тры снарады і разабраць іх з мэтай знайсці патрэбны ім метал, хутчэй за ўсё волава. Сярод тых хлопцаў быў і выпускнік дзясятага класа Магільнянскай СШ Валодзя Туміловіч. Ён і ўзяў на сябе галоўную ролю па разборцы снарада, што закончылася выбухам са смяротным зыходам. Гэта была першая на магільнянскай зямлі ахвяра (самаахвяра) Другой сусветнай вайны. Пры ўступленні ж немцаў у Магільнае, пра што будзе падрабязная гаворка ніжэй, не было зроблена аніводнага стрэлу ні з аднаго, ні з другога боку, бо ніхто не абараняў гэты населены пункт.

Не без гонару за сваіх землякоў узгадваю і пішу, што ў той надзвычай складаны, непрадказальны час яны паводзілі сябе даволі прыстойна, абачліва. Ніякай панікі, безразважлівасці сярод іх не назіралася. Будучы кінутымі на волю лёсу сваімі пагранічнікамі-абаронцамі, тут жа ўслед за імі і савецкай мясцовай адміністрацыяй у асобе сельсавета, яны не разгубіліся і самі актыўна ўзяліся за ўсталяванне належнага грамадскага парадку ў мястэчку. Камусьці можа падацца дзіўным, але ўсю ўладу ўзяло ў свае рукі са згоды жыхароў кіраўніцтва калгаса імя Сталіна. Была арганізавана надзейная ахова агульнаадукацыйнай школы, крамаў, бальніцы, прамарцелі, памяшкання сельскага савета і іншых аб’ектаў грамадскага прызначэння. Не здарылася аніводнага выпадку рабавання прыналежнай ім маёмасці. Не ў малой ступені такі строгі парадак увялі ў надзеі, што вось-вось можа вярнуцца назад савецкая ўлада і трэба будзе адказваць перад ёй за ўсе парушэнні. Што ж да самой вытворчай дзейнасці калгаса і калгаснікаў, яна, як і ў мірны час, ішла ў звычайным для сябе рытме. Усе віды працы стараліся выконваць у строгай адпаведнасці са спрадвеку вызначанымі для нашай мясцовасці агранамічнымі тэрмінамі. За выкананне таго ці іншага задання працягвалі налічваць працадні, і людзі былі зусім не абыякавымі да таго, колькі іх удалося зарабіць за дзень. Калгасу пашанцавала, што пры адступленні чырвонаармейцы не рэквізавалі ў яго для сваіх патрэб аніводнага каня (ішлі ў асноўным пехатой), аніводнай каровы. А вось малака ад калгасных кароў можна было выпіць столькі, колькі душа пажадае, і многія салдаты спаўна выкарыстоўвалі такую магчымасць.

Зусім не бяздзейнічалі ў тыя дні непрацоўных узростаў дзеці. Усе, хто толькі мог, ішлі ў лес (а ён жа побач), збіралі ягады, а трохі пазней — грыбы, арэхі, плады ад дзікіх груш, якіх расло нямала ад тае пары, калі яшчэ не існавала калгаса. На шчасце магілян, лес у тым годзе надзіва быў багаты на дары прыроды. Цяпер ён і дваццатай долі не дае з таго, што ад яго атрымлівалі перад вайной і ў гады акупацыі. Яшчэ ў большай ступені гэта было характэрна прыгажуну Нёману (сёння ў дачыненні да яго нельга ўжываць такі эпітэт) і шматлікім азёрам, раскінутым паабапал яго берагоў. Акрамя дароў прыроды ў лесе не раз даводзілася знаходзіць кінутую чырвонаармейцамі зброю, асабліва ручныя гранаты. Хлопцы старэйшых узростаў хутка навучыліся карыстацца імі, і, дзякаваць богу, не мелася аніводнага звязанага з узрывам гранаты няшчаснага выпадку. Больш абачлівыя дарослыя людзі пастараліся прыхаваць знойдзеную зброю, якая так спатрэбілася з пачаткам партызанскага руху ў нашай мясцовасці.

## І ў вайну смачна п'ецца гарэлка

У час, калі трохі зменшылася лавіна рынутага на ўсход савецкага войска, да некаторых магілян дайшла досыць радасная чутка: на станцыі Негарэлае (гэта трохі больш за 20 км ад Магільнага) на тупіковых пуцях стаіць чыгуначны састаў з запоўненымі спіртам цыстэрнамі. Доўга не раздумваючы, людзі ахвотна падаліся на такі досыць прывабны для іх промысел. Не ўстрымаліся і мой тата, добра ведаючы цану спірту пры любых жыццёвых сітуацыях. Кіраўніцтва калгаса не пашкадавала коней для такой важнай паездкі. Усё, у што толькі можна было зліваць спіртное, людзі стараліся ўзяць у дарогу. Майму тату нехта дапамог прыдбаць для гэтай мэты нават пару бідонаў з мясцовага малаказавода. Позна ўвечар у незвычайна бадзёрым настроі тата ўехалі ў двор з посудам, да краёў напоўненым спіртам. Радаваліся ўсяму гэтаму і мама, бо ведалі, што за спірт заўсёды можна будзе наняць каго-небудзь на мужчынскую працу. Хворы тата не спраўляліся з ёю. Бальшыня ж магілян зусім інакш паставілася да спіртнога. Яно неадкладна пайшло у ход па сваім прамым прызначэнні. Нічога не ведаючы наперад, што нас чакае, той-сёй без асаблівай нагоды ладзіў застоллі, у час якіх удзельнікі іх ужо на добрым падпітку зацягвалі якую-небудзь з любімых песняў. Відаць, такая ўжо псіхалогія ў людзей: не здраджваць сваім традыцыям і ў вялікай бядзе і горы. А былі і такія, што пілі ад радасці, бо ведалі, што цяпер ужо ніхто ўначы не пад'едзе на «чорным воране»да іх хаты, каб адвезці ў Вузду, дзе, не пытаючыся тваёй згоды, пастараюцца выпісаць «ільготную пуцёўку» на Салаўкі альбо ў сібірскую ссылку. Дзеля справядлівасці адзначу, людзі ў той час пілі і напіваліся так, каб заўтра разам з усімі ісці працаваць на сенажаць ці ў поле. Ніхто нават і не думаў прыхапіць на працу бутэльку спіртнога, як гэта ў пасляваенныя гады будуць практыкаваць многія кагасныя механізатары. Дармавое негарэльскае спіртное не прынесла істотнай шкоды магілянам.



# 3. НА ВУЛІЦАХ МАГІЛЬНАГА ВОЙСКІ ВЕРМАХТА

## Першых немцаў прывіталі музыкай

У нашым мястэчку немцы з'явіліся прыкладна на дзясяты дзень пасля заканчэння масавага адыходу праз яго злучэнняў Чырвонай Арміі. За гэтыя дзесяць дзён якія толькі думкі не прыходзілі ў галаў да людзей?! Будучы наглуха адрэзанымі ад навакольнага свету, некаторыя з іх меркавалі, што дзесьці, мо зусім недалёка ад Магільнага, ідуць кровапралітныя баі, і вось-вось па яго вуліцах ізноў закрочаць чырвонаармейцы, толькі ўжо не ва ўсходнім, а заходнім напрамку. Не, такога не адбылося. У мястэчка ўварваўся вораг, прычым не з таго боку, адкуль чакаўся. Першая група матацыклістаў на вялікай хуткасці мчалася з боку Вузды, а не Стоўбцаў, выбраўшы дзеля свайго маршруту нядаўна пабудаваную шашу. Адбылося такое недзе апоўдні, калі дарослыя людзі знаходзіліся на сенажаці альбо ў полі. Я ў гэты час разам з сябрамі купаўся ў Нёмане, каб трохі адпачыць і зноў падацца ў лес па дары прыроды. Не падаўся, бо карцела ведаць, а што ж там у мястэчку робяць гэтыя матацыклісты. Такое ж жаданне было і ў астатніх хлопцаў. Рушылі ў цэнтр мястэчка, дзе заўсёды пры якой-небудзь сур'ёзнай нагодзе збіраліся людзі. Так яно было і на гэты раз. Моцна здзівіла, што каля плота ўжо паспелі сабрацца мясцовыя музыканты (не ведаю па чыёй ініцыятыве?) і сваім далёка не прафесійным граннем віталі нямецкіх матацыклістаў. Такое тым вельмі падабалася. Думаю, шкадавалі, што не мелі пры сабе кінакамеры, а вось фотаапаратамі шчоўкалі ўволю. Хтось з дарослых крыкнуў:

— Дзеці! Чаго стаіце? Бяжыце дахаты, нясіце немцам яйкі!

Кінуўся бегчы і я. Мама якраз былі ў хаце, бо ў іх моцна балелі зубы. Яек мне не далі, патлумачыўшы, што ў нас іх нестае і для сваёй патрэбы, нават хвораму бацьку. Вярнуўся да месца першай сустрэчы магілян з немцамі і стаяў трохі наводдаль ад людскога натоўпу, бо яек жа не прынёс. Ні ў гады акупацыі, ні пасля яе не было прынята ўзгадваць пра тую «ўрачыстую» сустрэчу немцаў магілянамі. І вядома чаму. Я ж лічу, што яе наладзілі толькі дзеля ўхілення ад якіх-небудзь рабаўніцкіх акцый з боку немцаў супраць мясцовага насельніцтва. Сярод жа музыкаў стаяў на першым плане і граў галоўную скрыпку двухметровы Костусь (і раней, і зараз гэтае імя ў нашай мясцовасці пішуць толькі праз «о»), два сыны якога перад вайной служылі ў Чырвонай Арміі і не маглі не ўдзельнічаць у баях з фашыстамі.

Я не ваенны тактык, а тым больш не ваенны стратэг, таму магу памыліцца пры вызначэнні асноўнай мэты нямецкага матацыклетнага дэсанта ў Магільнае і яго ваколле. Думаю, што гэтаму паслужыла неабходнасць вывучэння стану мясцовых дарог, каб па іх пусціць на ўсход

пэўную частку войскаў Вермахта, паколькі галоўныя аўтамагістралі з-за вялікай перагрузкі не спраўляліся з гэтай задачай.

### Канфлікты абміналі мястэчка

Літаральна на другі дзень пасля сустрэчы з матацыклістамі ўсё Магільнае дрыжэла ад магутнага гулу баявой тэхнікі. Ні пешшу, ні на павозках ніхто не рухаўся наперад. Усю нагрузку ўзяў на сябе аўтатранспарт. Здзіўлялі сваімі велізарнымі габарытамі розныя віды баявой тэхнікі. Параўноўваючы ўсё гэта з тым, што даводзілася бачыць пры адступленні войскаў Чырвонай Арміі, практычна ўсе магіляне згаджаліся з нярадаснай думкай, што больш ніколі яны не вернуцца ў нашыя краі.

У якасці цяглавай сілы немцы выкарыстоўвалі і коней, але не такіх, як у савецкім войску. Усе яны былі бельгійскай пароды, з кароткімі хвастамі, і здавалася, што па сіле не ўступаюць аўтамашынам-палутаркам, што былі ў нашым калгасе. З такімі коньмі немцы з'явіліся ў нашым мястэчку значна пазней, калі ўжо па ім завяршыўся рух баявой тэхнікі, аўтакалон.

Масавы характар насіла выкарыстанне нямецкімі салдатамі самых розных марак матацыклаў, веласіпедаў, намнога лепшых за савецкія. Словам, ніхто з заваёўнікаў не намульваў ногі на нашай зямлі. Уражвалі вясёлыя твары салдат. Ехалі ў адкрытых кузавах аўтамашын, на конных павозках нібыта на якое-небудзь вялікае свята, а не ўдзельнічаць у баявых аперацыях. Часта чуліся вясёлыя, бадзёрыя маршавыя песні. Аднойчы на беразе Нёмана, калі ў немцаў надарылася магчымасць пакупацца ў яго тады выключна чыстых, празрыстых водах, адзін з салдат на ўвесь голас зацягнуў папулярную савецкую «Кацюшу». На нашае пытанне, адкуль ён ведае гэтую песню, даў такі адказ:

— Я участвовал в сентябре 1939 года в войне Красной Армии с Польшей. Как только наша часть вплотную приблизилась к немецкой и возникла возможность перейти на ее сторону, незамедлительно воспользовался этим подарком.

Гэты салдат папрасіў нас разам з ім паспяваць «Кацюшу». Згадзіліся. Як толькі пачалі спяваць, немцы нас тут жа сфатаграфавалі і ўзнагародзілі апладысментамі.

Увагу не толькі дзяцей, але і дарослых прыцягвала ігра нямецкіх салдат на губных гармоніках. Раней з такім інструментам нам не даводзілася сустракацца. Іншым разам дастаткова было ахвяраваць дзясятак курыных яек, і губны гармонік у тваёй кішэні. Мне ж далі дарма за тое, што ўмеў трохі гаварыць па-нямецку (па школьнай праграме за 5-ы клас). Граць так і не навучыўся. Гэтым інструментам авалодаў самастойна і даволі хутка толькі адзін з магільнянскіх хлопцаў, якога звалі па-вулічнаму Майсееў Міша (прозвішча Лукашэвіч).

Многіх немцаў вызначала павышаная зацікаўленасць жыццём насельніцтва акупаванай тэрыторыі. Аднойчы нас, дзяцей, папрасілі



падвесці да хаты, дзе жыве ўдарнік ці стаханавец. Нічога адметнага не ўбачыўшы ў абліччы, паводзінах такіх людзей, дапытлівыя немцы ўсё ж засталіся задаволенымі сустрэчай з імі. З асаблівай прыемнасцю размаўлялі з ваеннапалоннымі часоў Першай сусветнай вайны, па-добраму здзіўляючыся, што яны яшчэ не забыліся нямецкай мовы. Недалёкаму ад нашага дома суседу дзядзьку Івану за здольнасць паразмаўляць па-нямецку надавалі столькі цукерак і пячэння, што ён нават не пашкадаваў і з намі падзяліцца гэтымі ласункамі. Далі яму і шмат цыгарэтаў. Імі ўжо не падзяліўся з намі. А хацелася, бо надта ж духмянымі падаваліся яны ў параўнанні з гродзенскай махоркай, да якой зрэдку, тайком ад бацькоў, прыкладаў і я руку.

У нямецкім войску знаходзілася нямала людзей самых розных нацыянальнасцяў, але найбольш рускіх, прычым нават і тых, хто ваяваў супраць чырвонаармейцаў у гады Грамадзянскай вайны. Мне ўдалося папрысутнічаць у час вечаровай размовы аднаго з іх з мужчынамі нашай Кавалёўскай вуліцы. Столькі выказанай ім нянавісці на бальшавікоў, Саветы, камунізм мне і да гэтага і пазней не даводзілася чуць. Былы царскі салдат з такой радасцю ішоў, паводле яго слоў, «добивать эту нечисть», што нават даволі салідны ўзрост не быў яму перашкодай, каб пераносіць увесь цяжар вайны.

Агульнавядомыя жорсткасць, здзекі нямецкіх захопнікаў з савецкіх ваеннапалонных, асабліва палітработнікаў і афіцэраў, чаму, аднак, былі і выключэнні. У двары суседняга дома бачыў сярод немцаў савецкага афіцэра ў поўнай форме (толькі без пятліц), які выконваў розныя іх даручэнні (найчасцей за ўсё кухонныя), прычым і застаючыся сам-насам. Калі я з хлопцам гэтага дома Толем Дзесюкевічам цвёрда пераканаліся, што ўсе немцы гэтай групы пайшлі на Нёман купацца, сталі прапаноўваць савецкаму афіцэру арганізаваць уцёкі агародамі, за якімі было балота (не багністае), а за ім лес. Абяцалі забяспечыць цывільным адзеннем, даць што-небудзь з яды на дарогу. Афіцэр адмовіўся, сказаўшы:

— Вы, пацаны, лучше поищите в огороде что-нибудь из зелени, чтобы у меня вкусный борщ получился.

Паслухаліся. Калі вярнуліся салдаты, боршч быў згатаваны. Кожны з іх, з'еўшы сваю порцыю, хлопаў савецкага афіцэра па плячуку, прыгаворваючы «Danke!». Паабедаўшы, салдаты разам са сваім савецкім палонным паўскоквалі ў кузаў аўтамашыны і накіраваліся ў дарогу.

### Пакаранне за самаўпраўства

Непрыемныя сітуацыі ў жыхароў Магільнага сталі ўзнікаць, калі праз яго пачалі рухацца ар'ергардныя, тылавыя часці нямецкага войска. У іх меліся пэўныя праблемы з забеспячэннем салдат і коней харчаваннем, што імкнуліся кампенсаваць хоць у нейкай ступені за кошт мясцовага

насельніцтва. Найбольшыя страты панеслі прыдарожныя пасевы яравых і азімых культур. Ар’ергардныя нямецкія вайсковыя часці даволі часта выкарыстоўвалі ў якасці транспартных сродкаў і на тэрыторыі Беларусі падводы аж з самой Польшчы. Каб не даць знясіліцца сваім коням, польскія возчыкі ў час прывалу выпашвалі іх на засеяных збожжавымі культурамі палях. Адзін з такіх надзвычай ужо руплівых вазакоў не стрымаўся і скасіў, знайшоўшы пад страхой касу, нават у агародзе пры самой хаце Васіля Лыча (па-вулічнаму: Пінчукоў) каля дзвюх сотак маладога зялёнага проса. Убачыўшы такую патраву, гаспадыня кінулася ў плач. Суседзі параілі шукаць абарону ў каго-небудзь з нямецкіх камандзіраў. Знайшла. Меру пакарання выбралі строгую: загадалі зняць порткі, легчы жыватом на лаўку. Пасля двух-трох удараў шомпалам раздаўся такі енк, што сама гаспадыня стала прасіць спыніць далейшае пакаранне. Спыніліся не адразу, але казалі, што да дзесяці ўдараў шомпалам не дайшло. Скошанае проса, паколькі ў ім патрэбы не было ў гаспадароў, пагрузілі на воз, але з імі належным чынам разлічыліся прадуктамі харчавання і духмянымі цыгарэтамі.

## Не здрадзілі клятве Гіпакрата

У гады вайны людзі гінуць не толькі ад варожай кулі. Як і ў мірны час, яны развітваюцца з жыццём з-за невылечнай хваробы, у выніку якога-небудзь няшчаснага здарэння. Не абмінула яно і адну з магільнянскіх жанчын (імя і прозвішча не памятаю), калі па вуліцы мястэчка на поўным ходу мчалі наперад нямецкія аўтамашыны. Нягледзячы на набліжэнне навальніцы, яна працягвала з матыкай у руках працаваць на сваёй сядзібе. І раптам бліснула маланка, моцна ўскалыхнуў паветра гром, і жанчына звалілася вобзем. Пачуўся крык:

— Людзечкі, ратуйце! Жанчыну маланкай забіла.

На крык збегліся людзі з суседніх хатаў. Што рабіць у час такога здарэння, ведалі, таму адразу пачалі капаць яму. Ад аднаго з тых выратавальнікаў пачулі, што ўжо не адну гадзіну ў Магільным адпачывае нямецкая аўтакалона, у якой ёсць і санітарная машына. Да месца знаходжання гэтай машыны хутка пабеглі хлапчукі і, як маглі, патлумачылі, што здарылася. Доктар тут жа выказаў гатоўнасць дапамагчы. Ён цалкам пагадзіўся, што ў яму змясцілі ахвяру навальніцы, праверыў, ці б’ецца пульс, ці дыхае яна, а таксама зрабіў некалькі ўколаў. Магчыма, збіраўся і яшчэ штосьці выканаць, але прыбег на месца здарэння салдат і даў знак, што трэба збірацца ў дарогу. Доктар асабліва не спяшаўся, бо, відаць, хацеў пераканацца ў шчаслівым зыходзе лячэння. Тая жанчына выжыла і яшчэ пару дзесяткаў гадоў прабыла на гэтым свеце. Кажуць, што ад яе ні разочку не чулі праклёну на адрас немцаў (а яны ж, як будзе паказана ніжэй, заслугоўваюць яго нават ужо і за тое злачынства, што ўчынілі для самых жыхароў Магільнага), хаця і хтосьці з яе родных, блізкіх не вярнуўся з вайны дамоў. Людзі даўжэй памятаюць дабро, чым зло, і не мяняюць першае на другое.



## Патрапілі ў аб’ектыў кінакамеры

Рух нямецкіх войскаў праз Магільнае не заўсёды вызначаўся сваёй бесперапыннасцю, транзітным характарам. Хаця і рэдка, але некаторыя з іх маглі тут затрымацца на дзень альбо на цэлыя суткі. Такі даволі працяглы час адводзіўся не толькі для адпачынку пасля нядаўняга бою. Займаліся і іншымі справамі. Камандаванню адной з абраных Магільнае ў якасці прывалу ваенных часцей стала вядома, што ў мястэчку маюцца дзве зачыненыя на замок крамы з таварамі, завезенымі яшчэ перад вайной. Такі парадак не мог не здзіўляць, аднак усё ж немцы вырашылі пакласці яму канец. Людзей апавясцілі, што заўтра будуць бясплатна выдаваць усё, што маецца ў крамах. Даведаліся пра гэта і ў суседніх вёсках. Немцы аказаліся гаспадарамі свайго слова. Начавалі яны пад адкрытым небам у аўтамашынах, а хтосьці проста на зямлі, бо тэмпературныя ўмовы спрыялі гэтаму. Раніца пачалася з пастраення салдатаў і ўручэння некаторым з іх ордэнаў і медалёў. Як мы заўважалі, радасці не было канца ва ўзнагароджаных. Пасля гэтага большыня салдатаў пайшла купацца на Нёман, а пяць-сем чалавек накіраваліся да прамтаварнай крамы, дзе ўжо сабраўся вялікі натоўп мясцовых жыхароў у надзеі атрымаць штосьці патрэбнае для сябе. Як-ніяк ішла вайна, і кожны ведаў, што не так проста будзе здабыць сабе тую ці іншую рэч. Не ведаю, па якой прычыне на тую дзяльбу не пайшлі мае бацькі. Я ж там прысутнічаў толькі ў ролі гледача, і было мне на што паглядзець. Бачыў, як рашуча адчынілася шырокае вакно крамы, і на падаконнік узабраўся даволі рослы немец. Ззаду яго знаходзіўся з вялікімі нажнамі другі немец. Ён адразаў з рулона кавалкі тканіны, якія з падаконніка кідалі ў людскі натоўп. Жаданне ўхапіць бясплатную здабычу аказалася ў людзей надзвычай вялікае. Немцы пільна сачылі, каб у руках каго-небудзь з найбольш увішных не апынуліся два кавалкі матэрыі. Ледзь да сапраўднай бойкі не дайшло тады, калі з рук адной жанчыны пачалі вырываць матэрыю, тлумачачы гэта тым, што яна (жанчына) прыйшла з суседняй вёскі Галавачы. Для немцаў гэта не з’явілася важкім аргументам, і яны сталі на бок жанчыны (была яна з сынам), дапамаглі выйсці з надзвычай актыўнага натоўпу і вывелі на вуліцу. Увесь час, як раздавалі тканіну, няспынна працаваў кінаапарат. Так што з зазнятымі ім сцэнкамі, напэўна, пазнаёміліся ў Нямеччыне і залежных ад яе краінах шмат гледачоў. Вось толькі невядома, ці патлумачылі ім, каму належалі тыя рулоны тканіны — савецкай краіне ці Трэцяму рэйху. Дзеля прапаганды больш выгадна было тую раздачу прыпісаць апошняму. Хутчэй за ўсё так і зрабілі незаконныя гаспадары выраблenай на савецкіх фабрыках тканіны.

## Магільнае не ведала людскіх страт

Як толькі пачалася вайна Германіі з СССР, савецкіх людзей пачалі заклікаць бязлітасна знішчаць ворага. У нас да такіх заклікаў неяк не прыслухаліся, хаця на момант уступлення нямецкіх войскаў у мястэчка ў ім жыло нямала камуністаў, дарослых камсамольцаў. Як высветлілася пазней, некаторыя з найбольш смелых, адданых бальшавізму людзей хавалі чырвонаармейцаў у сваіх хлявах, на гарышчах дамоў. Да надыходу халадоў некаторыя з чырвонаармейцаў пастаянна жылі ў лясах. Аднак прыцэльнага стрэлу ў бок ворага ніхто на зрабіў, што мо і на карысць пайшло мясцоваму насельніцтву, бо ў адваротным выпадку яго не пакінулі б беспакараным. Аднаго салдата немцы страцілі ў Магільным, але па віне — не магу ўстрымацца ад цалкам заслужанага эпітэта — прыгажуна бацькі Нёмана. Пры першай нагодзе яны з вялікай ахвотай акуналіся ў яго празрыстыя воды, што мо было не характэрна для рэк Нямеччыны. Нам, дзецям, у гэты час было на што паглядзець і павучыцца, як трэба даваць нырца з берага, прыгожа і хутка плаваць. Аднойчы ўволю пабавіўшыся ў рацэ, не такая ўжо шматлікая група немцаў, як пачала адзявацца, недалічылася аднаго чалавека. Сумненняў не было: утапіўся. У ваду хуценька нырнула тры ці чатыры плыўцы. Першая спроба не дала жаданага выніку, хаця кожны з іх доўга знаходзіўся пад вадой. Другая спроба аказалася ўжо выніковай. На бераг выцягнулі даволі дзябёлага тапельца. Ва ўсіх дачыненнях вельмі прафесійныя спробы вярнуць яго да жыцця сталіся марнымі. Занадта доўга ляжаў на дне ракі. Камандзір групы аблаяў амаль кожнага салдата, з вялікай злосцю трос кулакамі над іх галовамі, затым даў каманду адзець тапельца ў яго форму і аднесці ў машыну. У якім месцы выкапалі яму магілу, ніхто з нас не ведаў.

## Бяда напаткала яўрэяў

У Магільным пра лёс яго яўрэйскага насельніцтва ўсур'ёз загаварылі адразу ж пасля таго, як даведаліся пра першыя поспехі войскаў Вермахта і адступленне Чырвонай Арміі. Прадстаўнікі гэтага старажытнага народа, як засведчана ў літаратурных крыніцах, пасяліліся ў дадзенай мясцовасці прыкладна ў XVI ст. З тубыльскім насельніцтвам жылі ў згодзе, і таму ніхто не жадаў, каб яўрэі сталі ахвярай нямецкага акупацыйнага рэжыму. А так думаць мелася дастаткова падстаў, пра што добра паклапаціліся дэпартаваныя з Польшчы ў Магільнае яўрэі. Проста жахліва было чуць пра перанесеныя імі ад немцаў здзекі. У самага любімага намі, дзецьмі, дзядзькі Элі за яго беспамылковае вызначэнне прозвішча кожнага з нас, імя бацькоў у першыя ж дні вайны сталася штосьці няладнае з псіхікай. Ён перастаў выходзіць на вуліцу, сустракацца, весці размовы з людзьмі і, са слоў яўрэяў, толькі крычаў праз фортачку, што нам прыйшоў канец.



Як на тую бяду, гэтае горкае прадказанне і сапраўды праз пэўны час спраўдзілася, прычым для ўсёй магільнянскай абшчыны яўрэяў, бо ніхто з іх не падаўся ў эвакуацыю.

Салдаты перадавых нямецкіх часцей, зразумеўшы, што Магільнае — гэта не якая-небудзь вёска, а мястэчка, усяляк стараліся ад мясцовых жыхароў беларускай нацыянальнасці даведацца, дзе ў ім жывуць яўрэі. Не ведаю, што адказвалі на такое пытанне, але на працягу трох-чатырох дзён руху нямецкіх войскаў па вуліцах мястэчка не засведчана аніводнага канфлікта на гэтай глебе. Заслуга тут і саміх яўрэяў, якія не толькі не паказваліся на вуліцах, але стараліся ў сваіх месцах пражывання знаходзіцца ў самых патаемных закутках. А вось што да беларусаў з няярка акрэсленым для іх нацыянальнасці аблічам, тут праблемы ўзнікалі і з вялікай цяжкасцю вырашаліся на карысць вызначанай фашыстамі ахвяры.

Першым з магільнянскіх яўрэяў, што трапілі ў няміласць пераможцаў, стаў усімі намі любімы дырэктар мясцовай сярэдняй школы Самуіл Бэркавіч Добкін (1906 г.н.). Прырода аказалася нееласкавай да яго: быў гарбаты, што, праўда, нікольві не ўплывала на стаўленне да гэтага добрага, справядлівага чалавека як з боку школьнікаў, так і дарослых. Як і многія дзеці, я цэлымі днямі сядзеў на прызбе сваёй хаты і сачыў за рухам нямецкіх войскаў, дзівячыся іх сучасным магутным узбраеннем, чаго не даводзілася бачыць пры панічных уцёках Чырвонай Арміі. Надышоў час абеду, і я падаўся ў хату. Не паспеў сесці за стол, як з вуліцы пачуў моцныя крыкі. Глянуўшы ў вакно, што выходзіла на вуліцу, убачыў, як немцы, паваліўшы дырэктара школы на зямлю, б'юць яго нагамі. Я разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Добра, што ў гэты час была ў хаце маладзейшая за мяне на адзін год сястра Ада. Расла яна вельмі смелай, адважнай, лёгка ўваходзіла ў кантакт з усімі, у тым ліку і з дарослымі людзьмі. Убачыўшы, што чвэраць на вуліцы немцы, яна імгненна кінулася ў самы цэнтр падзеі і на ўсё горла закрычала:

— Што вы робіце! Гэта ж дырэктар нашай школы. Ці ж вы не бачыце, што ён яшчэ і калека?

На крык Ады збегліся мая старэйшая за мяне на два гады сястра Ліда, з суседніх дамоў яшчэ старэйшыя за яе Зіна, Ніна і Ларыса. Немцы, відаць, не чакалі такой бурнай рэакцыі, прычым з боку моладзі ды яшчэ жаночага полу, і спынілі сваю гнюсную экзекуцыю. Акрываўленага дырэктара школы пасадзілі на лаўку супрацьлеглага нашаму дома, і дзяўчаты сталі марляй, чыстымі белымі льнянымі анучачкамі выціраць ад крыві твар. Неўзабаве, саскочыўшы з аўтамашыны, падышоў да нас немец і пальцам паказаў, што збітую да крыві ахвяру лепш аднесці, схаваць на двары, што мы і зрабілі. А як толькі сцямнела ды на нейкі час спыніўся рух нямецкіх аўтакалон, мы на калясцы адвезлі дырэктара дахаты. Якім пасля ўчыненых пабояў было ў яго здароўе, мне невядома, але ён застаўся жывы і разам з усімі сваімі супляменнікамі ў вялікім страху чакаў суднага дня.

## 4. САВЕЦКІ ЛАД ЗМЯНІЎСЯ НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫЯЙ

### Не спыніла жыцця акупацыя

Магіляне добра ўсведамлялі сабе, што як бы шмат войскаў ні пасылаў Вермахт на Маскву, рана ці позна іх рух спыніцца ў мястэчку. Такі час надышоў дзесьці ў канцы першай дэкады ці ў сярэдзіне месяца ліпеня. Міналі дні, а на вуліцах стаяла нязвыклая цішыня. Людзям стала аж трохі ніякавата ад гэтага, бо іх зямлю таптаді свае і чужыя салдаты больш за паўмесяца. У той складанай сітуацыі нельга было не думаць, а што ж цяпер за парадкі ўсталююцца ў родным доме. Людзі думалі цяпер пра гэта і індывідуальна, і супольна. Асаблівых перажыванняў з-за ліквідацыі савецкага рэжыму не назіралася. За галоўнае лічылася своечасовае выкананне звязаных з вядзеннем калектыўнай і асабістай гаспадарак прац. Праводзіліся яны з пэўным парушэннем тэрмінаў, прычыну чаму, вядома ж, трэба шукаць у падзеях ваеннага часу.

Неабходна адзначыць, што напачатку ўведзены немцамі акупацыйны рэжым меў чыста сімвалічны характар, да многага не абавязваў людзей. Для абсалютнай бальшыні з іх, як і ў час адступлення савецкіх і наступлення нямецкіх войскаў, галоўным гаспадаром, носьбітам улады на месцы з'яўлялася кіраўніцтва калгаса. Працавалі мо больш ахвотна, чым у мірны час, бо абяцалі нешта даць на працадні. А іншых жа заработкаў не знайсці было. З прычыны недахопу мужчынскіх рук вельмі актыўна далучалі да калгаснай працы дзяцей. І яны ахвотна ўдзельнічалі ў ёй. Мне вельмі падабалася падаваць на воз снапы. Некаторыя палі магільнянскага калгаса знаходзіліся аж за 5–7 кіламетраў ад мястэчка. З такіх палёў нельга было больш як два разы прывезці снапы. Проста не перадаць, колькі было радасці праехаць на выкладзеным імі возе, пабачыць штосьці з таго, з чым раней не даводзілася сустракацца. Па традыцыі савецкіх часоў дзяцей, толькі ўжо не як піянераў і камсамольцаў, пасылалі на палі збіраць каласы. Бацькі ўсяляк віталі гэта, што і ў часы акупацыі надавала калгаснай працы ўласцівую ёй масавасць.

### Баравікі ў абмен на грэчку

З пачаткам грыбнога сезона тата парэкамендавалі мне перайсці з розных відаў калгасных сельскагаспадарчых прац да збору дароў прыроды, сказаўшы, што гэта больш прыбытковая справа. І не памыліліся. Пры маёй, праўда, яшчэ хлапцоўскай памяці, наш лес ніколі яшчэ не быў такім багатым на грыбы, асабліва баравікі, як улетку-ўвосень ваеннага 1941 года. Сёння ніхто не паверыць, што тады я на працягу светлавога дня мог аж тры разы схадзіць у лес і кожны раз прынесці дамоў па кашы толькі адных баравікоў, часта нават з адрэзанымі карэньчыкамі. Сучасная цывілізацыя давяла да таго, што зараз у многіх нашых лясах не так проста за дзень назбіраць і кош баравікоў. Звычайна ў лес я хадзіў па два разы на дзень. Іншым разам ішлі са мною ў грыбы сёстры Ліда і Ада. Грыбнікі з іх былі пасрэдныя.

Што ў Магільным так актыўна, шырока разгарнуўся грыбны промысел, хутка даведаліся прадпрымальныя людзі з суседніх вёсак былой Заходняй Беларусі. Яны не памыліліся, палічыўшы, што з гэтага і самі могуць атрымаць добры прыбытак праз арганізацыю тавараабмену. Асабіста нашай сям'і яны прапанавалі грэчку, на што ахвотна згадзіліся бацькі. Задавальняў такі абмен і іх дзяцей, бо ў нашым доме грэчка не так часта падавалася на стол. Жаданне хадзіць у грыбы дзеля іх абмену на грэчку не мела межаў. Да гэтага падахвоцілі яшчэ і словы закупшчыка, што ён збывае іх у Варшаву, а тамашнія купцы вязуць іх у розныя краіны Еўропы. Во, думаю, ажно дзе апынуцца сабраныя мною магільнянскія грыбы! І ўсё ж галоўнае, што клікала мяне ў лес — гэта здача грыбоў непасрэдна самому прадпрымальнаму чалавеку з мэтай зарабіць столькі грэчкі, каб яе хапіла на ўсю сям'ю да новага ўраджаю. З такой задачай разам з сёстрамі паспяхова справіліся. Аж да новага ўраджаю ўсёй сям'ёй уволю елі грэчку, чаго сёння, у мірны час, не могуць дазволіць сабе многія з-за рэкордных цэнаў на яе. Вядома, з шэрагам прадуктаў харчавання меліся сур'ёзныя праблемы, але да голаду не дайшло. У першы год акупацыі харчаваліся ніколькі не горш, як перад вайной. У асабістай гаспадарцы меліся карова, пара свіней, а да ўсяго гэтага прыдбалі яшчэ і казу, малако ад якой прызначалася хвораму тату.

### Татальнае хрышчэнне дзяцей

Прыкладна з сярэдзіны 30-х гадоў для магілян ужо не з'яўлялася правілам хрысціць у цэрквах сваіх дзяцей. Калі пачалася вайна, у наш край прыйшлі акупанты, людзей, вядома, агарнуў страх за сваю будучыню. З розных нагод яны ўсё часцей пачалі звяртацца да Бога. Многіх не задавальняла, што ў такі трывожны час дзеці растуць няхрышчанымі. Выканаць гэты абрад сталася зусім не простай справай: не было свайго папа. Беспапоўе доўжылася ад 1937 ці 1938 года, калі ў мястэчку па загаду бальшавіцкай улады дэманціравалі царкву. Хтосьці добра паклапаціўся, і дзесьці ў ліпені ці жніўні 1941 года ў Магільнае прыехаў поп з недалёкай ад яго Мікалаеўшчыны. Балазе, на магільнянскіх могілках захавалася капліца, дзе і адслужыў той поп малебен, а затым стаў хрысціць дзяцей, прычым не ў памяшканні капліцы, а пад адкрытым небам. Дзень выдаўся пагодлівым, па-летняму цёплым. Яшчэ ніколі на магільнянскіх могілках

не збіралася столькі людзей, як у той дзень. Прывезлі дзяцей і з суседніх вёсак. Ад гэтага абраду не пажадалі вызваліць сваіх дзяцей нават і тыя, хто перад вайной насіў у кішэні партыйны ці камсамольскі білеты, актыўна ўдзельнічаў у правядзенні атэістычных мерапрыемстваў.

## На тварах людзей з'явіліся ўсмешкі

Нічога людзі гэтак не шкадуюць, як марна пражытых гадоў у перыяд сваёй маладосці. Нямецкая акупацыя акурат і магла пазбавіць магільнянскіх хлопцаў і дзяўчат усялякай радасці. Такога ж не назіралася. Дзіву даешся, адкуль толькі з'явіліся ў іх і жаданне, і сіла волі, каб не паддацца роспачы ў тых экстрэмальных умовах. Не пазней як праз дзесяць дзён, калі ўжо спыніўся рух нямецкіх салдат па вуліцах мястэчка, сям-там па вечарах чуліся гукі гармоніка. Гэтым папулярным музычным інструментам многія валодалі ў нас, прычым і на даволі высокім выканаўчым узроўні. Неўзабаве ў ход пайшлі скрыпкі, гітары, балалайкі, мандаліны, барабаны, і моладзь, забыўшыся на ўсё, пусцілася ў скокі. Вельмі настойліва прасілі маіх бацькоў даць дазвол на ладкаванне танцаў у нашай даволі прасторнай хаце. Просьбу не выканалі: хутчэй за ўсё з-за хваробы таты. Знайшлі хату ў іншым месцы. У час танцаў усё часцей заўважалася, што ў іх удзельнічаюць і зусім незнаёмыя, не з нашага мястэчка і суседніх яму вёсак, хлопцы. Як высветлілася, гэта былі чырвонаармейцы (пераважна афіцэры), якія пры адступленні не адважыліся далей прабірацца на ўсход і пастаянна жылі ў надзейных, на іх погляд, сем'ях. Цяпер гэтыя чырвонаармейцы, паколькі немцаў не было ў мястэчку, смела павыходзілі са сваіх схованак і таксама не адмаўлялі сабе ў розных забавах. Моцна пасябравалі паміж сабой мясцовы Міша Жыгаловіч і яго цёзка з афіцэраў. Здавалася б, паколькі бацька першага Мішы стаў ахвярай масавых фізічных рэпрэсій 30-х гадоў (працаваў старшынёй Магільнянскага сельсавета), ён павінен быў бы ўнікаць усялякага сяброўства з савецкім афіцэрам Мішам, яшчэ не выключана, што мо з работнікам спецслужбаў. Усё гэта не было ўзята пад увагу, і два Мішы жылі, як брат з братам, да тае пары, пакуль не давялося развітацца. На такі крок трэба было пайсці, бо ў Магільным, як і ў іншых такога тыпу населеных пунктах, памаленьку пачала стварацца акупацыйная адміністрацыя.

Дзесьці ў жніўні 1941 года ў Магільным адбылося першае падчас акупацыі вяселле. Было яно не звычайным. Покуль колішні царскі афіцэр Тодар Жыгаловіч адбываў у савецкіх турмах тэрмін зняволення, памерла яго жонка. Як і многім іншым зняволеным, вайна і яму дапамагла вызваліцца са сталінскіх засценкаў. Дома яго чакалі ажно пяць дачок, прычым некаторыя з іх ужо даволі дарослыя. Аднак гэта не з'явілася перашкодай для паўторнай жаніцьбы, маючы прыкладна 50 гадоў ад роду. Жонку Жэню, досыць маладую, з дачкою Лінаю прывёз з вёскі Лавы, што на Капыльшчыне. Вяселле, зусім небагатае на гарэлку і закусь, справілі паводле ўсталяваных у нашай мясцовасці традыцый. Для жонкі Тодара тут жа прыдумалі мянушку — Маладайка, не засведчаную ў слоўніках. Не стаў чакаць лепшых, спакойных часоў 18-гадовы Віця Ціханаў (па-вулічнаму), бацькі якога знаходзіліся дзесьці ў далёкай ссылцы. Паверыўшы людзям, што неўзабаве пачнуць раскідаць калгасы і раздаваць зямлю ў прыватную ўласнасць, ён вырашыў, што пры такіх крутых пераменах нельга жыць аднаму, а лепш стварыць сям'ю. Жонку Валю ўзяў з недалёкай ад Магільнага вёскі Стальбоўшчына. На вяселле, якое ладзілася ў пачатку верасня 1941 года, сабралася багата людзей. Грала музыка, былі танцы, падарункі, добрыя зычанні маладым. Некаторыя з іх ужо праз год спраўдзіліся: нарадзілася дзіця. Але толькі два гады гадавалася пры бацьку: адразу пасля вызвалення Магільнага ад нямецкіх захопнікаў паслалі на фронт, адкуль ён не вярнуўся.

## Мужчыны палезлі на рыштаванні

Што калгасам будзе канец, ніхто не сумняваўся. Вось толькі калі такая жаданая акцыя адбудзецца, нікому не было вядома. Нягледзячы на ўсё гэта, магіляне загадзя сталі рыхтавацца да індывідуальнага вядзення сельскай гаспадаркі.За час існавання калгаса яны цалкам паразбуралі свае асноўныя гаспадарчыя аб'екты, пакінуўшы толькі невялікія хлявы для каровы, свіней, курэй і г.д. У хлявах захоўваўся і харч для скаціны, якога звычайна заўжды неставала. Каб ліквідацыя калгаса не застала знянацку, загадзя пачалося масавае будаўніцтва гумнаў. Спяшацца трэба было яшчэ і таму, што пры адсутнасці цвёрдай улады на месцы мелася магчымасць бясплатна нарыхтаваць у лесе дзелавую драўніну. Усё гэта прывяло да таго, што ўжо ў канцы ліпеня 1941 года Магільнае ў масавым парадку ператварылася ў сапраўдную будаўнічую пляцоўку. Пераадольваючы свае хранічныя хваробы, палезлі на рыштаванні і мой тата. Што ім было не пад сілу, прасілі дапамогі ў іншых, асабліва ў маладых. І яны згаджаліся, бо ведалі, што ў дзядзькі Міхася вялікія запасы спіртнога. Выручылі і прывезеныя з памежнай камендатуры розныя будаўнічыя матэрыялы. Ужо да зыходу 1941 года мы мелі гумно, толькі не было чым запаўняць яго.

## Першыя праявы новай улады

У набытай за савецкім часам практыкі кіравання мясцовымі справамі не мелася аніякіх шансаў на аднаўленне. Дзеля гэтага ў акупантаў з'явіліся — і досыць хутка — свае падыходы. Мне невядома па чыёй ініцыятыве да кіраўніцтва Магільнянскай валаснай управай прыйшоў з суседняй вёскі Галавачы Александроў. Прозвішча для нашай мясцовасці зусім нетыповае.

Магчыма, некалі служыў тут пагранічнікам і па заканчэнні службы не падаўся на сваю малую радзіму. Асаблівай жорсткасцю не вызначаўся. Не карыстаўся асабістай аховай. Лёгка ўступаў у кантакты з людзьмі. Дзеля паездак па тэрыторыі воласці карыстаўся толькі веласіпедам. Пры ўсім гэтым на Александрова глядзелі як на прадстаўніка нямецкай акупацыйнай улады, і, відаць, гэтага было дастаткова пэўным асобам, каб на яго жыццё зрабіць замах у канцы лета ці пачатку восені 1941 года. Пры да канца не высветленых абставінах такое ім удалося. Хадзілі чуткі, што яго прыстрэлілі чырвонаармейцы, якія не-не ды з'яўляліся ў нашай мясцовасці аж да канца 1941 года і нават пазней. Відаць, зразумелі, што марна чакаць хуткага вызвалення Чырвонай Арміяй, таму ўсяляк імкнуліся прабрацца на ўсход да злучэння з ёй. Забойства Александрова было першым і апошнім у дачыненні да чыноўнікаў створанай акупантамі ў Магільным цывільнай мясцовай адміністрацыі. Дый фунцыянавала яна ў нас вельмі кароткі тэрмін, пра што пастараюся сказаць пазней.

## У нашую хату завітаў паліцэйскі

Стаяў цёплы жнівенскі дзень лета 1941 года. Уся сям'я была ў зборы. Абедалі. Нечакана ў хату зайшлі паліцэйскі з суседкай Арынай Белай. Пераступіўшы парог, яна адразу ж закрычала, як ашалелая, паказваючы пальцам на тату:

— Во праз каго майго мужа ў турму пасадзілі! Ён жа зладзейскім чынам завалодаў і верхнім каменем ад нашых жорнаў. Прашу вас, расстраляйце яго!

З такім жа заклінаннем-просьбай звярнулася да паліцэйскага і дачка суседкі Арыны Ларыса (прыкладна 17 гадоў ад роду), якая стаяла ля расчыненага ў хату вакна. Заўважу, што ў той час вельмы модным было прыпісваць людзям такое абвінавачванне, каб схіліць прадстаўнікоў нямецкай улады да вызначэння ім суровай меры пакарання. Абвінавачваць майго тату не мелася у суседкі аніякіх падстаў, бо яны ніколі не былі лаяльна настроеныя да савецкага палітычнага рэжыму, асабліва пасля ўчыненых ім у 1937–1938 гадах масавых фізічных расправаў над нявіннымі людзьмі. Я яшчэ ніколі не бачыў тату такімі бледнымі, у няспынных дрыжыках. Тут, відаць, прычынай быў і востры парок сэрца. Мае малодшыя браты Генадзь і Анатоль (1935 і 1938 г.н.) не разумелі, што адбываецца, і працягвалі абедаць. Сёстры Ліда і Ада наўзрыд плакалі, хапалі за рукі паліцэйскага, просячы не чапаць таты. У мамы і ў мяне не дайшло да слёз, але страху было многа. Спачатку мне здавалася, я памыляюся, аднак з кожнай хвілінай усё больш і больш пераконваўся, што паліцэйскі неяк спагадліва ставіцца да маёй мамы, не зводзячы з іх сваіх зусім не суровых вачэй. Цётцы Арыне і яе дачцэ Ларысе ён загадаў ісці дамоў, паабяцаўшы, што з іх скаргаю разбярэцца і сёння ж паведаміць пра сваё рашэнне.



Калі суседзі выйшлі з хаты, паліцэйскі з выразнай усмешкай на твары звярнуўся да маёй мамы:

— А я Вас ведаю. Вы ж з Літвы (за тры кіламетры ад Магільнага. — *Л. Л.),* дачка Сымона і Марылі. Адзін Ваш брат трактарыст Ванька перад вайной быў узяты ў войска, другі — Валодзя паступіў вучыцца ў Кіеўскае ваеннае медыцынскае вучылішча, сястра Наташа гадуе трох дзяцей.

Ад такіх слоў ва ўсіх нас павесялела, пацяплела на душы. Нават твар таты ўжо тады не здаваўся такім хваравіта бледным. А ведаў паліцэйскі маму і ўсю іх радню таму, што жыў у суседняй да Літвы вёсцы Стальбоўшчына. Выходзячы з хаты сказаў:

— Я мог бы пакінуць вам камень ад жорнаў, але вашая суседка Арына такая назойлівая, што яна пасля гэтага не спыніцца абіваць парогі Вузденскага паліцэйскага ўчастка, які яна ўжо наведала тры разы.

У гэты ж дзень камень ад жорнаў перайшоў ва ўласнасць Арыны. Але і мы доўга не заставаліся без яго: дапамаглі добрыя людзі. У цяжкія дні акупацыі такая спагадлівасць была вельмі характэрнай магілянам.

У заключэнне колькі слоў, як нам дастаўся той злашчасны Арынін камень. Дзесьці ў 1937 ці 1938 годзе мясцовая савецкая ўлада вынесла пастанову аб масавым знішчэнні жорнаў у мястэчку Магільнае. Лічылася, што для гэтага дастаткова будзе разбіць толькі іх верхнія камяні. На такі ж злачынны крок улада пайшла таму, каб вымусіць людзей карыстацца дзяржаўным млыном, плацячы за гэта пэўную суму грошай ці разлічваючыся натурай. Мала хто асмеліўся не выканаць той драконаўскай пастановы. Сярод іх і быў муж Арыны Піліп. Дарэчы, ён належаў да радні вялікага родавага клана народнага пісьменніка БССР Якуба Коласа. Уся наша Кавалёўская вуліца была завалена верхнімі камянямі ад жорнаў. Спецыяльна выдзеленыя людзі па-заліхвацку разбівалі іх молатам на часткі. На вуліцы мястэчка выйшлі амаль усе жыхары паглядзець на гэтае незвычайнае відовішча. А вось Піліп прыхаваў свой камень і праз два-тры дні ўпоцемкі, каб ніхто не бачыў, прыкаціў яго да нас.

— Бяры, Міхась, у цябе пяцёра дзяцей, а я з дачкою неяк абыдуся без жорнаў. Толькі нічога не кажы пра камень маёй жонцы.

Тата прапаноўвалі грошы, але сусед адмовіўся, а вось да чаркі ахвотна прыгубіўся. Прычым не адзін вечар. Піліп па рацэ Нёман ганяў згоны ў Польшчу, любіў расказваць, як там няблага жывуць людзі. Можа, гэта і паслужыла для рэпрэсіўных органаў падставай, каб арыштаваць яго. Куды дзеўся наш сусед, ніхто не ведаў ні з яго родных, ні з блізкіх. А пра камень Арына ўсё ж даведалася, толькі ў мірны час ён быў непатрэбны ёй.

## Чаму я не стаў сынам старасты

Па ўказанні цывільнай адміністрацыі Вузды дзесьці ў пачатку жніўня 1941 года і ў Магільным стала нешта такое ствараццa накшталт мясцо-

вага самакіравання. Пачалі з абрання старасты, каб забяспечваў належны парадак у мястэчку. Для людзей старэйшых узростаў гэта не было якойсьці зусім незвычайнай з'явай. Да кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года такая выбарная пасада існавала. Меркавалі, што звязаныя з выкананнем яе абавязкі ўскладуць і пры немцах на старасту. Многіх дзяцей, у тым ліку і мяне, прасілі прайсці па хатах, заклікаючы людзей з'явіцца ва ўмоўленае месца на сход. Сабралася мала, таму вырашылі правесці сход па абранні старасты ў наступны дзень, добра падумаўшы, каму можна даручыць выкананне гэтых абавязкаў. Камуністам такога не давяралі. На наступны дзень на вуліцы Кавалёўскай каля хаты лесніка Волеся Дзесюкевіча тоўпілася дастатковая колькасць дарослых местачкоўцаў. Хапала і дапытлівых дзяцей. Пасля трох-чатырох прапанаваных і тут жа адхіленых кандыдатур раптам я пачуў, што на старасту вылучаюць майго тату. Абгрунтоўвалі гэта іх неблагім для нашага мястэчка ўзроўнем адукацыі, справядлівасцю, бесканфліктнасцю.

— З сынам дзядзькі Міхася Лёнем, — прарваўся зычны голас Ванькі Матусевіча, — мы вазілі сена і снапы. За вагаўшчыка на конскіх вагах працаваў дзядзька Міхась. І хоць ён ведаў, што маім памочнікам быў яго сын Лёня, ні разочку нават 50 кілаграмаў не дабавіў да вагі воза, каб мы больш працадзён зарабілі.

Удзельнікі сходу змоўклі, трохі задумаліся, бо нехта сказаў, што Міхась дрэнна сябе адчувае. Так гэта ці не, папыталіся ў мяне, а затым паслалі дамоў даведацца ў самога таты ці згодны яны, ці ёсць у іх сілы пры абранні працаваць за старасту. Тата катэгарычна адмовіліся, што зусім не абрадавала мяне. Людзі гэтак хвалілі іх, што не магло не цешыць маю душу і тут на табе — катэгарычная адмова. Я абяцаў тату, што там, дзе будзе патрэбна, прыйду на дапамогу. Апошняе татава слова:

— Не. Няма здароўя.

З такім паведамленнем і вярнуўся я да людзей. Іх гэта моцна расчаравала. Папрасілі нашага суседа з процілеглага боку Кавалёўскай вуліцы Адама Дзесюкевіча на працягу некалькіх дзён часцей наведваць Міхася, добра разабрацца са станам здароўя, і калі яно дазваляе, настойліва схіляць да згоды ўзяць на сябе адказныя абавязкі старасты. Справа да гэтага не дайшла, бо тата рашуча адмаўляліся ад такой прапановы, спасылаючыся на хваробу. Дзесьці праз пяць дзён за старасту абралі адзінокага чалавека, даваеннага брыгадзіра мясцовага калгаса Рыгорку Цыбульскага. З людзьмі ўмеў працаваць, стараўся, каб усім было добра ў той цяжкі час. Знаходзіўся на пасадзе трохі больш за паўгода, калі ўжо патаемна, невялікімі групамі ў мястэчку пачалі з'яўляцца партызаны. Рыгорку гэта нікольки не палохала, бо лічыў, што за старасту стаў не каб акупантам ці партызанам служыць, а агульнамагільнянскай справе. Таму ён не падабаўся ні першым, ні другім. Загінуў ад рук акупантаў. Не сумняваюся, што такі трагічны лёс напаткаў бы і майго тату. І загінулі б не адны яны, а іх жонка і пяцёра дзяцей! Во якім паратункам паслужыла ўсім нам цяжкая хвароба таты!



Пазней пад уплывам бальшавіцкай ідэалогіі ў нас старастаў, амаль без усялякага выключэння, сталі называць ворагамі народа, апраўдваць іх забойства партызанамі. Гэта крайне несправядліва. Людзі абіралі старастамі найлепшых з лепшых, бо хацелі ў іх асобе мець сабе надзейную апору. Менавіта з такім колішнім старастам давялося мне сустрэцца ў пачатку 50-х гадоў, калі працаваў аператыўным упаўнаважаным у адной з калоній на тэрыторыі Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці. Гэты па нацыянальнасці ўкраінец, па прозвішчы Шаўчэнка, адказваў за чысціню майго кабінета. Старастам адной з вёсак Кіеўшчыны абралі аднагалосна і не памыліліся. Аднавяскоўцы любілі, давяралі яму. Затое, як вярнулася савецкая ўлада, атрымаў 10 гадоў турэмнага зняволення. У лагеры з усімі размаўляў толькі па-ўкраінску. На маё пытанне:

— Чаму не стараецеся авалодаць рускай мовай, Вы ж знаходзіцеся на тэрыторыі Расіі? — адказ атрымаў арыгінальны, варты памяці і пераймання:

— Калі б я сюды трапіў па ўласнай волі, абавязкова стараўся б авалодаць рускай мовай. Этапавалі ж мяне сюды гвалтам з Украіны, таму не хачу ёй ні ў чым здраджваць, у тым ліку і ў мове (адказваў па-ўкраінску).

Дык ці можна такіх старастаў называць ворагамі народа?

* * *

Як закончылася вайна, як з гадамі больш сталым станавіўся я, пачынаў усё часцей задумвацца, а ці сапраўды хвароба таты з'яўлялася галоўнай прычынай іх рашучай адмовы абрацца старастам. Вялікага ж фізічнага і разумовага напружання гэта не патрабавала. Пры неабходнасці можна было абаперціся на местачковы актыў, прыцягваць да гэтай справы і мяне. У выніку глыбокага, працяглага роздуму прыйшоў да высновы, што тата адмовіліся стаць старастам толькі дзеля захавання нашага жыцця. Дзякуючы іх мудрасці, абачлівасці з намі не расправіліся ні партызаны, ні паліцэйскія. Больш таго, мы засталіся незаплямленымі перад аднаўленай улетку 1944 года савецкай уладай, не мелі аніякіх абмежаванняў пры паступленні на вучобу і працу. У канцы лета 1949 года мне нават удалося паступіць на вучобу ў Мінскую афіцэрскую школу НКУС СССР, паспяхова вытрымаўшы грунтоўную спецправерку. А былі ж такія кандыдатуры, што якраз і «зразаліся» на ёй. Да пачатку заняткаў у школе мне вельмі захацелася наведаць Магільнае, пахваліцца маме сваёй удачай. Мяне ніколі, як на гэты раз, так не цягнулі да сябе мясцовыя могілкі. І я ледзь не подбегам пайшоў наведаць магілу таты. Як толькі прыкленчыў, адразу ж проста роем палезлі ў галаву думкі з часоў акупацыі, асабліва пра мае настойлівыя ўпрошванні таты стаць старастам і іх рашучае «Не!» — Мне падалося, што і цяпер гэтае лёсавызначальнае, ратавальнае «Не!» даносіцца з магілы. Не стрымаўся і даў поўную волю слязам, абняўшы

татаву магілу. Не ведаю, колькі часу ляжаў бы на ёй — дзень жа выдаўся цёплым, — каб да майго слыху не данёсся голас:

— Лёня, годзе табе ўбівацца горам. Ты толькі падумай, колькі з вайны не вярнулася дамоў мужчын?

Суцяшала ж мяне недалёкая ў даваенны час ад нас суседка Жэня Петрашэўская (дзявочае прозвішча Дзесюкевіч), якая прыйшла парадкаваць магілы сваіх бацькоў. Яна зжалілася нада мной мо яшчэ таму, што прыгадала, з якой радасцю, ахвотай (паводле слоў маёй мамы) некалі забаўлялася, насіла мяне малога на руках.

## У камуністаў паспакайнела на душы

Прымежнае да Польшчы становішча Магільнага абавязвала пагранічную службу разам з мясцовай уладай як след клапаціцца пра палітычную надзейнасць яго насельніцтва. Меркавалася, што на належным узроўні будзе яна толькі тады, калі ўдасца стварыць працаздольныя, аўтарытэтныя ў асяроддзі людзей партыйную і камсамольскую арганізацыі. І яны існавалі, маючы ў сваім складзе значную колькасць членаў. Сярод іх, акрамя прадстаўнікоў ад улады і інтэлігенцыі, сустракаліся і перадавыя калгаснікі. З двух першых прафесійных партыйна-камсамольскіх катэгорый многія, як надышоў час, падаліся, ратуючы саміх сябе, на ўсход, астатнія засталіся дома. Што да шараговых камуністаў, не кажучы ўжо пра камсамольцаў, яны і не падумалі зрушыцца з месца. Пасля ўсталявання акупацыйнага рэжыму камуністы і камсамольцы з ліку службоўцаў стараліся асабліва не паказвацца на вуліцы, мелі вельмі засмучаны выгляд, бо думалі — вось-вось давядзецца мець справу з уладай. Сапраўдны пярэпалах у камуністаў выклікаў выдадзены ў пачатку восені 1941 года загад з'явіцца па невядомай для іх справе ў Вузду. Паслухаліся ўсе і на калгасных падводах прыехалі да месца прызначэння. Гаворка была вельмі кароткай і канкрэтнай:

— Не думайце праводзіць у любой форме агітацыйна-прапагандысцкую работу з людзьмі, клікаць іх да супраціўлення тым мерапрыемствам, якія валасная ўправа праводзіць. Займайцеся, як і ўсе жыхары вашага мястэчка, карыснай гаспадарчай працай у сябе дома і ў калгасе, тады ніхто не закране ні вас, ні вашую сям'ю.

Такім падыходам вуздзенскага начальства да магільнянскіх камуністаў засталіся задаволенымі і яны, і члены іх сем'яў, а таксама само мясцовае насельніцтва. Сярод белага дня ці ўвечары бачыць камуніста на вуліцы ўжо нікога нікольк не здзіўляла. Да гонару магілян, яны ў гады акупацыі не перажылі аніводнага канфлікту на партыйнай глебе. Не было выпадку помсты ў дачыненні да тых, каго (а падставы для гэтага меліся) падазравалі ў даносах савецкім рэпрэсіўным органам на ні ў чым не вінаватых людзей, бо разумелі, што не час зводзіць рахункі адзін з адным, калі ў тваім доме пасяліўся такі страшэнны вораг. З зараджэннем партызанскага руху ўсе выкліканыя ў Вузду магільнянскія камуністы далучыліся да яго, не стрымаўшы дадзенага акупацыйнай уладзе слова. Яна ж сваіх абяцанняў не парушыла. Вось і думай: хто тут мае рацыю? Будзем лічыць, што камуністы Магільнага, бо яны ж пайшлі ў партызаны, каб удзельнічаць у вызваленні роднага краю ад ворага.

## Усе пагадзіліся: школе быць

На зыходзе лета 1941 года да магілян дайшлі чуткі, нібыта ў іх мястэчку, як і ва ўсіх больш-менш буйных населеных пунктах акупаванай тэрыторыі, мяркуецца арганізацыя школьнага навучання дзяцей. Такое не магло не здзіўляць: ішла ж вайна.

У тыя гады ў сем'ях было шмат дзяцей школьнага ўзросту, пакідаць якіх дома мала каму хацелася. Вось гэта і стала прычынай даволі частага грамадскага абмеркавання дадзенага пытання. За пачатковую школу стаялі практычна ўсе, а вось што да мэтазгоднасці пасылаць дзяцей у 5–7-я класы погляды раздваіліся. У каго бацька быў на фронце, лічылі за лепшае, каб дзеці мужчынскага полу заставаліся дома, дапамагалі маці па гаспадарцы. Такая дапамога, казалі, вельмі спатрэбіцца, калі ліквідуюць калгас. Пры падобнага роду гаворках не раз даводзілася прысутнічаць і мне, пра што заўсёды паведамляў свайму хвораму тату. У іх не было аніякіх хістанняў.

— Абавязкова пойдзеш у 6-ы клас. Трэба вучыцца. Адукаваныя людзі ва ўсе часы і ва ўсіх краінах жылі лепш, цікавей за непісьменных.

У пацверджанне сказанаму прыводзіліся пераканаўчыя прыклады, як дзякуючы добрай адукацыі многія магіляне ў даваенны час стварылі сабе неблагую кар'еру. Такое мне цалкам імпанавала, бо я на свае вочы бачыў, як у невыносна цяжкіх умовах жылося і працавалася ў даваенны час магілянам, у тым ліку і майму тату. У зімовы час не раз здаралася такое, што яны стомленыя працаю, азябшы, не маглі нават самі зняць лапці з ног. Тлумачылася гэта тым, што ў абедзенны час, калі сонца трохі грэла, і снег станавіўся мокрым, анучы ў лапцях моцна намакалі, а пакуль увечар дабіраліся на санях дахаты, яны (анучы) моцна намярзалі. Жыць так мне зусім не хацелася. Калі аднойчы пасля такога разування тата задалі пытанне: «Ну а кім ты хацеў бы працаваць?», я не палез па словы ў кішэню, а адразу адказаў: «Тым, хто на хлеб пяром зарабляе». Тату такі адказ спадабаўся, а я сваё слова стрымаў.

Ісці вучыцца ў школу падахвоціла мяне і выпадкова пачутая вечарам размова сталых людзей. Неабходнасць дзецям вучыцца адзін з прысутных усяляк абгрунтоўваў тым, што як закончыцца вайна (а ён, як і многія магіляне, не сумняваўся ў перамозе Германіі), дык і перад нашай адукаванай моладдзю адкрыюцца шырокія магчымасці вучыцца, жыць і працаваць у розных краінах. Неадукаваны ж чалавек з нашых краёў, калі і трапіць туды, дык толькі на цяжкую фізічную малааплатную працу.

З нашай сям'і пайшлі вучыцца ў Магільнянскую сямігадовую школу тры чалавекі: Ліда, я і Ада. Хаця Ліда ўжо да вайны закончыла 7 класаў, адказныя за арганізацыю вучобы пераканалі і яе, і бацькоў паўторна наведваць заняткі ў школе, дзе яна, запэўнівалі, даведаецца пра многае з таго, чаго не выкладалі ў савецкай школе.

За настаўнікаў працавалі пераважна ўраджэнцы Вуздзеншчыны, але магілян сярод іх было мала. Уладкавалася ў нашую школу і жонка беларускага пісьменніка Ільі Гурскага, які нарадзіўся ў Замосьцi, што за адзін кіламетр ад Магільнага. Настаўнікам дазвалялі непаслухмяных дзяцей біць па далоні лінейкай, але такая практыка амаль не прыжылася ў нашай школе. Трэба сказаць, што праблем з дысцыплінай вучняў цяпер было непараўнальна менш, чым у даваенны час. Не памылюся, калі такое патлумачу нялёгкімі ўмовамі жыцця пад акупацыяй. У горы людзі часта становяцца больш спагадлівымі адзін да аднаго, што не можа не адбівацца і на дысцыпліне вучняў у школе. У гады акупацыі неяк не адчувалася непераадольнай сцяны паміж імі і настаўнікамі. Магчыма, гэтаму спрыяў і ўведзены ў абыходак зварот першых да другіх. У такіх выпадках да настаўнікаў мужчынскага полу ўжывалася слова «дзядзька», да жаночага «цётка», а гэта ўжо нешта роднаснае, блізкае. Падбадзёрвалі нас і тыя словы, якімі вітаўся з намі настаўнік, уваходзячы ў клас: «Жыве Беларусь!», на якія мы дружна адказвалі: «Жыве!» Дружна таму, што ўсім жа хацелася, каб Беларусь не сканала, жыла і ў нялёгкія гады акупацыі.

У школе нас ніхто не выхоўваў русафобамі, антысемітамі, прыхільнікамі нацыянал-сацыялізму, а вось на нацыянальнае ўзгадванне звярталася шмат увагі і на ўроках, і падчас пазашкольных мерапрыемстваў. Нішто такой радасці не прыносіла, як чытанне настаўніцай беларускай мовы і літаратуры паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». У ёй жа згадваецца і ўрочышча Ліпава, што за 4 — 5 км на поўдзень ад Магільнага. З гэтым урочышчам маглі б быць вялікія непрыемнасці для некаторых вучняў 6-га класа, у якім вучыўся і я. Пад канец навучальнага года ў нашай мясцовасці ўсё часцей сталі з'яўляцца невялічкімі групамі партызаны. І вось аднойчы ў час заняткаў каля варот школьнага плота спыніўся нямецкі бранявік. З вакон класа мы ўбачылі, як з яго выйшлі два немцы і ледзь не подбегам пашыбавалі ў школу. І трэба ж было здарыцца такому, што пры наведванні яе яны выбралі наш клас, дзе якраз вяла ўрок па беларускай літаратуры (чытала паэму Якуба Коласа «Новая зямля») жонка пісьменніка Ільі Гурскага. Яна не раз заходзіла ў нашую хату, размаўляла з мамай, якіх хрысціла адна са сваячак гэтай настаўніцы. Такое не магло не паўплываць і на яе стаўленне да мяне. На даволі зразумелай для нас рускай мове адзін з немцаў паведаміў, што ў Ліпаве знаходзіцца невялікая група партызанаў, і з дазволу настаўніцы папытаў, хто з вучняў ведае дарогу да гэтага ўрочышча. Амаль усе хлопцы з Магільнага, у тым ліку і я, паднялі ўгару рукі. Раптам заўважыў, з якім суровым асуджэннем глянула на мяне настаўніца, і я тут жа апусціў руку. Немец забраў з сабою трох вучняў-павадыроў. Але да таго, як яны падышлі да браневіка, тут ужо яго кіроўца гутарыў з дарослым хлопцам з вёскі Язвіны, паблізу якой і знаходзіцца Ліпава. Вучні вярнуліся ў клас. Настаўніца не стала абмяркоўваць незвычайную сітуацыю, выкліканую нечаканым візітам немцаў у клас. На іх жа просьбу паказаць Ліпава вучні дружна адгукнуліся не таму, што яны любілі немцаў і ненавідзелі партызанаў. Наадварот, як толькі яны пачалі невялічкімі групамі з'яўляцца ў нашай мясцовасці, амаль усе жыхары Магільнага, і асабліва дзеці, вельмі абрадаваліся гэтаму. Згода ж паказаць немцам Ліпава хутчэй за ўсё была выклікана жаданнем праехацца ў браневіку. Дый далёка не ўсе, што паднялі рукі, добра ведалі, дзе тое Ліпава. Я, напрыклад, пад такой назвай ведаў толькі поле, а не ўрочышча. Немцы не напалі на след партызанаў, вярнуліся ў Вузду ні з чым. Каб жа немцам удалося здзейсніць задуманае пры дапамозе вучняў ці таго хлопца з Язвін, няцяжка ўявіць, чым бы ўсё гэта закончылася для іх з актывізацыяй партызанскага руху. Пакаранне панеслі б і бацькі такіх вучняў. Наўрад ці ўдалося б такім вучням-»здраднікам» зрабіць сабе кар'еру ў пасляваенны час.

Да працы школы пільна прыглядаліся бацькі. Іх радавала, што ў ёй панаваў беларускі дух. Настаўнікі не толькі на ўроках, а і па-за школай, паміж сабой і з мясцовымі жыхарамі размаўлялі выключна па-беларуску, што не заўсёды назіралася перад вайной, асабліва сярод нядаўніх выпускнікоў педагагічных навучальных устаноў, паколькі пазіцыі ўсяго беларускага тут год ад году слабелі. Русілі і настаўніцы з ліку афіцэрскіх жонак. Адна з іх, калі я вучыўся ў чацвёртым класе (1939/40 н. г.), выкладала ў нас спевы і амаль на кожным уроку прапаноўвала спяваць рускую народную песню «Во поле берёзонька стояла». Спявалі так, што добра было чуваць на ўсім калідоры. Аднойчы, пачуўшы гэтую песню, зайшоў у клас дырэктар школы і вельмі ветліва сказаў настаўніцы, што з вучнямі трэба спяваць беларускія песні. Яна не пярэчыла, але і на наступны раз не абышлося без выканання «Во поле…». Дырэктар жа вырашыў праверыць, як выконваецца яго ўказанне. Пачуўшы, што ніяк, увайшоў у клас і разам з настаўніцай пакінулі яго. Мы засталіся адны, займаючыся кожны сваёй справай. Тая настаўніца больш не выкладала ў школе спеваў. Тлумачылі, што не ведае беларускамоўных песень. Калі пра такое даведаліся мы, дык любілі пры сустрэчы з гэтаю настаўніцаю з лёгкай іроніяй праспяваць першы радок песні «Во поле берёзонька стояла». У гады ж акупацыі на ўроках спеваў гучалі толькі беларускамоўныя песні, значную колькасць якіх настаўнік запісаў ад мясцовых жыхароў.

Аднойчы мне ўдалося пачуць лінгвістычную спрэчку паміж настаўнікамі пра месца націску на другім слове пры развітанні. Сёння яго вымаўляюць «Да пабачэння», так, як у мяне напісана. А вось тады большыня нашых настаўнікаў вымаўляла «Да пабачання», ад чаго я пазней вельмі доўгі час аніяк не мог адвыкнуць.

Бясконца радавала нас адмена прынятая ў жніўні 1933 года новага правапісу беларускай мовы, бо аж да самай вайны большыня вучняў і стар-

шых класаў пісала мяккі знак у тых словах, дзе ён чуўся пры вымаўленні: насеньне, радасьць, злосьць і г.д. Затое зусім не радавалі ні настаўнікаў, ні бацькоў, ні бальшыню вучняў спробы партызанаў датэрмінова спыніць заняткі ў школе. Зразумеўшы, што педагагічны калектыў школы нічому благому не вучыць, яны спыніліся настойваць на яе зачыненні.

Усе мы, я, Ліда і Ада, былі старраннымі вучнямі, за што нашыя бацькі не раз чулі словы ўдзячнасці ад настаўнікаў. А паспяхова вучыліся таму, што дома добра рыхтаваліся да заняткаў. Заўважаючы, што сярод нас пануе сапраўдны культ кнігі, сшытка, чарніла, ручкі, алоўка, не мог не пацягнуцца да іх на сваім сёмым годзе жыцця брат Геня. Яго галоўным настаўнікам былі тата, а мы, дзеці, толькі здзіўляліся, як хутка і наш малодшы брат становіцца пісьменнай асобай. Да нашых заняткаў з кнігамі і сшыткамі не выказваў аніякай зацікаўленасці толькі трохгадовы Толя. Але неўзабаве сваім жаданнем да наведвання школьных заняткаў ён здзівіць не толькі нас, а і вялікую колькасць вучняў, многіх настаўнікаў. Гэтаму папярэднічала такая сітуацыя: у адзін з вясновых дзён з-за выхаду ў поле таты і мамы Толю не было каму даглядаць, і сястра Ліда ўзяла яго ў школу. Яму вельмі спадабалася сядзець за партай і назіраць, як дзеці чытаюць і пішуць. Дарогу ў школу ён і да гэтага трохі ведаў, таму на наступны дзень, нікога не пытаючыся, набраў з сабою некалькі кніг і пайшоў у школу. Завітаў у клас, які першым трапіў яму на вочы. Такія паходы сталі звычайнай з'явай для Толі, чаму не перашкаджалі настаўнікі, а вучні, убачыўшы яго праз вокны, адчынялі іх і крычалі:

— Пілiпок! Ідзі да нас!

Гэтая ласкальная мянушка захавалася за Толем і пасля вайны і мо пратрымалася за ім да пятага класа.

Па-рознаму склаўся лёс нашых настаўнікаў па заканчэнні першага і апошняга навучальнага года ў перыяд акупацыі. Адны неўзабаве далучыліся да партызанскага руху, другія, пераехаўшы ў Вузду, сталі падпольшчыкамі (дзве з настаўніц Дземідовіч і Квяткоўская загінулі ад рук гестапаўцаў). Адам Александровіч (вуздзенскі татарын) пасля выгнання акупантаў прасіўся на фронт, але не ўзялі з-за таго, што быў аднавокі. Дырэктара школы Крысько адразу ж пасля вызвалення кінулі ў самае пекла вайны, з якой ён, цяжка паранены, хутка вярнуўся дахаты, на ўсё жыццё застаўшыся інвалідам.

## Яўрэі адлічваюць апошнія дні

Ужо першае з'яўленне нямецкага салдата на магільнянскай зямлі паказала, што на ёй нічога добрага не чакае мясцовых яўрэяў. Жылі ж яны тут, як адзначалася вышэй, дзесьці з XVI стагоддзя. І жылі спакойна, займаючыся характэрнымі для гэтага народа відамі працы. Хаця яўрэяў і не так багата было ў Магільным, яны далі свету нямала таленавітых асобаў, у прыватнасці мастака Яўгена Зака (жывучы ў эміграцыі ў Францыі, не раз сустракаўся з Маркам Шагалам), пісьменніка Якнегоза (Ш.Голдберг). Ад старых людзей не чуў і сам не быў сведкам якіх-небудзь фізічных уздзеянняў на яўрэяў з боку магільнянскіх беларусаў. Між сабой дзеці апошніх калі-нікалі ўступалі ў бойку: вуліца на вуліцу. У час гэтых боек ні адзін з процілеглых бакоў не замахваўся на яўрэйскіх хлопцаў. Яны, як мовяць спартыўныя каментатары, заставаліся па-за гульнёй.

Яўрэям некалькі паспакайнела на душы, калі спыніўся рух нямецкіх салдатаў на ўсход і ў Магільным пэўны час панавала безуладдзе. Параўнальна спакойна было і ў першыя тыдні фармавання нямецкага парадку. Трывога ўзнікла, калі яўрэяў пачалі ссяляць у цэнтр мястэчка, дзе і да гэтага іх найбольш за ўсё жыло. Яўрэям было над чым задумацца, калі іх дзецям забаранілі вучыцца ў школе. Такое пра многае дазваляла думаць. Паколькі яўрэям не забаранілі пры жаданні перамяшчацца па тэрыторыі мястэчка і яго наваколлі, іх дзеці па звычцы цягнуліся да будынка школы, спыняліся ля расчыненых вокнаў, пазіраючы, як ідуць заняткі ў класах. Настаўнікі не перашкаджалі гэтаму, але ў клас, напэўна ж, не пусцілі б ніводнага з іх, ведаючы пра афіцыйна ўведзеную забарону на школьнае навучанне яўрэйскіх дзяцей. З іх найчасцей за ўсё заглядаў у вокны Міша Перчык, з якім я разам вучыўся ў даваенныя гады ў 1–5-х класах.

Сярод яўрэяў хадзіла чутка (і многія ёй верылі), што пасля разгрому СССР іх пераселяць у Крым ці Паўночнае Прычарнамор'е. Лічылася, што гэта ўжо і не такі дрэнны варыянт. Паводле ўказанняў з Вузды Магільнянская валасная ўправа не толькі дазволіла, але і настойліва прапаноўвала яўрэям хадзіць у лес збіраць грыбы, каб пасля сушкі ўзяць іх з сабою ў дарогу. Збіранне грыбоў спрадвеку не лічылася для нашых яўрэяў традыцыйным промыслам. Лесу яны зусім не ведалі, таму прасілі каго-небудзь з магілян выступіць хоць адзін-два разы ў ролі праваднiка. Добраахвотна ўсклаў і я яе на сябе, разы тры-чатыры наведаўшы лес са сваімі яўрэйскімі аднагодкамі-сябрамі Мішам Перчыкам і Мойшам (Мотам) Бернштэйнам. Праз не такі ўжо і працяглы час яўрэі, больш-менш асвойтаўшыся з лесам, самастойна хадзілі па грыбы і, трэба сказаць, нямала насушылі іх.

Пасля заканчэння грыбнога сезона яўрэям забаранілі выходзіць за межы адведзенай ім у мястэчку тэрыторыі (у сапраўднае гета яна не была пераўтворана). Такія абмежаванні ўжо расцэньваліся за вельмі дрэнную прыкмету. Практычных жа захадаў па самавыратаванні ад верагоднай смерці не рабілася, хаця ў асяроддзі яўрэяў было і нямала мужчын маладога ўзросту. Відаць, спадзяваліся, што на фізічную расправу з імі акупанты не адважацца.

Усталяваны рэжым прывязкі да пэўнай тэрыторыі мясцовыя яўрэі часта парушалі, асабліва па вечарах. Вельмі ўжо хацелася сустрэцца, пагаварыць з тымі, з кім меліся сяброўскія дачыненні. Майго тату часцей за ўсё

наведваў Іцка Вайс*, які меў дом на вуліцы Нарадоўская (з другой паловы 50-х гадоў — Школьная) насупраць нашай сядзібы. Гэта быў адзіны ў мястэчку яўрэй, які працаваў у калгасе, лічыўся найлепшым аратым. Сустрэчы мелі вельмі прыгнечаны характар, на што ніколькі не ўплывала ў лепшы бок нават чарка прывезенага з Негарэлага спірту. У сваё апошняе завітанне да нас Іцка прыйшоў з сякерай-калуном, выробленай у мясцовай кузні кавалём Янкелем Бернштэйнам. З непадробнай усмешкай, мо яна была апошняй у жыцці Іцкі, ён, паклаўшы на лаву свой падарунак, сказаў:

— Міхась, калуна хопіць не толькі на твой, але і на век тваіх дзяцей, калі толькі яго хто-небудзь не ўкрадзе.

І Іцка не памыліўся. Яго калуном мы перакалолі столькі дроў, што іх хапіла б на некалькі грузавых цягнікоў. На заслужаны адпачынак калун не пайшоў і ў 1995 годзе, калі ўжо ніхто не жыў у нашым бацькоўскім доме. Калун забраў у Мінск мой брат Генадзь і зараз пры патрэбе коле ім на дачы дровы.

Нашую ж маму любіла жонка Янкеля Бернштэйна Ліба, славутая на ўсё мястэчка шашыстка. Мала каму з мужчын удавалася абгуляць яе. Прыходзіла яна часта да нас з сынам Мотам, з якім мне заўжды было чым заняцца. Пабедаваўшы пра сваё гора, Ліба садзіла за стол майго брата Геню (ішоў яму тады сёмы год) і пачынала гуляць з ім у шашкі, вядома ж, не на поўным сур'ёзе. Для сваіх гадоў ён няблага разбіраўся ў шашках, да чаго прыкладаў старанні і я. Заўважаючы, што Геня ад сустрэчы да сустрэчы ўсё больш і больш набірае моцы ў гульні ў шашкі, яна не стрымалася:

— Жэня, а Жэня! У цябе расце разумны сын. Ён будзе вялікім чалавекам.

Затым падышла да самага малодшага члена нашай сям'і Толі (восьвось яму спаўняўся трэці год) і дадала:

— Дый у гэтага лобік немалы.

Ліба не памылілася. Генадзь стаў добра вядомым у краіне навукоўцамэканамістам, акадэмікам Нацыянальнай акадэміі Беларусі. Толя толькі з-за ранняй смерці ў 1995 годзе (удзельнік ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС) не стаў доктарам фізіка-тэхнічных навук, аднак дамогся значнага поспеху ў гэтай сферы навуковай дзейнасці.

Як і чакалася, апошні дзень Пампеі для магільнянскіх яўрэяў быў не за гарамі. Прыпаў ён на другую палову восені 1941 года. Паступіла распараджэнне ўсіх іх перасяліць у Вузду. Дзеля гэтай мэты кіраўніцтва мясцовага калгаса выдзеліла патрэбную колькасць падвод. З сабой дазвалялі ўзяць толькі самае неабходнае з вопраткі і абутку, прадуктаў харчавання. Часу на зборы адвялі вельмі мала, таму паліцэйскі нарад (зусім нешматлікі) загадаў не марудзіць. Ён не забараняў неяўрэям быць у гушчы тых падзей. А паглядзець на ўсё гэта многім хацелася і галоўным чынам дзеля шчырага спачування, бо яўрэі ж пакідалі сваю малую радзіму, ведаючы, што паўнавартасную замену ёй не ўдасца знайсці. Чым менш заставалася часу да ад'езду, тым мацней галасілі яўрэі. Ад бачанага і чутага ні ў аднаго з магілян не было радасці на душы, усмешкі на твары. Некаторыя нават праслязіліся, калі павозкі з яўрэямі рушылі ў напрамку Вузды. Амаль усе яны пастараліся сесці так, каб, пакідаючы дарагое, любае мястэчка, позіркі абавязкова былі скіраваны ў яго бок.

Узгадваючы той далёкі трагічны час, часта задаю сабе пытанне: а ў 70–90-я гады мінулага стагоддзя ці паехалі б тагачасныя магільнянскія яўрэі на радзіму сваіх далёкіх продкаў у Ізраіль? І даю на яго адмоўны адказ, бо вельмі ж любілі яны гэты надзвычай прыгожы (вядома, у даваенны час) куточак беларускай зямлі.

Дэпартаваных з Магільнага ў Вузду яўрэяў адразу ж заперлі ў гета, дзе іх, акрамя Мойшы (магіляне-беларусы называлі яго Мішам), неўзабаве замардавалі. Мойшу ж пакінулі жывым з-за яго залатых рук. Складанымі відамі прафесійнай дзейнасці займаўся ён некалі і ў Магільным. Працаваў і на кані. У даваенны час па Нёмане ганялі і плыты, і пускалі шарош (не звязаная ў плыты драўніна). У апошнім выпадку не раз здаралася, што бярвенні танулі і апускаліся на дно ракі. Дастаць іх з вады і выцягнуць на бераг для прасушкі было зусім не проста. Звычайна сплаўшчыкаў лесу выручаў Мойша, у якога быў дужы конь, неабходныя моцныя ланцугі. Не па сваёй волі трапіўшы ў Вузду, ён па указанні мясцовай адміністрацыі займаўся самымі складанымі відамі вытворча-тэхнічнай дзейнасці, найчасцей звязанай з электрычнасцю. Вольна хадзіў па тэрыторыі гарадскога пасёлка аж да канца нямецкай акупацыі. Пакідаючы Вузду, гестапаўцы ўсё ж прыкончылі так патрэбнага ім увесь час Мойшу.

З магільнянскіх яўрэяў не трапілі на той свет ад рук катаў толькі іх дзеці, што падчас нападу Германіі на СССР жылі ў розных гарадах Беларусі, а то і за яе межамі. З іх ніхто не пажадаў (і зрабіў вельмі правільна) падацца да сваіх бацькоў у Магільнае. Менавіта так паступілі дзеці Янкеля Бернштэйна Гейсель, яго брат (імя не памятаю) і Гута. Апошняя вучылася на стаматолага і набыла гэтую спецыяльнасць у Мінску ў першыя пасляваенныя гады. Тады ж і мне, навучэнцу Мінскага статыстычнага тэхнікума, давялосяя ўставіць зуб і каронку ў верхнюю сківіцу. Героем хадзіў, што пакончыў са сваім шчарбатым ротам. Амаль усе ў Магільным, убачыўшы мяне з устаўленымі зубамі, у адзін голас заяўлялі:

— І табе, мусіць, зубы ўставіла Гута Бернштэйн?

— Не, — кажу. — А чаму, — пытаюся, — павінна зрабіць гэта Гута?

— А таму, што яна па тэлефоне паведаміла на пошту Магільнага, што ўсіх сваіх землякоў абслугоўвае без чаргі, а плату бярэ толькі за матэрыялы.

Такой паслугай не маглі не пакарыстацца многія магіляне. Мяне ж такое шчасце абмінула. Так, зубы мне не дапамагалі ўставіць уцалелыя ад

* Па невядомых прычынах ён, як і шэраг іншых яўрэяў, не трапіў у прыведзены ў кнізе «Памяць. Уздзенскі раён» (Мн., 2003) спіс загінулых у Вуздзенскім гета магільнянскіх яўрэяў. А ў яго ж акрамя жонкі было яшчэ і двое дзяцей.

вайны і акупацыі магільнянскія яўрэі. Затое меў падтрымку ад іх у яшчэ больш важнай справе. Калі я разам з Колем Жыгалковічам задумалі ў канцы лета 1945 года паступаць вучыцца ў Мінскі статыстычны тэхнікум, адразу ўзнікла праблема з жыллём. Доўга не думаючы, яго бацька сказаў:

— Трэба ў Мінску шукаць каго-небудзь з магільнянскіх яўрэяў.

Ім стаў носьбіт самага распаўсюджанага ў Магільным яўрэйскага прозвішча Бернштэйн (імя не памятаю), кватэра якога знаходзілася на вуліцы Мяснікова зусім недалёка ад Дома ўрада. Для жылля ён нам у пярэднім пакоі кватэры адвёў некалькі квадратных метраў падлогі. Калі клаліся спаць, слалі пад сябе спачатку газеты, а затым што-небудзь з уласнага адзення. Гападар кватэры з-за сваёй беднасці не мог дапамагчы нам. Дый нам гэтага і не трэба было. Косці ж маладыя, дый самі зусім не спешчаныя лёсам. Толькі нядаўна скончылася акупацыя, калі даводзілася не адну ноч спаць пад адкрытым небам, проста на зямлі.

Пажылі мы ў Бернштэйна дзён з дзесяць. Наш выбар статыстычнага тэхнікума не апраўдваў, хацеў уладкавацца ў гандлёвы, ды нічога не атрымалася. Па вечарах да Бернштэйна заходзілі знаёмыя, не выключана, што хтосьці з іх быў і з Магільнага, бо, трохі выпіўшы, яны, акрамя яўрэйскіх, спявалі і традыцыйныя для нашай мясцовасці беларускія песні. Слухаючы іх, мы адчувалі сябе, што нібыта знаходзіліся ў роднай хаце.

* * *

І ўсё ж пасля вывазу яўрэяў з Магільнага тут працягвала жыць прадстаўніца гэтай нацыі па імені Соня. Была яна жонкай майго дваюраднага дзядзькі, ваеннага фельчара Косціка Бохана і да вайны жыла ў Мінску. Перад уварваннем нямецкіх войскаў у горад пакінула яго і проста цудам разам з двума маленькімі дзецьмі дабралася да радзімы мужа ў вёску Замосьце. Яе жыхары ведалі, што па нацыянальнасці Соня яўрэйка. З усталяваннем акупацыйнага рэжыму ёй стала небяспечна заставацца ў бацькоў мужа. Яна перабіраецца да нас, да дваюраднай сястры свайго мужа. Каб не выдаць сябе (дарэчы, у яе былі вельмі непрыкметныя яўрэйскія рысы твару), яна не пайшла ні на якае збліжэнне з мясцовымі яўрэямі. Суседзі асаблівай зацікаўленасці да яе не праяўлялі. У той час не было рэдкасцю сустрэць у Магільным чалавека немясцовага паходжання. Вось толькі магло ўзнікнуць пытанне, чаму Соня знайшла сабе прытулак у доме, дзе пяць дзяцей і хворы бацька. Месяцы праз два Соня, параўнальна яшчэ маладога ўзросту, паспела пасябраваць з мясцовымі дзяўчатамі і ў адной з іх, у Ніны Дзесюкевіч, што жыла непадалёку ад мястэчка ў пасёлку Матэцкія, пасяліцца. Да нас заходзіла рэдка і прычым толькі па вечарах. У такі ж час непрыкметна наведвала ў Замосьці і сваіх дзяцей. Балазе, хата знаходзілася на самым ускрайку вёскі, каля старой грэблі і мясцовых могілак, таму на вочы нікому ніколі не траплялася.



Карэнны пералом у жыцці Соні наступіў з разгортваннем партызанскага руху ў нашай мясцовасці. Разам са сваімі сяброўкамі яна актыўна далучылася да яго. З аўтаматам за спіной не хадзіла. А вось са сваёй сяброўкай Нінай Дзесюкевіч рэгулярна вазілі з Магільнага на базар у Стоўбцы атрыманае ад партызанаў мяса і абменьвалі там яго на соль. Да іх прыгледзеліся тыя, каму гэта ставілася ў абавязак. У лесе па дарозе са Стоўбцаў у Магільнае паліцэйскія арганізавалі засаду, на якую і нарваліся сувязныя партызанаў. У санях, напоўненых сенам, паліцэйскія адшукалі вялікую колькасць солі. Ім зусім няцяжка было зразумець, для каго яна прызначалася. Учыніўшы расстрэл магільнянскіх патрыётак, жыхарам бліжэйшай вёскі загадалі закапаць іх у магілу. Дзе канкрэтна яна знаходзілася, магілянам не было вядома ні тады, ні ў больш познія гады. У той час такія факты часта здараліся ў Беларусі.

Трагічны лёс яўрэяў Магільнага ў гады акупацыі быў тады яго вялікім агульным болем. А вось сёння пра гэта памятае толькі невялічкая жменька жыхароў — непасрэдных сведкаў жорсткага акупацыйнага рэжыму. Накіраваным раней і сёння ў школу настаўнікам нічога невядома пра гэта, таму і вучні зусім не маюць аніякага ўяўлення, што тут на працягу некалькіх стагоддзяў жылі яўрэі і адышлі ў нябыт па волі фашысцкіх катаў. Ліквідаваць гістарычнае бяспамяцтва магілян не так ужо і складана: дастатковым будзе ўсталяванне зусім недарагога мемарыяльнага знака з надпісам пра час першага пасялення яўрэяў у мястэчку і крывавую расправу над імі ў гады нямецкай акупацыі.

## Беларуская мова ратавала ваеннапалонных

Ужо ў жніўні першага года вайны пачалі вяртацца дамоў мабілізаваныя на фронт магіляне. Раней за ўсіх ступіў на ганак роднай хаты наш недалёкі сусед Костусь Дзесюкевіч. Ступіў такім худым, што ледзь пазнаць было. Гэта ён падчас мабілізацыі найбольш упэўнена заяўляў, што для разгрому Германіі спатрэбіцца як мінімум тры месяцы — і за гэты час пераможцам прыбудзе дамоў. Свайго слова не стрымаў, вярнуўся прыкладна праз паўтара месяца, і не пераможцам, а пераможаным. З ваеннага палону ўдалося вырвацца, дзякуючы дасканаламу валоданню жывой беларускай мовай, што тады зусім нядзіўным было ў дачыненні да яе прыродных носьбітаў. Лагернай адміністрацыі дазвалялася выпускаць на волю такіх ваеннапалонных, паколькі лічылі, што яны не пададуцца на ўсход, каб далучыцца да якой-небудзь вайсковай часці, а памкнуцца дахаты і будуць займацца там нейкай карыснай працай. За час знаходжання ў лагеры ваеннапалонных Костусь паспеў навучыць беларускай мове аднаго з ураджэнцаў Смаленшчыны, разам вызначылі, дзе ён будзе жыць у Беларусі, атрымаўшы волю. А вось выратаваць ад галоднай смерці аднаго

з разанскіх ваеннапалонных Костусю не ўдалося, бо ў яго, не ў прыклад смаленцу, нічога не атрымалася з беларускай мовай.

У якасці сродку вызначэння этнічнага паходжання ваеннапалоннага выкарыстоўвалі і рускую мову, толькі ўжо з зусім процілеглай мэтай: не на волю выпусціць, а, наадварот, закатаваць. І рабілася такое толькі ў дачыненні да тых, каго падазравалі ў прыналежнасці да яўрэйскай нацыянальнасці. Ім прапаноўвалі хуценька і некалькі разоў вымавіць па-руску такія словы: «На горе Арарат растет крупный виноград». Паколькі абсалютная бальшыня даваенных яўрэяў картавіла, ім чыста па-руску вымавіць такія словы было практычна зусім немагчыма. Гэты фактар і быў узяты за аснову вызначэння прыналежнасці той ці іншай асобы да яўрэйскай нацыянальнасці.

Той страшэнны, пакутлівы час знаходжання ў лагеры для ваеннапалонных Костусь добра памятаў да канца жыцця, часта апавядаў і дарослым, і малым пра перанесеныя здзекі. Не лепшым жыццё было і ў іншых магілян, хто трапіў у такія ўмовы. Некаторым з іх не ўдалося жывымі вярнуцца дамоў.

## У вольны час не забываліся пра кнігу

З надыходам позняй восені ў людзей па вечарах з'явілася шмат вольнага часу. Клуб і бібліятэка не працавалі, таму збіраліся ў чыёй-небудзь хаце, каб пагуляць у карты (самаробныя), даміно, шашкі. Моладзь аддавала перавагу танцам, рэгулярна ладзячы іх па нядзелях і ў святы. Прычым дні хрысціянскага посту не браліся пад увагу, бо за савецкім часам моладзь узгадоўвалася ў атэістычным духу. Два ці тры разы ў канцы 1941 — пачатку 1942 года у Магільным на некалькі дзён спыняліся па невядомых прычынах невялічкія па колькасці групы нямецкіх жаўнераў. Аднойчы некалькі чалавек з іх завіталі на танцы і паказалі мясцовай моладзі сваё майстэрства гуляць факстрот і танга. Ёй гэта дужа спадабалася. Мая сястра Ліда вельмі радавалася, што магла паназіраць за незвычайнымі ў той час для яе танцамі. Аднак факстрот і танга прыжыліся ў нашай мясцовасці толькі ў 50-я гады.

Карыснай рамеснай працай па вечарах займаліся толькі ў тых сем'ях, у каго былі воўна і кудзеля. На прасніцах і калаўротах іх пралі аж да сярэдзіны ночы. У першы акупацыйны асенне-зімовы перыяд такіх багатых на кудзелю і воўну сем'яў у нас было мала. Арыгінальна бавілі па вечарах вольны час мой тата. Яны прызвычаіліся хадзіць у недалёкую ад нас хату Якуба Дзесюкевіча, дзе было прынята за правіла ўголас чытаць якую-небудзь кнігу, зразумела, у чымсьці цікавую для бальшыні. Літаратуры досыць багата мелася на руках. Да вайны ж бібліятэкі былі ў школы, калгаса, пагранкамендатуры. Многае з іх фондаў трапіла ў рукі местачковых аматараў кнігі. І трэба ж было аднойчы тату пахваліцца



нам тым, што ім удалося пачуць у час калектыўнага чытання адной з кніг заходнееўрапейскага аўтара. Усіх нас, а можа ў найбольшай ступені маму, моцна ўразіла пачутае. Хаця яны былі практычна непісьменнымі, аднак вельмі любілі слухаць, калі хто-небудзь чытаў уголас мастацкую літаратуру. І па сёння памятаю, як яны плакалі, прадучы вечарам на калаўроце кудзелю, калі я яшчэ перад вайной чытаў самыя трагічныя старонкі з кнігі пра паўстанне Спартака. Пачуўшы эмацыянальны аповед таты, ім гэта надзіва вельмі лёгка давалася, усе дарослыя члены нашай сям'і прасілі іх кожны вечар перадаваць змест прачытанага з той цікавай невядомай сваёй назвай кнігі. Просьба выконвалася з вялікім задавальненнем. З найбольшай увагай усе мы сачылі за лёсам гераіні той кнігі з прыгожым заходнееўрапейскім іменем Мацільда. Калі калектыўнае чытанне надоўга затрымлівалася і хтосьці з нас на печы засынаў, з прыходам таты яго будзілі, і ўсе мы ўважліва слухалі іх, забываючыся, што жывём пад нямецкай акупацыяй, што дзесьці ідуць кровапралітныя баі, ліецца кроў і мо, не дай бог, мамінага брата Вані. І кроў ён пралье, прычым спаўна, загіне, але ўжо ў час летняй наступальнай аперацыі 1944 года «Баграціён». Для нашай сям'і, ды не толькі для яе, кніга ў гады акупацыі з'яўлялася чымсьці самым дарагім, калі не сказаць — святым. Наўрад ці ў той час яе мог бы замяніць такі папулярны на сёння інтэрнэт.

## Соль — гэта зусім не мужчынскі занятак

Выпадкова так здарылася, што падчас спынення працы магільнянскіх крамаў у сувязі з набліжэннем фронту ў іх аказалася вельмі мала солі. Па зразумелых прычынах яе хутка размялі і на Вуздзе. Сітуацыя склалася надзвычай трывожная, калі не сказаць проста аварыйная. У сувязі з акупацыяй у кожнай сям'і ведалі, што яе абавязкова напаткаюць сур'ёзныя матэрыяльныя цяжкасці, з якімі не даводзілася сутыкацца ў мірны час. Каб хоць трохі падрыхтавацца да такіх выпрабаванняў, масамі кінуліся ў лес збіраць для засолкі грыбы. А вось солі на гэта амаль ні ў кога не было. Па яе даводзілася хадзіць ажно ў Стоўбцы — больш за дваццаць кіламетраў ад Магільнага. Гэты вымушаны промысел цалкам усклалі на сябе жанчыны. З дому выходзілі і вярталіся назад у цёмныя гадзіны сутак. Некаторыя закідвалі на свае і без таго навярэджаныя плечы па паўпуда і болей гэтага так неабходнага «стратэгічнага» прадукту. З прычыны хваробы жонкі аднойчы ў такі паход выбраўся разам са слабым полам і Іван (па-вулічнаму Дзівак). Улегцы па дарозе ў Стоўбцы ён пачуваў сябе сапраўдным героем: ішоў у ліку першых, падпяваў пры добрым настроі, не абыходзіўся без жартаў. З высока ўзнятай галавой, з пачуццём вялікай радасці, маючы за плячыма ладны пакунак з соллю, пакідаў Стоўбцы. Першыя сем- дзесяць кіламетраў ішоў пасярэдзіне соленарыхтоўшчыкаў, а затым здаўся і падаў голас:

— Жаначкі, а ці не час нам трохі адпачыць!

Адпачылі з паўгадзіны, а потым ізноў рушылі ў паход. Прайшлі мо дватры кіламетры, і Іван апынуўся ў хвасце калоны хадакоў, усё павялічваючы і павялічваючы свой адрыў ад перадапошняга чалавека. Міне яшчэ трохі часу, і Іван скіне з плячэй мяшок, самастойна зробіць сабе так жаданы адпачынак, усеўшыся ў зручным месцы на абочыне дарогі. Жанчыны зразумелі, што Іван ужо не хадок з грузам, і размеркавалі яго паміж сабой. Адзін-адзіны ў групе мужчына з паўдарогі ад Стоўбцаў да Магільнага ішоў ужо ўлегцы. На наступны дзень пра гэта даведаліся многія з магілян. Іван адчуваў сябе трохі ніякавата, не любіў ні з кім весці гаворку пра свой нядаўні паход па соль. Відаць, гэта стала сур'ёзным папярэджаннем для ўсіх астатніх мужчын, прымусіла іх не рухацца з дому, каб не выявіць сваю слабасць у пераносцы грузу на дваццацікіламетровую адлегласць. Пасля Івана ў Магільным так больш і не знайшлося аніводнага мужчыны, які рызыкнуў бы пайсці разам з жанчынамі па соль у Стоўбцы. На працягу ўсіх гадоў акупацыі яе дастаўкай займаліся выключна толькі жанчыны.

## 35 кіламетраў адмералі — і самавар на стале

Бадай самай сур'ёзнай акцыяй яшчэ зусім маладой мясцовай акупацыйнай улады з'яўляўся праведзены ў адзін з дзён студзеня ці лютага 1942 года збор у насельніцтва каляровых металаў. Да гэтай акцыі давялося далучыць занадта ўжо паслужлівых асобаў, праўда, не з ліку магілян. Што такая акцыя павінна будзе праводзіцца, людзям загадзя паведамілі, каб яны, як толькі зборшчыкі ўвойдуць у хату, адразу перадалі ім штосьці з каляровых металаў. Сёе-тое з іх адабралі і мы, але самае каштоўнае, напрыклад, ручкі на ўнутраных дзвярах хаты, тата знялі і прыхавалі. Зборшчыкі засталіся незадаволенымі нашым «дарам» акупантам і сталі шнырыць па ўсіх кутках хаты. Заглянулі і ў шафу. А там, з-за таго, што мы як след недагледзелі, стаяў самавар. Яго з вялікай радасцю ўхапілі і панеслі на вуліцу, дзе стаялі ўжо добра нагружаныя рознымі паборамі сані. Няцяжка зразумець, які прыгнечаны настрой панаваў ва ўсіх нас. Сёстры Ліда і Ада плакалі наўзрыд. Наступнага дня маці ад кагосьці на вуліцы даведалася, што зборшчыкі павінны былі браць патрэбныя ім рэчы толькі са згоды гаспадароў. Такое пацвердзілі маме і ў валаснай управе. Выходзіць, самавар забралі незаконна.

Аднойчы позна ўвечар, калі мы, дзеці, леглі спаць, паміж татам і мамай узнікла сур'ёзная спрэчка, у час якой да нас даносіліся словы: «Не хадзі», «Пайду. Не заб'юць жа яны мяне за гэта». Ніхто з нас не надаў асаблівага значэння гэтым словам. Затое, калі раніцай прачнуліся і ўбачылі, як тата з вілкамі і чапялою ўходжваюцца каля печы, не здзівіцца з гэтага ніяк не маглі, бо такое заўжды рабілі мама. Каб мы не задавалі пытанняў, адразу ж патлумачыў:



— Маці пайшла ў Літву, бо нешта нездаровіцца яе тату.

Мы паверылі і праз некаторы час уселіся за стол, каб паесці згатаванае татам. Не ведаю, як іншымі, а мною на працягу ўсяго дня заўважаўся на іх тварах вялікі неспакой, асабліва калі надышлі прыцемкі. У гэты час на стале з'явіліся чыгун бульбы ў мундзірах і самы смачны гатунак квашаных грыбоў — таўстушкі, якіх, дзякуючы «дбайным» стараннямі цывілізаванага грамадства, не знайсці цяпер у нашым лесе. Павячэраўшы, мы ўчатырох узабраліся на печ, а Ліда з татам пачалі ўходжвацца. Раптам пачуўся скрып брамкі, затым дзвярэй у сенцах і нарэшце тых, што вялі ў хату. Моцна стомленыя, з нейкім незвычайным клункам за спіной увайшлі ў хату мама.

— Міхась, — пачуўся прыглушаны голас мамы, — кідай працу, дапамажы разгрузіцца.

Зняты са спіны клунак мама папрасілі паставіць на лаву і пачалі штосьці хуценька вымаць з мяшка. І тут мы з вялікай радасцю ўбачылі тры дні таму канфіскаваны ў нас самавар. Кінуліся распытваць, як гэта ўдалося зрабіць.

— Будзе яшчэ на гэта час, — пачулі голас таты. — Трэба ж спачатку, каб маці падсілкавалася. Вунь якую адлегласць ёй давялося адмераць.

Хаця ўжо і даволі позна было, нікому з нас не хацелася ісці ў пасцель, бо ведалі, як многа цікавага пачуем ад мамы. Нягледзячы на вялікую стому, яны распавялі пра ўсё бачанае і перажытае.

— Па дарозе да Вузды мяне абганялі мо на чатырох-пяці санях, але ўсе яны былі загружаныя да адказу. У Вуздзе вельмі проста аказалася знайсці памяшканне ўправы. Калі зайшла ўнутр і сказала ў прыёмнай, што з Магільнага і па якой прычыне прыйшла ў Вузду, мне тут жа падалі крэсла, каб хоць трохі адпачыць з няблізкай дарогі. Малайчына дзяўчынка. Даведаўшыся, што я не збіраюся ў Вуздзе начаваць, адразу ж павяла ў кабінет да таго немца, ад волі якога залежала вярнуць ці не вярнуць самавар. Разам накіраваліся ў памяшканне, дзе знаходзіліся забраныя ў насельніцтва прадметы з каляровага металу, і немец праз перакладчыка сказаў, каб я шукала свой самавар. Характэрныя для яго прыкметы не патрабавалі назваць. На пошукі пайшло дзве-тры хвіліны, і самавар ужо быў у маіх руках. Дамоў адразу не пайшла, бо трэба было хоць трохі адпачыць і сёе-тое перакусіць. Ізноў дзяўчына з прыёмнай управы падала мне крэсла. Вузду пакінула апоўдні. Ад вялікай радасці, што дабіраюся дамоў з самаварам, ногі амаль не адчувалі аніякай стомы. Але, каб хтосьці падвёз хоць тры-пяць кіламетраў, была б бясконца рада.

— Ну а цяпер, дзеці, — скамандавалі тата, — дадзім маме адпачыць.

Лёс жа таго шчаслівага і нешчаслівага самавара такі: у самы галодны 1946 год яго абмянялі на два пуды жыта.

## Мясцовая ўлада пашырае свой уплыў

Паступова, неяк непрыкметна для жыхароў пачала разгортваць сваю дзейнасць мясцовая ўлада, створаная паводле прадпісаных зверху стандартаў. Працавала яна ў цесным кантакце з кіраўніцтвам мясцовага калгаса. Гэта найбольш за ўсё яе заслуга, што пад надзейную ахову былі ўзяты ўсе грамадскія будынкі, працавала, праўда, з вялікімі перабоямі з-за страшэннага недахопу матэрыяльных і фінансавых сродкаў бальніца, удалося ахапіць школьным навучаннем вялікую колькасць дзяцей. Быў пакладзены канец бессістэмнай высечцы будаўнічага лесу. Нарыхтоўваць яго маглі толькі людзі, атрымаўшы на гэта дазвол у валасной управе. Як надзіва, вельмі снежнай выдалася зіма 1941/42 года. Узніклыя з гэтым праблемы таксама спакойна, без крыку, застрашвання вырашаліся пры непасрэдным удзеле мясцовай улады. Яна разам з кіраўніцтвам калгаса пастаралася хоць у самым мізэрным памеры выдаць штосьці на працадні людзям з ураджаю 1941 года. Не існавала асаблівых праблем з зімоўкай калгаснага статка. Жыхарам мястэчка дазволілі па некалькі разоў мяняць сваю карову на калгасную, пакуль не выберуць такую, якая іх поўнасцю задавальняла б. Такой магчымасцю пакарысталася і наша сям'я, застаўшыся вельмі задаволенай зробленым выбарам. Увесну 1942 года акупанты забралі ўсіх калгасных кароў. Многія наракалі на кіраўніцтва калгаса, што яно своечасова не арганізавала забой хоць нязначнай часткі буйной рагатай жывёлы (а такое ж строга забаранілі больш высокія ўлады) з тым, каб выдаць трохі мяса людзям. Бальшыня ж з іх не мела такой магчымасці, сядзела на нішчымніцы. У той нялёгкай сітуацыі ёсць і доля віны савецкай улады, якая прыняццем у даваенны час драконаўскіх законаў за кражу сацыялістычнай уласнасці адвучыла людзей замахвацца на калгаснае дабро.

Не ўпускаліся з-пад увагі розныя пытанні па стварэнні ў мястэчку нармалёвых умоў для спакойнага жыцця. Не ведаю, чаму да гэтай справы падключылі і майго тату, бо ў іх жа моцна балелі ногі. Татавымі абавязкамі было вызначаць па чарзе людзей для вартавання вуліц у начны час. Хадзілі яны з трашчоткамі ў руках, палохалі ўяўных злодзеяў. Заказваць людзей на варту даводзілася часцей за ўсё мне, дзякуючы чаму добра ведаў, дзе хто з магілян жыве.

У зімовы час шмат клопатаў ва ўлады з'явілася з вызначэннем, хто ж гэта так густа пракладвае лыжню ў лесе. Распускалі чуткі, што ў першыя месяцы 1942 года ў нашай мясцовасці сустракаліся невялічкія групы партызан з лыжамі на нагах. І ўсё ж лыжныя сляды ў лесе належалі калі не выключна, дык пераважна местачковым хлопцам. Прыдбаныя пры разграбленні пагранічнай камендатуры лыжы, мо як нішто іншае, карысталіся вельмі вялікім попытам з надыходам зімы. Лепшага за лес месца для хадзьбы на лыжах нельга было знайсці. Каб спакойна сядзець у воласці яе начальству, ад апошняга паступіў строгі загад здаць усе лыжы



фабрычнай вытворчасці. Шкада было развітвацца, але што зробіш. Лыжы прымалі ў памяшканні самой воласці.Тут мяне моцна ўразілі сцены, спрэс абабітыя плакатамі пра «вызваленчы» паход войскаў Вермахта. Убачыўшы маю непадробленую зацікаўленасць да плакатаў, прапанавалі пагартаць багата ілюстраваныя на гэтую тэму часопісы. Не адмовіўся, што пасеяла ў душы нават нейкае зерне веры ў справядлівасць нямецкага парадку на заваёванай тэрыторыі. Тады ж яшчэ па віне акупантаў у нашай мясцовасці не было праліта і кроплі крыві мірных грамадзян. Усё гэта было яшчэ наперадзе і вымяралася не кроплямі, а вёдрамі крыві.

## Расфармаванне калгаса

З ліквідацыяй паводле распараджэння акупантаў калгасных жывёлагадоўчых фермаў і перадачы іх статка на карысць Трэцяга рэйха для ўсіх магілян стала зразумелым, што набліжаецца канец панавання калектыўнай формы працы на зямлі. Не ўтойвала гэтага і мясцовая ўлада. Дзесьці ў студзені-лютым 1942 года яна арганізавала сустрэчу магілян з прадстаўніком Вузды (насіў вайсковую форму), які адказваў за эканамічнае становішча раёна. Прысутных больш за ўсё хваляваў памер падаткаў за прыватнае карыстанне зямлёй. Як высветлілася са слоў гэтай асобы, ён быў нават меншы, чым за царскім часам. Магілян такое абрадавала, і яны яшчэ з большай нецярплівасцю чакалі, калі ж усё-такі прыйдзе канец калгасу. Адбылося такое ранняй вясною 1942 года да пачатку палявых работ. Такія кардынальныя перамены ў сельскай гаспадарцы не дужа абрадавалі нашую сям'ю, бо з-за хваробы таты не было каму працаваць на зямлі. Добра запамятаваў, як дзялілі коней паміж людзьмі: цягнулі жэрабя. Рабілася гэта каля самай канюшні. Аднаго рабочага каня давалі на тры гаспадаркі. Некаторыя давяралі цягнуць жэрабя каму-небудзь са сваіх дзяцей у надзеі на абавязковую ўдачу. Нам разам з Букавымі і Ёдкавымі (вулічныя назвы сем'яў) выпаў ніштаваты конь з гадавалым жарабём. Тата ўсё-такі не вытрымалі і, калі пачаліся вяснова-палявыя работы, запрэглі каня, ускінулі на воз плуг, загадалі жонцы і мне садзіцца, і мы рушылі араць сваю зямельку. Тата мала пахадзілі за плугам, бо хутка станміліся. Прадоўжыць распачатую працу давялося маме. Мяне ж абавязалі добра прыглядацца, як трэба араць поле. Здаецца, і ўважліва прыглядаўся, але як першы раз стаў за плуг, нічога не атрымалася. Праз два дні, калі да нас ізноў прыйшла чарга працаваць на кані, таксама ўсе ўтраіх паехалі на поле. Адведзены на гэты раз пад ворыва ўчастак поля намнога лепш паддаваўся плугу, і сёе-тое ў мяне пачало атрымлівацца. Не ведаю, у каго ад гэтага было больш радасці: у таты, мамы ці ў мяне? Не магу не сказаць слова шчырай удзячнасці суседзям па зямельных участках. Думаю, што ў першы год вядзення прыватнай сельскай гаспадаркі яны на нашым полі больш узаралі зямлі, чым мае тата, мама і я. Такое ж можна сказаць

і пра касьбу. Праўда, да яе добра прыклалі руку і мамін брат Валодзя. Будучы курсанатам Кіеўскага ваеннага медыцынскага вучылішча, яны ўдзельнічалі ў абароне горада ад нямецкіх захопнікаў. Пасля здачы горада ворагу з вялікімі цяжкасцямі дабраліся дамоў і дапамагалі бацькам па сельскай гаспадарцы. Не забываліся і на сваю старэйшую сястру Жэню, добра ведаючы, якія цяжкасці выпалі на яе долю.

Проста нельга не дзівіцца з прадпрымальніцтва некаторых магілян. Не мінула і двух месяцаў пасля падзелу зямлі, а яны ўжо за вядомыя толькі ім самім сродкі набылі ў вёсках і на хутарах былой Заходняй Беларусі добрай пароды коней і дапамагалі людзям за плату выконваць розныя віды сельскагаспадарчых прац. Словам, усе звязаныя з сяўбой, касьбой, уборкай ураджаю працы былі праведзены значна лепш, чым гэта рабілася ва ўмовах калгаснага ладу. Вынікам сваёй працы засталася задаволенай і нашая сям'я. Вось толькі з-за маёй вялікай занятасці па гаспадарцы ледзь не цалкам закінуў прыбытковы грыбны промысел.

Занятыя зранку да позняга вечара працай людзі нават забываліся, што яны жывуць у час, калі ідзе вайна, на іх зямлі пануе акупацыйны нямецкі рэжым. У сваіх кароткіх з-за вялікай занятасці размовах магіляне амаль зусім не абмяркоўвалі выкліканага вайной і акупацыяй становішча. Уся гаворка вялася ў асноўным пра ход сельскагаспадарчых прац. Міма ўвагі дарослага насельніцтва мястэчка праходзілі рэдкія факты з'яўлення ў ім нешматлікіх па колькасці партызанскіх груп, а калі адна з іх дзесьці позняй восенню 1942 года паралізавала працу мясцовай малачарні, людзі нават наракалі на такую акцыю, баючыся, што зараз могуць абавязаць іх здаваць малако ў Вузду. Асабліва нічым не даймала местачкоўцаў валасная ўправа. Стваралася ўражанне, што яе нібыта зусім няма ў прыродзе. А вось староста Рыгорка Цыбульскі вельмі часта паказваўся на людзях. З імі ў яго ніколі не было ніякіх скандальных сітуацый. Успрымаўся, як свой чалавек, бо такім ён і сапраўды з'яўляўся. Забойства яго паліцэйскімі ўсе ўспрынялі за вялікую бяду.

## Стоўбцы паланілі мяне

Па твары таты я неаднойчы заўважаў, як ім адначасова і балюча, і радасна было назіраць, як мы з мамай увіхаемся на сваіх зямельных надзелах. Балюча таму, што да той жыццядайнай працы самі не маглі з-за хваробы прыкласці рук. Радасць жа прыносіла цвёрдая ўпэўненасць, што хоць і з некаторым спазненнем, хоць і не належным чынам, але сяўба будзе завершана. Гледзячы на нас, і ў першую чаргу на мяне, яны маглі згадваць, што некалі і самі з-за ранняй смерці таты (таксама звалі Міхасём) падлеткам ускінулі на свае кволыя плечы ўвесь цяжар сельскагаспадарчай працы. Калі на вуліцы па вечарах сталі гаварыць пра ўсходы рана пасеяных яравых культур, тата не вытрымалі і разам са мной паехалі на



свае палеткі. І праўда, яны зазелянелі. Ад радасці ў іх на вачах з'явіліся слёзы. Спачатку мне здавалася, што падалося, але затым усё выразней чуліся татавы словы:

— Трэба жыць! Хочу жыць!

Яны былі паўтораны і па прыездзе дамоў у прысутнасці мамы.

— Калі хочаш жыць, — не без радасці пачутага сказалі яны, — трэба сур'ёзна лячыцца і не ў Вуздзе, а ў Стоўбцах. Адтуль жа ў першыя дні вайны прыехалі і пасяліліся ў Магільным Петрашэўская з двума сынамі, якія часта ходзяць да Лёні. Вось праз іх і трэба шукаць сувязі са Стоўбцамі.

Тыя хлопцы паслухалі мяне, і іх мама ахвотна згадзілася дапамагчы нам, запэўніўшы, што ў Стоўбцах мае добра знаёмых лекараў. Пакуль яшчэ стаялі цёплыя летнія дні, сталі неадкладна рыхтавацца ў дарогу. Вырашылі, што з татам паеду і я. Радасць у мяне лілася цераз край. Я яшчэ ні разу не быў у горадзе. Дый давядзецца ехаць па тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, пра якую ведаў толькі з прачытанага да вайны ў савецкіх кнігах і газетах.

У прадчуванні цікавага жаданага падарожжа ніяк не мог прымусіць сябе заснуць і вельмі абрадаваўся, што нарэшце дачакаўся таго часу, калі тата прыйшлі мяне будзіць. Снедаць не вельмі хацелася такой ранняй парой, але трэба было, бо наперадзе доўгая дарога. Вось яна і прывяла нас да броду цераз раку Нёман паблізу вёскі Луніна. Яшчэ дзве-тры хвіліны часу — і мы на тэрыторыі Стаўбцоўшчыны. Такія ж краявіды, як на маёй роднай Вуздзеншчыне, толькі хутароў у апошняй няма. А ўвагу маю яны ой як прыцягвалі. Цешылі вока раскінутыя паабапал дарогі лясы. І ўсё ж хацелася хутчэй убачыць першы ў маім жыцці горад Стоўбцы. Нарэшце ўбачыў і адразу палюбіў за яго прыгожыя вуліцы і чысціню на іх. Нязвыклым было бачыць у дзённы час шмат людзей і асабліва моладзі на вуліцах, бо ішло ж жніво. Як пазней высветлілася, гарадскія ўлады ладзілі ў той дзень нейкія мерапрыемствы для моладзі, таму яна бясконцым патокам рухалася па тратуарах у вызначанае месца.

Без асаблівых праблем знайшлі дом, гаспадыня якога бралася арганізаваць візіт у гарадскую бальніцу. Сустрэла нас вельмі ветліва. Мне прапанавалі пахадзіць па агародзе і садзе, сарваць там, што душа пажадае. Пакваліцца было на што, але я вярнуўся на двор з ігрушай, яблыкам і памідорам у руках, што здзівіла гаспадыню. Яна тут жа загадала дачцэ нарваць для нас поўны кошык садавіны і агародніны. Увесь гэты дар гаспадарлівых рук высыпалі на воз і прыкрылі сенам. Час ехаць у бальніцу. Спробы таты дамовіцца пра плату лекарам былі рашуча адхілены.

— Яны мне вельмі блізкія людзі, — прамовіла стаўбцоўская незнаёмка, — і ўсё, што Вам трэба, зробяць без усякай аплаты.

Так яно і сапраўды было. Па прыездзе ў бальніцу яна адразу павяла тату да доктара, а я застаўся на возе, увесь час назіраючы за няспынным рухам людзей. Колькі разоў пакідаў воз, выходзіў на іншыя вуліцы, любуючыся іх дамамі. Паглядзець было на што: гэта ж не Магільнае. З

памяшкання бальніцы тата выйшлі разам з лекарам і нашай памагатай. Звонку выгляд у лекара быў даволі сур'ёзны, але, як толькі ўбачыў мяне, на твары з'явілася ветлівая ўсмешка, і я пачуў:

— Тата твой выздаравее, невылечнай хваробы не выяўлена.

З такім прыўзнятым настроем мы пакідалі Стоўбцы. Дзень працягваў радаваць сваім сонечным надвор'ем, цеплынёй. Лейцы былі ў маіх руках, і я пагнаў каня рыссю, каб да заходу сонца дабрацца дамоў. Спачатку зусім ціха, а затым усё гучней і гучней тата напяваў распаўсюджаныя ў нашым мястэчку песні. І па сёння дзіўлюся: яго жыхары стала зведвалі матэрыяльную нястачу, панеслі вялікія людскія ахвяры з-за масавых фізічных рэпрэсій ў 1937–1938 гадах, а з песняй ніколі не развітваліся. Яны гучалі не толькі падчас застолляў, але і па дарозе дамоў з поля, сенажаці. Не раз звяртаў увагу, як прыемны татаў голас выдзяляўся сярод астатніх, але так, як яны хораша, з душою спявалі па дарозе са Стоўбцаў у Магільнае, ніколі не даводзілася чуць. Лекары сваю справу зрабілі досыць прафесійна. Колькі дзён у таты не мелася аніякіх праблем са здароўем, што заўважалі нават і суседзі. Доўжылася так месяц ці паўтара, а затым здароўе пачало паступова пагаршацца. Яшчэ раз наведаць Стоўбцы не адважыліся і лячыліся ў мясцовай бальніцы, а больш за ўсё звярталіся да народных традыцыйных метадаў барацьбы з хваробай. Паслухаліся людзей і завялі нават казу ў надзеі на лекавыя ўласцівасці яе малака. Жаданых вынікаў не давялося дамагчыся.

## Шукаць дапамогу пайшлі ў Вузду

У першы год акупацыі ў Магільным жыло нямала даволі адукаванай моладзі мужчынскага полу, бо дамоў вярнуліся многія з тых, што вучыліся ў Мінску і іншых гарадах. Прычым тая моладзь у абсалютнай сваёй бальшыні вызначалася высокай ступеняй адданасці сацыялістычным ідэалам. Пра гэта ў свой час таксама вельмі клапаціліся як кіраўніцтва мясцовай агульнаадукацыйнай школы, так і пагранічнай камендатуры. На такую моладзь не маглі не кінуць вока камандзіры і палітработнікі першых партызанскіх атрадаў у нашай мясцовасці. Заставалася толькі выпрацаваць правільную методу, як практычна далучыць маладых магілян да партызанскага руху, каб не паставіць пад удар іх сем'і. Такое на пэўны час удалося. Жорсткія ўмовы вайны і акупацыі, як ужо адзначалася, аказаліся не ў стане пазбавіць моладзь так уласцівай ёй весялосці. У многіх вымярэннях жыццё гэтай узроставай катэгорыі праходзіла ў звычайных стандартах мірнага часу. Самым любімым і масавым заняткам заставаліся танцы. Ніводнае мерапрыемства, як яны, не прыцягвала да сябе столькі моладзі. Вось гэты фактар вырашылі выкарыстаць партызаны, папярэдне азнаёміўшы са сваім планам самых надзейных хлопцаў. Сутнасць яго заключалася ў тым, што ў час танцаў у гушчу моладзі ўрываецца група



ўзброеных людзей без усялякіх знакаў адрознення, камандуе разысціся, а некаторым звязвае рукі і адводзіць у невядомым напрамку. Каб такім шляхам далучыцца да партызанаў, у той вечар на танцы прыйшлі і хлопцы, якія звычайна не цікавіліся імі. На танцы (ладзіліся ў канцы лета 1942 года) сабралася столькі моладзі, што нельга было ёй змясціцца ў хаце. Тую забаву давялося ладзіць пад адкрытым небам. Як на шчасце, хата знаходзілася паблізу цвінтара, дзе на цвёрдым грунце лёгка кружыліся пары. Такая сітуацыя аказалася вельмі даспадобы партызанам, і яны бліскуча правялі задуманую аперацыю.

Назаўтра ўсё Магільнае толькі і гаварыла пра ўчыненае невядомымі асобамі паланенне нашых хлопцаў. Людзі заходзілі ў хаты іх бацькоў, каб выказаць спачуванне з такога вялікага гора. Былі і такія бацькі, як, да прыкладу, самы паважаны ў мястэчку казачнік Паўлік Ляпіла*, што не маглі ніяк стрымаць сябе ад вялікага гора і пускалі слязу з вачэй. Па яго ж ініцыятыве быў арганізаваны паход у Вузду, каб папрасіць уладу дапамагчы адшукаць «выкрадзеных» хлопцаў. Там паабяцалі. Як бачым, нумар у магілян з народнай дыпламатыяй бліскуча ўдаўся: змаглі пераканаць уладу, што гора ў іх не надуманае, а сапраўднае.

Літаральна праз пару дзён неяк нечакана для магілян усё супакоілася, ніхто асабліва не бедаваў, што застаўся без сына. А месяцы праз два ўвогуле забыліся пра тое здарэнне падчас танцаў. Людзі здагадваліся, што тут адбылося нешта зусім не тое. І яны не памыліліся. Пагаворвалі, што нават таго-сяго з «выкрадзеных» бачылі позна ўвечары ў сваіх бацькоў. Так яно і сапраўды было. Калі ж у нашай мясцовасці партызанскі рух набыў больш-менш масавы характар, «ахвяры» тых танцаў усе да аднаго пастараліся наведаць родную хату, каб засведчыць бацькам і сваім землякам, што яны жывыя і здаровыя, вядуць узброеную барацьбу з акупантамі.

## Першая «сур'ёзная баявая» акцыя партызанаў

З цягам часу магілян перастала здзіўляць з'яўленне ў іх мястэчку невялікіх груп партызанаў. Звykліся з сістэматычнымі разбурэннямі імі малачарні,ператрусамі ў памяшканні мясцовай воласці. Праўда, праз пэўны час аднаўлялася дзейнасць і адной, і другой. Затое ніхто не спрабаваў аднавіць спаленых партызанамі дзесяці ў канцы лета 1942 года трох магільнянскіх мастоў — два з іх цераз раку Нёман, трэці — цераз яго прыток. Гэтая партызанская акцыя, праведзеная ўначы, шмат нарабіла шуму. Амаль усё Магільнае тут жа высыпала на вуліцы, і кожны стараўся расказаць, як ён даведаўся, як ацэньвае той «гераічны» ўчынак партызанаў. Пастараўся ўзяць слова і Варвон Храноўскі. Але да таго, як выкласці яго аповед, хацеў бы звярнуць увагу чытачоў на такую акалічнасць. У нас

---

* Пазней гэтае прозвішча сталі пісаць так: Ліпіла.

да вайны не было асабліва модным занавешваць нанач вокны. А вось, як пачалася вайна, прыйшлі немцы, на вуліцах сталі з'яўляцца незнаёмыя асобы, амаль кожная сям'я чымсьці старалася занавесіць вокны сваёй хаты, асабліва тыя, недалёка ад якіх стаялі ложкі. У некаторых сем'ях вокны звычайна занавешвалі жаночымі спадніцамі, што адметным чынам і паўплывала на аповед Варвона.

— Прачнуўся ад нейкага трэску ў вушах. Спачатку падумалася, што такое прыснілася мне.Стаў прыслухоўвацца. Трашчыць і ўсё мацней і мацней. Ну як тут улежаць. Устаў з ложка, падняў спадніцу. А там ой-ёй як чырвана.

Усе, хто чуў такое, кінуліся ў рогат, а Варвон ніяк не можа зразумець, чым гэта ён так рассмяшыў людзей. Пазней дайшло да яго. Міне шмат гадоў, а яму будуць усё згадваць той выпадак. Варвон толькі смяяўся і ніколі не крыўдаваў.

Тая партызанская акцыя, нягледзячы на яе «гераічны» характар, не апраўдвалася магілянамі, бо яны аказаліся адрэзанымі ад усяго таго, што звязвала іх з правабярэжжам Нёмана. У нас, да прыкладу, былі родныя ў Літве (жылі маміны тата і мама, сястра з трыма дзецьмі), Замосьці (два родныя маміны дзядзькі з сем'ямі). Да пераўтварэння Магільнага ў партызанскую зону людзі даволі часта па сваіх асабістых патрэбах хадзілі, ездзілі ў Вузду. Цяпер, каб пераправіцца на чайцы на правы бераг Нёмана, трэба было заплаціць перавозчыку па адным яйку за чалавека. Найбольш жа нязручнасцяў ад спаленых мастоў мелі жыхары правабярэжных прынёманскіх вёсак Літва і Стальбоўшчына, бо іх лугі знаходзіліся па левым беразе Нёмана прыкладна за чатыры-пяць кіламетраў на паўднёвы захад ад Магільнага. Тыя лугі выдзелілі ім яшчэ за царскай уладай, бо паблізу Літвы і Стальбоўшчыны не было ў дастатковай колькасці сенажацяў. Ад такой практыкі не адмовіліся ні пры саветах, ні ў час акупацыі. З-за спаленых мастоў вазы з сенам даводзілася ўброд пераправуляць на правы бераг Нёмана. Тады ён быў паўнаводным. Гэта сёння ў многіх месцах яго можа перайсці свіння, не падмачыўшы жывата. А тады нават у спякотнае лета ў месцах броду нельга было пераправіць на правы бераг Нёмана вазы з сенам, не падмачыўшы яго ніжнія пласты. З гэтай бядой людзі змірыліся толькі тады, калі зразумелі, што масты спалілі толькі дзеля таго, каб ад Вузды адрэзаць Магільнае, якое меркавалася «прыпісаць» да партызанскай зоны. Калі да 17 верасня 1939 года яно з'яўлялася памежжам дзвюх дзяржаў — СССР і Польшчы, дык цяпер выступала ў такой іпастасі паміж партызанскай зонай і падлеглай акупацыйнай уладзе тэрыторыяй. Пасля спалення мастоў у Магільным перасталі дзейнічаць усялякія акупацыйныя ўстановы, яго насельніцтва цалкам выпала са сферы дзейнасці Вуздзенскай цывільнай адміністрацыі. Сваіх мэтаў тут маглі дамагацца акупанты, толькі абапіраючыся на ваенную сілу. Усё гэта дазваляе гаварыць, што тыповы акупацыйны рэжым для Магільнага скончыўся ўвосень 1942 года. Спачатку наступіла кароткатэрміновае двухуладдзе, а затым



загаспадарылі партызаны. Мястэчка без бою пакідалі яны толькі тады, калі ў яго ўрываліся нямецкія карныя атрады.

## Я застаюся без таты

Хваробы ніяк не адступалі ад таты, хаця ў мясцовай бальніцы працаваў кваліфікаваны лекар адной з мінскіх клінік Аркадзь Суслаў. Вось толькі бяда, што ў яго распараджэнні не мелася патрэбных медыкаментаў, інструментаў, абсталявання. Акрамя лячэння хранічнага пароку сэрца, тату часта рабілі ў бальнічных умовах прамыўку страўніка. Доктару за лячэнне трэба было плаціць натурай. Грыбы для гэтай мэты не падыходзілі, таму я колькі дзён адвёў на збор каласкоў, дзе нядаўна зжалі пшаніцу. Тут ужо да мяне пабывала нямала людзей. І ўсё ж з сабраных каласкоў выцерушылі пшанічнага зерня на ёмістае вядро. Лекар застаўся задаволены і абяцаў рабіць усё залежнае ад яго, каб папраўць здароўе таты. Не атрымалася. Позняй восенню 1942 года ў начны час закончылася іх нялёгкае зямное жыццё. А быў ім толькі 41 год.У апошнія дні жыцця таты з канём у полі працаваў у асноўным толькі я, бо мама не адыходзілі ад хворага. Таміўся я страшэнна. Так было і ў апошні дзень жыцця таты. Мяне ледзь разбудзілі, каб пайшоў развітацца з татам. У спальні мама разам з фельчарам Васількам Дубіцкім увіхаліся каля безнадзейна хворага, давалі піць, дапамагалі аднавіць дыханне. Наўзрыд галасілі Ліда і Ада, плакаў, прыхіліўшыся да татавага ложка, сямігадовы Геня. Да канца не прачнуўшыся ад вялікай стомы на працы, я, трохі пастаяўшы, як след не ўсвядоміўшы, што адбываецца, спрасонку пакрочыў да свайго ложка і адразу ж заснуў. Прачнуўся ўжо тады, калі ў хаце поўным ходам ішла падрыхтоўка нябожчыка для развітання з зямным светам. І раней, і сёння не магу дараваць сабе, што не знайшоў тады ў сабе сілы, каб да канца вызваліцца з-пад улады сну і быць разам з татам у апошнюю хвіліну, апошнюю секунду так дарагога для мяне іх зямнога жыцця.

Хавалі тату вельмі сціпла і ў асноўным толькі родныя. Такі тады быў час. Дзеці, за выключэннем толькі чатырохгадовага Толі, панаплакаліся нямала. Стойка трымаліся мама. Паводле пачутага ад іх пазней моцна не рыдалі толькі таму, каб не навесці вялікага жаху на дзяцей. Затое волю давалі слязам тады, калі заставаліся сам-насам і рыдання ніхто не мог пачуць з дзяцей. А плакаць, бедаваць, пахаваўшы гаспадара і застаўшыся ў вайну з пяцярыма дзецьмі, было больш чым дастаткова падстаў.

## Іду на збліжэнне з партызанамі

Перыядычнае з'яўленне нешматлікіх партызанскіх груп у мястэчку не ўспрымалася яго жыхарамі за нейкую сур'ёзную сілу ў змаганні з

акупацыйным рэжымам. Аднак ставіліся да іх з вялікай павагай, асабліва тады, калі сярод апошніх сустракаўся хтосьці з Магільнага і навакольных вёсак. Бадай ні ў кога партызаны не карысталіся такім аўтарытэтам, як у падлеткаў. Зразумела, і ў мяне, паколькі мой родны дзядзька Валодзя яшчэ да набыцця партызанскім рухам шырокага маштабу, далучыліся да лясных братоў. У значнай ступені вялікая прыхільнасць падлеткаў да такога руху тлумачылася іх прасавецкай ідэалагічнай загартоўкай у даваеннай школе, актыўным удзелам у патрыятычнага характару мерапрыемствах піянерскай арганізацыі, сувязямі з пагранічнікамі. Я заўсёды з вялікай ахвотай ішоў туды, дзе вакол партызанаў збіраўся натоўп. Некаторыя з іх нават запрыкмецілі мяне. І калі ім трэба было адшукаць брод цераз Нёман каля вёскі Луніна, што за тры кіламетры на захад ад Магільнага, выбар часта падаў на мяне. Выконваў і іншыя дробныя даручэнні для партызанаў, найчасцей за ўсё ў светлавыя гадзіны сутак падвозіў на сваім кані да той ці іншай суседняй вёскі. Некаторыя з партызанаў ужо ведалі мяне ў твар і называлі па імені, чым я толькі ганарыўся. Затое асаблівай ахвоты не было выконваць загад партызанаў у адзін з позніх лістападаўскіх вечароў 1942 года. Выдзелены на трох гаспадароў конь у адпаведнасці з чаргой знаходзіўся ў нашым хляве. Калі партызаны загадалі давезці іх да месца прызначэння (на тэрыторыю Капыльшчыны), гэта, натуральна, ускладвалася на нас. Мама вельмі прасілі астатніх двух супольных уласнікаў каня выканаць гэтае нялёгкае даручэнне, паколькі іх дзеці былі старэйшыя за мяне. Не пагадзіліся. Мама былі ў роспачы. Нядаўна пахавалі гаспадара, а тут і яго наступніка даводзіцца позным дажджлівым вечарам пасылаць з канём невядома куды. Я ж асаблівай трывогі не бачыў у такой паездцы і, здаецца, спакойна паводзіў сябе. Усю дарогу хтосьці адзін з партызанаў не спаў, каб паказваць мне, куды трэба ехаць. Дзесьці праз чатыры гадзіны дабраліся да месца прызначэння. Мне не прапанавалі дачакацца, пакуль пачне днець, але дазволілі накарміць каня і прынеслі вады напаіць яго, пасля чаго я рушыў у бок дому. Ведаў, што коні ўмеюць пройдзеным імі шляхам вяртацца назад, толькі не трэба тузаць іх лейцамі. У гэтым я ніяк не мог не давяраць свайму каню. Не раз здаралася з палявых работ вяртацца дахаты ўжо ў самыя прыцемкі (не ўпраўляўся ў час) і драмаць на возе, цалкам даверыўшы выбіраць дарогу каню. І ён ніколі не блудзіў. І без мяне ведаў, у які бок звярнуць, калі насустрач рухалася падвода. Словам, вялікага страху ў мяне не было, што буду ўначы блукаць па невядомых дарогах Капыльшчыны і Вуздзеншчыны. Спаць забараняў сабе. Наўмысна напаўголаса напяваў савецкія патрыятычныя, піянерскія песні, змочваў слінай павекі вачэй. На добра ўезджанай, гладкай дарозе падганяў каня лейцамі, каб бег рыссю. Вось выехалі на грудок з раздвоенымі дарогамі: адна ішла пры лесе, а другая — выганам каля ракі. Конь нечакана спыніўся, што мяне насцярожыла. А вось, думаю, мо ваўкоў дзе заўважыў. За лейцы каня не тузаю, каб не перашкаджаць яму «думаць». Неяк трохі нерашуча, ківаючы то ўлева, то ўправа галавой, не спяшаючыся ён пайшоў дарогай пры лесе. І раптам рэзка рвануў направа і ледзь не рыссю скіраваўся на тую дарогу, што ішла выганам. У той няпростай сітуацыі я ні ў чым не дапамагаў каню, каб часам не збіць яго з панталыку. І ён не памыліўся! Дамоў вярнуўся зацемна, але мама ўжо ўходжваліся каля печы і моцна абрадаваліся, што ў мяне ўсё добра скончылася.

Тая начная паездка з партызанамі на Капыльшчыну, несумненна, была не з лёгкіх, адказная, затое яна дапамагла мне яшчэ больш адчуць сябе мужчынам (а ішоў жа 14-ы год). Я прыкметна пасмялеў. Цяпер, калі трэба было паказаць партызанам брод цераз Нёман ля вёскі Луніна, з ахвотай згаджаўся дапамагчы ім і ноччу, не баючыся пехатою вяртацца назад дамоў.

### Аплакванне свінні

Чым больш мінала часу пасля смерці таты, тым больш усведамляў я сябе за гаспадара хаты. Ва ўсім гэтым спрыялі мне і мама. Яны часта раіліся са мною, калі трэба было што-небудзь сур'ёзнае зрабіць па гаспадарцы. Іншым разам і я выступаў з якой-небудзь ініцыятывай. Па маёй прапанове вырашылі закалоць адну з дзвюх свіней, якая хаця і ела шмат, але амаль зусім не прыбаўляла ў вазе. Выканаць гэтую аперацыю даручылі мне. Я не раз бачыў, як такое рабілі тата, і таму ахвотна ўхапіўся за швайку (так у нас называлі шыла, якім калолі свіней) ды так усадзіў у худое цела свінні, што праткнуў яе наскрозь і нават дабраўся да верхняга пласта гною. А свіння жыве, бо швайка абмінула сэрца. Давялося паўтарыць усё спачатку. На гэты раз паспяхова.

Закалоўшы «бесперспектыўную» свінню, з'явілася рэальная магчымасць лепш карміць тую, што пакінулі да пазнейшага часу. Сваім і на вока прыкметным папаўненнем у вазе яна радавала і маму, і мяне. Аднойчы чую ад іх:

— Сынок, ужо пара калоць яе. Час жа неспакойны.

Назвалі некалькі сем'яў, у якіх партызаны пабралі свіней, і працягвалі гаворку далей:

— Нічога, што цеплавата. Солі, дзякаваць богу, хапае ў нас.

— Не, — кажу, — будзем працягваць карміць і далей. У нас жа шэсць душ сям'і, усе любяць і сала, і мяса. Пачакаем да маразоў.

Не дачакаліся. Дзесьці ў пачатку снежня 1943 года сярод ночы на ўсю хату раздаўся роспачны мамін голас:

— Дзеткі! Партызаны забіраюць свінню! Выбягайце з хаты, будзем разам ратаваць свінню!

Першым выбег, у чым спаў, я і стаў угаворваць партызанаў не забіраць свінню, спасылаючыся на тое, што нас пяць дзяцей (аднаму толькі чатыры гады), жывём без бацькі. Не паслухалі. Тады стаў гаварыць, як дапамагаю партызанам, як аднойчы трох з іх цёмнай асенняй ноччу вазіў на Капыль-

шчыну. Усе мае довады — як гарох аб сценку. Тады вырашыў зачыніць брамку, каб не даць вывесці свінню да павозкі, што стаяла на вуліцы каля хаты. За такое супраціўленне атрымаў добрага выспятка пад зад і зароў на ўвесь двор. Да мяне падбеглі Ліда, трымаючы на руках Толю, і Ада. Генадзь заліваўся горкімі слязьмі, бо мо ніхто, як ён, так не любіў той свінні. У вялікай роспачы маці з немым крыкам бегалі то па двары, то выскоквалі на вуліцу ў надзеі, што, можа, выйдуць на дапамогу суседзі, што ўсё ж мо адумаюцца партызаны і адмовяцца ад сваёй рабаўніцкай акцыі. Не, такога не адбылося. Партызанская павозка з нашай карміцелькай-свіннёй рушыла ў дарогу, а мы ўсе, горка плачучы (акрамя Толі), пайшлі ў хату. Я яшчэ ніколі не бачыў у такой вялікай роспачы маму. Яны галасілі, як маглі, і ледзь не рвалі валасы на сваёй галаве. Былі зусім не такімі, як у дзень нядаўняга пахавання мужа і нашага таты, дзякуючы чаму ў нас у час развітання з такім дарагім чалавекам прысутнічала ўпэўненасць, што мы не загінем са сваёй валявой, энергічнай мамай. Цяпер жа яны былі зусім іншымі, на мяжы поўнага адчаю. Іх выгляд усіх нас прыводзіў у жах. Акрамя Толі, ніхто не лёг спаць. Маўчалі ці горка плакалі. Такі ж прыгнечаны настрой быў у нас і ўдзень.

Дні праз два-тры сустрэўся са сваімі знаёмымі партызанамі і, ледзь не плачучы, расказаў ім, што здарылася ў нас.

— Не хвалюйся, — сказалі яны. — Мы пастараемся як-небудзь залячыць нанесеныя гэтымі бандзюгамі тваёй сям'і рану. Не свінню ўзамен прывязём, а будзем па частках вяртаць забранае ў вас.

І пакрысе вярталі, што суцяшала мяне. На пытанне мамы:

— Адкуль гэтае мяса?

Я адказваў:

— Быў у Літве ў дзеда. Яны якраз закалолі свінню і падзяліліся з намі.

Калі знаёмыя мне партызаны даведаліся, што «канфіскаваная» ў нас свіння важыла пад 150 кілаграмаў, заявілі:

— Больш мы не будзем кавалкамі даваць табе мяса, а як добра пахаладае, прывязем паўсвінні і на гэтым канчаткова вырашым пытанне.

Так яны і зрабілі. Калі мама ўбачылі, што партызаны нясуць у сенцы добрую палову свінні, ім (маме) загадалі маўчаць, бо гэта ж робіцца дзеля таго, каб пакрыць незаконна нанесеныя нашай сям'і страты, і адразу пакінулі хату. Мама не паспелі выявіць аніякай рэакцыі і толькі ў глыбокім роздуме пазіралі на партызанскі «падарунак». Зразумела, на двор яго не выкінулі. Выкарысталі па прамым прызначэнні.

Пра ўсё, што тут напісана, ніколі не забывалася нашай сям'ёй. У пасляваенны час родныя мяне трохі асуджалі, што не стрымліваў дзеянні партызанаў па кампенсацыі стратаў за выкраданне іх жа братамі па зброі нашай свінні. З такой ацэнкай, праўда не так катэгарычна, пагаджаўся і я. А вось у свае няпоўныя чатырнаццаць гадоў, у тую нішчымніцу, я цалкам апраўдваў усё, што рабілі партызаны, каб зменшыць нашую бяду. Займаў такую пазіцыю яшчэ і таму, што свінню ж забралі па маёй віне.



Каб паслухаў маму і раней за тыдзень-два закалоў свінню, у тую злавесную снежаньскую ноч яна знаходзілася б не ў хляве, а часткамі ляжала б у кубельцах. У партызанаў не было б магчымасці пажывіцца за кошт удовінай сям'і, сям'і з пяцярых дзяцей. Адабраную ў іх свінню і сёння лічу не толькі вялікім свінствам з боку партызанаў, але і сапраўдным злачынствам.

* * *

Каб не пакінуць сям'ю без любімага традыцыйнага ў беларусаў прадукту — сала, людзі часам ішлі на рознага роду хітрыкі, на па-сапраўднаму смелыя ўчынкі. Адзін з іх я прывяду ў сваіх успамінах. Калі ў сям'ю Сцяпана Туміловіча (па-вулічнаму Грыбок) позна ўвечары завіталі партызаны і запатрабавалі разам з імі ісці ў хлеў па свінню, натуральна, гаспадар заўпарціўся, стаў упрошваць іх не рабіць такога. Інакш павяла сябе гаспадыня хаты Алеся. Яна хуценька выбегла на двор, узабралася на страху хлява і стала ў тым месцы, дзе за дзвярыма знаходзілася свіння. Як толькі партызаны разам з моцна ўсхваляваным Сцяпанам пачалі набліжацца да тых дзвярэй, Алеся, задраўшы ўверх спадніцу, на ўвесь голас закрычала:

— Не падыходзьце, бо аба…!

Партызаны аж аслупянелі ад нечаканасці і не ведалі, што рабіць. Затое праз тры дні яны ўжо дасканала ведалі, што трэба рабіць: заехалі ўначы ў двор не з вуліцы, а з сядзібы. Гаспадароў «пашкадавалі» будзіць. З дапамогай адпаведных прыладаў узламалі дзверы і без асаблівага шуму ўзвалілі свінню на сані. Пасля ўсяго гэтага Алесі і Сцяпану нічога не заставалася рабіць, як толькі дакараць адно аднаго, што не закалолі свінню ў дзень першай спробы партызанаў рэквізаваць яе.

# 5. У ПАРТЫЗАНСКАЙ ЗОНЕ

## Нёман паспрыяў Магільнаму стаць партызанскім

Неяк зусім непрыкметна, без усялякага крутога перавароту, выкарыстання зброі сканаў у Магільным нямецкі акупацыйны рэжым. Апошняй нахабнай акцыяй яго стала ажыццёўленае дзесьці ў першыя месяцы 1943 года заманьванне беларускіх хлопцаў і дзяўчат у адну з правабярэжных нёманскіх вёсак нібыта дзеля вызначэння іх узросту і выдачы асабістых дакументаў. Меру пакарання за няяўку ўстанавілі вельмі суровую, таму многія паслухаліся. Каб яны дакладна ведалі, дзеля чаго іх збіраюць, напэўна, засталіся б дома. А збіралі дзеля адпраўкі на працу ў Нямеччыну. З Магільнага трапіла туды не па сваёй волі каля дзесяці чалавек з моладзі. Сярод іх быў і вельмі паважаны ў мястэчку за сваю лагоднасць, дабрыню Барыс Аўсянік. Ён не загінуў ад цяжкай, нявольніцкай працы, дачакаўся капітуляцыі Германіі і з вялікай радасцю падаўся на малую радзіму. А вось дайсці да яе, сустрэцца з роднымі і блізкімі не давялося: па дарозе дамоў падарваўся на міне, знайшоўшы вечны спачын на чужой зямлі. Выклікае сумненне ў праўдзівасці звестак пра Барыса Аўсяніка у кнізе «Памяць. Уздзенскі раён» (Мн. 2003), дзе ён паказаны як актыўны ўдзельнік партызанскага руху, затым змагаўся на фронце і загінуў у сакавіку 1944 года, г. зн. яшчэ да вызвалення Магільнага ад нямецкіх захопнікаў.

Пасля непрыкметнай вымушанай здачы нямецкім акупацыйным рэжымам сваіх пазіцый у Магільным пачалі гаспадарыць партызаны. Людзі віталі такія перамены і нават ганарыліся, што жывуць у партызанскай зоне. Калі ў ёй зрэдку і з'яўляліся нямецкія карнікі, дык толькі падчас правядзення аперацый супраць партызанаў, абрабавання цывільнага насельніцтва. У планы акупантаў уваходзіла і фізічная расправа з некаторымі партызанскімі сем'ямі. А вось уся сям'я Мацея Пецюкевіча была вывезена ў Вузду і расстраляна толькі за тое, што яго сын у званні генерала служыў у Чырвонай Арміі. У выніку той акцыі я страціў свайго сябрука Толю, з якім у школе тры гады сядзеў за адной партай.

А Магільнае апынулася ў партызанскай зоне не ў малой ступені дзякуючы бацьку Нёману. У лёсе насельніцтва Вуздзеншчыны ён, без перабольшвання, адыграў вельмі важную ролю. Гэта добра вынікае з таго, што з процілеглага Вуздзе з яе нямецкім гарнізонам левага боку Нёмана жыхары ўсіх вёсак актыўна ўдзельнічалі ў партызанскім руху і не далі аніводнага чалавека ў паліцэйскія фарміраванні. Затое такога ніяк не скажаш пра вёскі правабярэжжа Нёмана, да прыкладу Стальбоўшчыну і Літву, якія знаходзяцца на адлегласці ўсяго толькі трох кіламетраў ад Магільнага. Правабярэжжа Нёмана таксама папаўняла партызанскія шэрагі, але не ў такіх масавых маштабах і з вялікай рызыкай для сем'яў, з якіх дзеці пайшлі на барацьбу з акупантамі. У такім становішчы апынуўся родны дзядзька маёй мамы Ігнат Стахно з Замосьця. У канцы 1942 года яго два сыны Вася і Коля ўліліся ў партызанскія шэрагі, паставіўшы жыццё сваёй сям'і пад вялікую пагрозу, хаця бацькі ўсяляк імкнуліся ўхіліцца ад яе. Не ўдалося: карнікі расстралялі бацькоў і дваіх іх дзяцей. Вось і думай, ці правільна паступілі Вася і Коля. Іх уход у партызаны абышоўся для Беларусі гібеллю чатырох чалавек. Адказныя за разгортванне партызанскага руху асобы напачатку не бралі пад увагу такога фактару, таму і па іх віне беларуская нацыя несла вялікія людскія страты.

У канцы лета ці пачатку восені 1942 года пакінуў сваю вёску Літву разам з бацькамі і ўліўся ў партызанскія шэрагі родны брат маёй мамы Валодзя. Ад Вузды Літву аддзяляюць прыкладна 13 кіламетраў, таму яна знаходзілася ў межах нямецка-паліцэйскага кантролю. Не выпадкова з гэтай невялікай вёскі ў Вуздзенскай паліцыі служылі тры чалавекі. Сям'я аднаго з іх (Шчасновічаў) суседнічала з бацькамі Валодзі Сымонам і Марыляй, г.зн. з маімі дзедам і бабай. Камусьці можа падацца парадаксальным, але такое суседнічанне не раз выратоўвала іх ад вернай смерці. Калі па сваіх прычынах у Літву заязджалі немцы, паліцэйскія, мае дзед з бабкай хаваліся не дзе-небудзь у лесе, а ў паліцэйскай сям'і Шчасновічаў, будучы ўпэўненымі, што ў іх хату не зойдуць акупанты. А вось хату маіх дзеда і бабы яны, вядома з якой мэтай, не раз наведвалі, на вялікае шчасце не знаходзячы ў ёй гаспадароў. Такой жа гасціннасцю плацілі яны і сям'і Шчасновічаў, хаваючы іх ад партызанскіх наездаў. Вядомыя факты, калі хто-небудзь з паліцэйскіх гэтых трох сем'яў Літвы наведваў Валодзевых бацькоў, прасіў, каб папярэдзілі сына пра маючую адбыцца аблаву на партызан. Першая ж, але не апошняя сустрэча (пра другую скажу пазней), прычым неафіцыйная, партызана Валодзі з сынам-паліцаем Шчасновічавых адбылася ў самым канцы 1943 года. У час яе ніхто з «ворагаў» не наводзіў адзін на аднаго рулю ружжа. Глядзелі яны адзін аднаму ў вочы, як суседзі. Заўважу яшчэ і такое, што мае дзед і баба вызнавалі праваслаўную веру, сям'я Шчасновічаў — каталіцкую. Як бачым, і гэты фактар, з якім звязана нямала канфліктных сітуацый у межах нашай краіны ў цэлым, ніколькі не паўплываў у горшы бок на ўзаемадачыненні партызанскай і паліцэйскай сем'яў, што мо не так характэрна было ў гады акупацыі для іншых мясцовасцяў.

Не мелася праблемы, дзе хавацца падчас налёту карнікаў, і ў сястры Валодзі Наташы з іх трыма яшчэ зусім малымі дзецьмі: Васем, Косцікам і Валяй. Тры літоўскія сям'і, прычым адна паліцэйская, гатовыя былі ў любы час адчыніць дзверы сваіх хатаў маёй цётцы Наташы, калі толькі таго патрабавала сітуацыя. І цётка Наташа, і іх дзеці дачакаліся вызвалення ад акупантаў, а вось з мужам і бацькам Іванам Мялешкам ім не пашчасціла сустрэцца, бо загінуў на фронце.

Як бы мой дзед з бабаю ні хаваліся і як бы іх ні хавалі ад немцаў і паліцаяў аднавяскоўцы, усё-такі аднойчы давялося сутыкнуцца лоб у лоб з карнікамі. Уся віна за гэта ляжыць на назве вёскі Літва. З кніг па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны нам вядома, што ў беларускіх паліцэйскіх падраздзяленнях, розных карных атрадах служыла нямала і літоўцаў. І трэба ж было здарыцца такому: пасля выканання чарговай аперацыі адзін з такіх атрадаў, дзе знаходзілася некалькі літоўцаў, праходзіў недалёка ад вёскі Літва. Па іх просьбе камандзір са сваім атрадам заглянуў у яе. Карнікі літоўскага паходжання тут жа пачалі засыпаць мясцовых жыхароў пытаннямі, ці не з'яўляюцца яны выхадцамі з Літвы, прасілі наладзіць сустрэчу з самым старым альбо самым дасведчаным чалавекам. Людзі, доўга не думаючы, прапанавалі майго дзеда. Да самых старэйшых жыхароў вёскі яны не належалі, але роўных ім па ведах не было чалавека. Каб не даць запалохаць дзеда, першым у іх хату ўвайшлі ўсё той жа самы бацька паліцэйскага Шчасновіч з суседам, а за імі карнікі. У цёплай размове з дзедам яны стараліся ўжываць некаторыя літоўскія словы, на якія, аднак, не было аніякай рэакцыі. Дзед толькі разводзіў рукамі і рабіў адмоўныя знакі галавой, што зусім не радавала літоўцаў. У жыхарах вёскі Літва яны так і не ўбачылі сваіх суплямённікаў, але абыходзіліся з імі вельмі паважліва, не ўчынілі аніякай гвалтоўнай акцыі. Пасля той незвычайнай мірнай сустрэчы з літоўцамі дзед з бабаю па-ранейшаму жылі ў страху, што могуць у любы момант быць пакараныя акупантамі з-за сына партызана. На шчасце, такога не здарылася: дзед пакінулі зямны свет у 1947, а баба — у 1965 годзе.

Затое не так шанцавала маім дзеду з бабай у дачыненнях з партызанамі. Акрамя партызана Валодзі змаганне з ворагам, але ўжо ў франтавых умовах, вёў яшчэ і іх сын Ванька. Да вайны працаваў трактарыстам у Койданаўскай МТС. Добра зарабляў, не выпіваў (вялікім цвярэзнікам быў яго тата), таму меў у што адзецца і абуцца. У гады акупацыі адны яго боты насіў брат Валодзя, як пайшоў у партызаны, а другія хавалі ў надзейным месцы ў хаце. Відаць, па падказцы кагосьці з наводчыкаў у пачатку вясны 1943 года нечакана ў хату Сымона позна ўначы ўваліліся на добрым падпітку тры партызаны і сталі настойліва, з пагрозай патрабаваць аддаць ім пару ботаў.

— Як жа я вам аддам, — кажа Сымон, — калі іх носіць такі ж партызан, як і вы, мой сын Валодзя.

Дзед хацеў і яшчэ штосьці сказаць пра Ваньку і Валодзю, але адзін з партызанаў закрычаў:

— Мы прыйшлі па боты, а не слухаць байкі пра вашых сыноў. Не жадаеце па-добраму аддаваць, дык уволю атрымаеце шомпалаў.

Як толькі жонка Сымона Марыля зразумела, што гэта зусім не жартачкі, што яго і сапраўды збіраюцца біць, яна хуценька памкнулася з хаты, прыгаворваючы:



— Не біце Сымона, я зараз прынясу боты.

Партызаны паверылі і адклалі сваю экзекуцыю. Марыля ж з усёй моцы кінулася на вуліцу, крычучы, колькі мелі сілы:

— Людзі добрыя! Партызаны Сымона б'юць.

Іх крыку нельга было не пачуць ні партызанам, ні суседзям, хаця і ўначы адбывалася такое, калі людзі спалі. Некаторыя з іх павыходзілі на двор ці на вуліцу. А Марыля ўсё крычыць і крычыць дый так, што аж партызанам стала не па сабе. Выцяўшы колькі разоў Сымона шомпалам па мяккім месцы, яны хуценька пакінулі хату, стараючыся асабліва не трапляць на вочы людзей.

Рэшту ночы Сымон з Марыляй не спалі. У Сымона добрага сну не было і ў наступныя ночы, бо не адну з іх, па вядомай прычыне, даводзілася спаць толькі на жываце. Вось дзе проста несусветная несправядлівасць: два сыны ваююць на баку савецкай улады, а тры яе прадстаўнікі ў статусе партызанаў займаюцца рабаўніцтвам у сям'і іх бацькоў. Дзядзька Валодзя і шмат гадоў пазней згадвалі пра гэта з вялікім абурэннем.

## Не заўсёды хапаліся за зброю

Улетку 1942 года ўжо многія маладыя магіляне апынуліся ў партызанскіх атрадах. Колькасна павялічыўся, галоўным чынам за кошт мясцовых жыхароў, і Вуздзенскі паліцэйскі гарнізон, у выніку чаго ствараліся магчымасці для пашырэння маштабнай кровапралітнай барацьбы землякоў. І такое сям-там назіралася. Але назіралася і штосьці зусім процілеглае, чаму мне давялося быць сведкам. Прыгажун паўнаводны Нёман улетку вабіў да сябе людзей не толькі ў мірны, але і ў ваенны час. Пры зручным моманце аніяк не маглі сабе адмовіць пабыць на Нёмане маладых узростаў магільнянскія партызаны і, зразумела, у такой жа ступені паліцэйскія з правабярэжных вёсак ракі. І трэба ж было здарыцца такому, што ў адзін дзень таго лета невялікія групы мясцовых партызанаў і паліцэйскіх у адначассе выйшлі на яе процілеглыя берагі. Партызаны і паліцэйскія ўбачылі нямала знаёмых твараў. І гэта зразумела, бо многія з іх перад вайной вучыліся ў Магільнянскай школе, хадзілі ў адзін і той жа клас, сядзелі за адной і той жа партай. Два таталітарныя рэжымы — гітлераўскі і сталінскі — параскідалі іх па розных баках барыкад, але яны ўсё ж не сталі зацятымі ворагамі адзін аднаму, не забыліся, што ў іх адна агульная маці Беларусь. Праўда, з-за асцярогі справа не дайшла да сумеснага купання ў цёплых празрыстых водах Нёмана. А вось гарачыя двухбаковыя спрэчкі вяліся паміж партызанамі і паліцэйскімі. Першыя абвінавачвалі другіх у здрадзе радзіме, службе на карысць акупантаў. У якасці апраўдання на адрас магільнянскіх партызанаў несліся словы:

— Жылі б вы са сваімі сем'ямі на правым беразе Нёмана, пад бокам у Вуздзенскай вайсковай і цывільнай адміністрацыі — і вы служылі б ёй.

Хто ж гэта з нас захоча пайсці ў партызаны, ведаючы, што такога немцы не даруюць, расстраляюць усю тваю сям'ю?

Для магільнянскіх партызанаў гэта не з'яўлялася сур'ёзным аргументам, і яны працягвалі крытыкаваць сваіх землякоў за здраду, раілі пры зручным выпадку са зброяй у руках ісці ў лясы, каб змагацца з ворагам. Так і не пакупаўшыся, партызаны і паліцэйскія пакінулі левы і правы берагі Нёмана і разышліся па розных напрамках.

Не быў сведкам, але чуў ад іншых, што нешта падобнае на апісаную вышэй сустрэчу магільнянскія партызаны маладых узростаў наўмысна паспрабавалі арганізаваць з паліцэйскімі на Нёмане паблізу адной з яго правабярэжных вёсак на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Усё тут адбылося па зусім іншым сцэнары. Добра, што партызаны не дзейнічалі ў адкрытую, а захавалі ўсе меры перасцярогі. Першымі адкрылі пальбу паліцэйскія. На вялікае шчасце, партызаны не панеслі ахвяр, хаця і апынуліся ў вельмі складаным становішчы. Выручыў ужо набыты вопыт вядзення бою з улікам мясцовых геаграфічных умоў. Неістотныя раненні атрымаў толькі наш магільнянскі партызан Анцік Хільчук.

## Магільнянскія партызаны нясуць страты

Прыемна, а іншым часам і зайздросна было пазіраць, як па вуліцах Магільнага ходзяць з вінтоўкай ці аўтаматам за плячыма тыя, якім я год таму назад падаваў на воз снапы, з якімі разам у полі збіралі каласы. Цяпер старэйшыя за мяне на пяць-шэсць гадоў хлопцы — гэта ўжо партызаны! Некаторыя з іх ужо паспелі паўдзельнічаць у баявых аперацыях і пры першай нагодзе стараліся расказаць пра гэта і дарослым, і дзецям. Нашыя сэрцы напаўняліся радасцю за сваіх землякоў. А вось у першыя дні снежня 1942 года замест радасці ўсё мястэчка ахапіў вялікі смутак: у Лаўскім баі (3 снежня; Капыльшчына) загінулі тры магільнянскія партызаны: Міша Дзесюкевіч, Эдуард Петрашэўскі і Іван Туміловіч. Усяго ж у той дзень ад рук карнікаў загінула 18 партызанаў. Да пачатку бою сярод народных мсціўцаў быў і ураджэнец Магільнага камсорг Ванька Жыгаловіч, але ён, як расказваў сам, павінен быў пакінуць вясковыя могілкі, дзе акапаліся партызаны, каб дагнаць сваю партызанскую брыгаду і дакласці яе камандаванню аб завяршэні арганізацыі засады, яе гатоўнасці весці бой з ворагам. Ужо і ў тыя дні, а тым больш пазней мала хто з дарослых верыў у праўдзівасць інфармацыі камсамольскага важака. Гэта толькі мы, падлеткі, любілі слухаць і давяралі яму. Што словы Ванькі разыходзяцца з рэчаіснасцю, ускосна даказвае той факт, што пасля вайны ён не вельмі любіў паказвацца на вочы магілянам. Жыў і працаваў на кіруючых пасадах у Чэрвені і да сваіх родных прыязджаў толькі пры якой-небудзь важнай нагодзе. Бацька ж загінуўшага ў Лаўскім баі Мішы Дзесюкевіча Іваначка, будучы ў нецвярозым стане, часта паўтараў:

— Падставілі майго сыночка, падставілі.

Пэўная рацыя была ў гэтых роспачных словах Іваначкі. Камандаванне партызанскай брыгады № 300 імя К.Я.Варашылава свядома паслала на мясцовыя могілкі вёскі Клецішчы на верную смерць 19 партызан, каб цаною іх жыцця забяспечыць сабе адыход у надзейнае месца. Хто ж былі тыя магільнянскія партызаны-смяротнікі? Пра самага адукаванага з іх, з больш-менш багатым жыццёвым вопытам Ваньку Жыгалковіча ужо сказана. Астатнія тры паканчалі не больш як па чатыры класы, былі прыкладна ўсяго толькі васемнаццацігадовага ўзросту, маласпрактыкаваныя ў баях з ворагам. На гэты ж раз ён меў танкі, бронемашыны, артылерыю. У навуковай, публіцыстычнай, мастацкай літаратуры шмат напісана пра Лаўскі бой. Сцвярджаецца, што за чатыры гадзіны партызаны сваім кулямётна-вінтовачным агнём адбілі восем варожых атак, знішчылі ажно 85 карнікаў (!). Не проста паверыць у такое, бо ў немцаў не было патрэбы ісці ў лабавую атаку дзеля авалодвання могілкамі. Да таго ж яшчэ вораг меў на ўзбраенні такую магутную ваенную тэхніку. Лаўскі лес не знаходзіцца ад Магільнага на вялікай адлегласці, аднак я ні разочку не чуў ад яго жыхароў пра забітых на подступах да могілак вёскі Клецішчы 85 немцаў. Гэта ж зусім неверагодна мець столькі забітых для такога невялічкага пятачка тэрыторыі ды плюс яшчэ 18 загінуўшых партызанаў! За такую вялікую колькасць сваіх ахвяраў карнікі пусцілі б пад агонь палову Капыльшчыны. Вялікай неаб'ектыўнасцю грашыла і нямецкая, і савецкая ваенная статыстыка. Не магла яна быць іншай і ў партызанаў. Правільна зрабіла рэдакцыя 4-га тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», што ў артыкуле «Лаўскі бой 1942» не ўнесла лічбу 85 загінулых карнікаў.

Больш у магільнянскіх партызанаў нічога не было накшталт Лаўскага бою. Дзякаваць богу, яны не панеслі істотных страт. Агідная смерць напаткала Мішу Жыгалковіча, таго самага Мішу, які на пачатку нямецкай акупацыі хаваў каля двух месяцаў на вышках свайго дома з вялікай рызыкай для ўласнага жыцця савецкага афіцэра. Нялёгкія, складаныя ўмовы партызанскага жыцця зрабілі да вайны спакойнага, таварыскага Мішу незвычайна жорсткім, непамяркоўным. Не цураўся лішняй чаркі. Ён мог, наведваючы родную маці, сярод белага дня адабраць каня ў тых, хто транзітам праязджаў праз Магільнае. Найчасцей за ўсё гэта былі «заходнікі». Пры супраціўленні пускаў у ход шомпал. Як высветлілася, ён так многа дзе паводзіў сябе, і таму партызанскі суд вынес яму смяротнае пакаранне. Заўважу, што прыкладна за пяць гадоў да гэтага яго бацьку старшыню Магільнянскага сельсавета расстралялі за перагібы ў барацьбе з «ворагамі» савецкага народа. Як у многім падобныя лёсы бацькі і сына!

За гады акупацыі партызаны стварылі ў Магільным толькі адну сям'ю. Партызанскай жонкай стала мо адна з самых прыгожых дзяўчат — Ларыса Леановіч. Лёс гэтай партызанскай сям'і быў нешчаслівым: у 20-гадовым узросце Ларыса загінула.

## У разведку пасылаюць бязбацькавіча

Не толькі 1942, але і 1943 год, асабліва яго пачатак, прынёс нашай сям'і шмат гора, трывог. У першы месяц года з Язвін перабраліся да нас ад роднай дачкі Надзі ў прадчуванні смерці татава маці Магда. Яны не памыліліся: смерць прыйшла да іх прыкладна праз месяц пасля пераезду ў Магільнае. Мне належала неадкладна паведаміць пра гэта іх дачку Надзю. На шчасце, у хляве стаяў пакінуты знаёмымі партызанамі вельмі добра дагледжаны конь, паколькі яны вырашылі пешшу накіравацца з Магільнага на выкананне баявога задання. Не мінула і паўгадзіны, як ужо на вялікай хуткасці ўварваўся ў Язвіны, чым прыцягнуў да сябе ўвагу партызанаў з першага дома вёскі. Пачуў стрэл з ружжа, што абавязвала мяне спыніцца. Тут жа падбеглі партызаны і загадалі злезці з каня. Мае тлумачэнні, што еду перадаць цётцы пра смерць іх мамы, ніхто не пажадаў слухаць. Пакуль даваў тлумачэнні, партызаны падвялі свайго каня, каб абмяняць на майго. Я стаў даказваць, што ў мяне партызанскі конь, называць прозвішчы тых, хто пакінуў яго ў нас. Нішто не дапамагло. Пасадзілі мяне на абмененага каня і я, не падазраючы, што гэта за кляча, паехаў да цёткі. Яны акурат былі на дварэ, і я, не заходзячы ў хату, паведаміў пра мэту свайго прыезду і рушыў у адваротны шлях. Усе мае спробы прымусіць каня бегчы рыссю, не давалі жаданага выніку, таму ў Магільнае вярнуўся прыцемкам. Здзівіла, што нікога не сустрэў на вуліцы. Убачыў на дварэ аднаго з дамоў 80-гадовага дзеда, ад якога даведаўся, што ўсе людзі паўцякалі ў лес у свае зямлянкі, бо прыйшла чутка аб набліжэнні да Магільнага нямецкага карнага атрада. Можа, я выбраў і памылковае рашэнне, не ўзяўшы пад увагу, што ў любы момант могуць наляцець немцы, але іншага выйсця не знаходзіў, як заехаць дамоў, напаіць і накарміць каня ды і самому штосьці перакусіць. Трэба было таксама цяплей адзецца і абуцца ў дарогу. Тое, што бабка ляжалі ў труне і я адзін быў у хаце, мяне ніколькі не палохала. І вось я адзін, калі ўжо па-сапраўднаму ўсталявалася ноч, падаўся ў лес шукаць нашую сям'ю. Мае спадзяванні, што конь пасля таго, як я накарміў і напаіў яго, памчыцца рыссю, не спраўдзіліся, таму далёка не падаўся, спыніўся каля першых жа зямлянак. Людзей здзівіла мая інфармацыя пра адсутнасць немцаў у Магільным.

— А можа, гэта проста паніка, — пачуўся чыйсьці голас у цемнаце. — Нам бы арганізаваць разведку, і калі немцаў няма, навошта гібець у зямлянках, слухаць, як енчаць дзеці. Дый скаціна галадае там дома.

Такому меркаванню ніхто не запярэчыў, і мужчыны пачалі абмяркоўваць кандыдатуру на разведчыка. Палічылі, што ім павінен быць не дарослы мужчына, а хлопец. Спыніліся на мне. Так ужо хвалілі мяне, што я не асмеліўся аспрэчваць. Залез на каня і зноў у дарогу. Прымусіць яго бегчы ніяк не ўдавалася, таму ў голаў прыйшла думка: які ж я разведчык на кані, калі ён не здольны бегчы? Вяртаюся назад, чым здзівіў многіх. Мае довады, што конь можа ісці толькі шагам, не прынялі пад увагу. Запэўнілі, што пасля непрацяглага адпачынку, добрага харчавання да яго вернуцца сілы і настаялі, каб я ўсклаў на сябе пачэсны гераічны абавязак разведчыка. Узяў і паверыў сказанаму, таму не стаў адбівацца. Да таго ж мне трохі падабаўся той давер. Дзесьці апоўначы я зайшоў у хату і, скінуўшы верхнюю вопратку, палез на печ спаць. Да канца яна яшчэ не астыла. На вуліцу выйшаў ужо тады, калі добра развіднела. Сям-там паказваліся людзі, у асноўным сталага веку.

Зіма 1942/43 года аказалася мяккай, Нёман не пакрыўся лёдам. Я сябе спакойна адчуваў, бо спадзяваўся, калі з боку Вузды будуць рухацца немцы, то, пакуль яны пераправяцца цераз раку (масты ж партызаны падпалілі), я далёка дамчуся ў лес. Мае меркаванні аказаліся памылковымі. Немцы рухаліся ў Магільнае з зусім з процілеглага боку — з нясвіжскага напрамку. Пра гэта стала вядома вельмі позна, але трэба было ратавацца. Па вуліцы нясуся рыссю, але, як толькі выехаў на ўскраек мястэчка, параўняўся з будынкам школы, конь нечакана стаў, і як я ні лупіў яго пугай, ён не зрушыўся з месца. Заўважаю, што ў лесе, недалёка ад якога я павінен быў праляцець на кані па дарозе ў невялічкі пасёлачак Матэцкія, мітусяцца людзі. Значыцца, далей ужо рухацца пешшу па гэтай дарозе ніяк не выпадала, бо сам трапіш у рукі карнікаў. Паратунак шукаў у будынку школы, ад якой засталіся толькі адны сцены. Забіўся ў кут, дзе згрувазділіся розныя непрыгодныя рэчы ад школьнай мэблі, абсталявання. Гэта мяне не выратавала. Як толькі немец з пісталетам ускочыў на падаконнік, адразу заўважыў мяне і з крыкам «Партызан!» зрабіў прыцэльны стрэл па мне. Куля праляцела за некалькі сантыметраў ад галавы. Я адразу падняўся, каб даць карніку зразумець, што паводле ўзросту я не магу быць партызанам. Немец хуценька ляцеў да мяне, паўтараючы слова «Партызан», на што я ў вялікім сполаху адказаў: «Nein. Guten Tag». Гэтыя словы не дапамаглі: ударам пісталета па галаве (добра, што на ёй была завязаная пад падбародкам зімовая шапка) зваліў мяне на дол, але не стаў дабіваць, відаць, пераканаўся, што я не партызан. Пасля ўдару ўсё шумела ў галаве. Спрабаваў устаць — не змог і працягваў сядзець, прытуліўшыся да сцяны. Пацягнула на сон, але спаць не давялося, бо перашкодзіў салдат у нямецкай форме. Свядома не называю яго немцам, таму што ён загаварыў са мною на трохі зразумелай мне мове, толькі не на ўкраінскай ці польскай. Патлумачыў, што іх атрад не будзе знішчаць цывільнае насельніцтва, таму мне лепш ісці дахаты, чым хавацца ў гэтым будынку. Дапамог устаць на ногі і разам выйшлі на маю Кавалёўскую вуліцу. Тут я сустрэў пяць-шэсць добра запалоханых хлопцаў, якія не ведалі, што рабіць: як-небудзь шмыгануць у лес ці разысціся па сваіх хатах. Я прапанаваў пайсці да мяне, і яны пагадзіліся.

Доўга сядзець у хаце не давялося. Рыпнула брамка, і на двары з'явіўся немец. Хлопцы, як сядзелі каля труны бабы, так і не зварухнуліся з месца. Я ж забег у спальню і схаваўся пад ложак. Немец вывеў хлопцаў на двор, а затым спытаў, ці не застаўся хто-небудзь у хаце. Можа, з хвіліну

ўсе маўчалі, а затым Грышка Туміловіч сказаў, што адзін з хлопцаў схаваўся, і павёў немца ў хату, у спальню і паказаў пальцам на ложак. Немец ухапіўся за маю руку, працягнуў два-тры метры па падлозе і стукнуў ботам пад нецэнзурнае месца, якое месяцы тры таму назад моцна выцялі партызаны, забіраючы ў нас свінню. Боль быў страшэнны, я ледзь рухаўся з хлопцамі і немцам да прызначанага месца. А ім стала невялічкая хата на Нясвіжскай вуліцы. Усіх, каго толькі ўдалося вылавіць у мястэчку, сагналі ў яе. Людзі ў ёй стаялі ўшчыльную адзін да аднаго. Я не мог стаяць з-за двух цяжкіх пабояў і папрасіўся залезці на печ. Людзі дапамаглі мне ў гэтым. Усе лічылі, што нас сагналі ў хату дзеля фізічнай расправы. Разам з намі спаўна дзяліў сумеснае гора мясцовы поп. Увесь час чытаў малітву, даваў людзям цалаваць крыж. Да папа немцы ставіліся з павагай, і адзін з іх увесь час знаходзіўся каля яго. Разы два ці тры немец разам з папом па невядомых для нас прычынах выклікаліся на двор, што заўсёды суправаджалася істэрычным крыкам загнаных у хату людзей, бо ўсе думалі, што ім прыходзіць канец. Гэтыя крыкі ўнімаліся толькі тады, калі ў хату зноў заходзілі поп з немцам. З рук у рукі загнаных у хату людзей перадаваўся для цалавання крыжык. Прыйшла чарга і да тых, хто сядзеў на печы ці на яе прымурку. Я, як артадаксальны савецкі піянер, заплюшчыў вочы, каб не выконваць гэтага рэлігійнага рытуалу. Вельмі набожная суседка па печы бабка Зося (жыла праз дом ад нас), бачачы, што я ні разочку не перахрысціўся, узялі і самі выканалі для мяне такі абрад. Я не супраціўляўся, бо вельмі паважаў іх. Яны былі самымі пісьменнымі ў мястэчку: яшчэ недзе ў 80-я гады XIX ст. закончылі мясцовую царкоўнапрыходскую школу, цікава апавядалі, як разам з настаўнікам самастойна раскопвалі Магільнянскае замчышча, побач з ім на дне ракі Нёман знайшлі цэлы куфар з рознымі рэчамі.

Што рабілася ў Магільным падчас карнай аперацыі, ведалі і нашыя людзі ў зямлянках, бо камусьці ўсё ж удалося вырвацца з таго пекла і расказаць усё бачанае. Такім шчаслівчыкам быў і мой сусед Толя Дзесюкевіч. Перад самым уварваннем немцаў пакінуў усіх нас хлопцаў, за якіх быў старэйшы на два-тры гады, і ў адзіночку рвануў наўцёкі ўздоўж левага берага Нёмана. Маласнежная зіма дазволіла на вялікай хуткасці ўцякаць ад бяды. На шчасце Толі, немцы ўшчыльную да Нёмана не набліжаліся.

Журботныя весткі пра Магільнае атрымоўвалі людзі ў зямлянках і ад партызанаў, якія пільна сачылі за падзеямі, стараліся не дапусціць ніякага нападу на немцаў, бо ведалі, што за аднаго забітага з іх спаляць усё мястэчка разам з яго жыхарамі. Узброенага канфлікту не адбылося, што і выратавала ўсім ім жыццё.

Не спадзеючыся, што ў той хатцы нешта добрае, акрамя смерці, чакае мяне, я вырашыў лепш за ўсё заснуць на печы, тым больш, што спаць моцна хацелася з-за перанесеных пабояў. І я заснуў у той час, як людзі лямантавалі, прасілі ў Бога паратунку. Паслухаў. І вось адчуваю, што мяне нехта вельмі моцна раз за разам таўчэ ў спіну, прыгаворваючы:



— Лёня! Лёня! Немцы пакідаюць Магільнае! Нас на волю выпускаюць жывымі.

З такімі радаснымі словамі звярнуліся да мяне ўсё ж тая самая бабка Зося. Расплюшчваю вочы і не веру: у хатцы, дзе перад маім сном так кішэла людзьмі, засталіся толькі лічаныя з іх. З бабкай Зосяй мы выйшлі апошнімі з хаты. Калі я ўзышоў на свой двор, убачыў, як трое немцаў, лупцуючы карову палкамі, выводзяць яе з хлява, каб прывязаць да воза, што стаяў на вуліцы ля хаты. Я адразу ў слёзы і на ломанай нямецкай мове гавару ім, што ў нас пяць малых дзяцей і нядаўна памёр тата. Мяне не паслухалі, і воз з прывязанай да яго каровай ад'ехаў ад нашай хаты. Такое ж адбывалася на многіх дварах.

Калі падводу з нашай кароўкай ужо перастаў бачыць, зайшоў на двор і моцна заплакаў. Але ў такім роспачным стане знаходзіўся нядоўга і сам сябе пачаў суцяшаць: « Чаго плакаць? Ты ж застаўся жывы, таму трэба радавацца, а не плакаць». Пазачыняўшы ўсе дзверы ў хлявах, брамку, пайшоў у хату, каб чаго-небудзь перакусіць. Згатаванай стравы не было аніякай, таму накінуўся на сала. Дзякаваць богу, рукі грабежнікаў не дайшлі да яго. Пасля ўсяго гэтага пайшоў да труны бабкі. Здзівіла, што ўсе свечкі, якія мы патушылі, убачыўшы немца на дварэ, згарэлі да канца. Каб не нарабіць пажару, немцы паставілі іх у шклянкі, слоікі, конаўкі. Вось, думаю, каб і тыя, што забралі карову, убачылі ў труне бабку, мо не ўчынілі б такога грабежніцтва. Падчас такіх разважанняў нібыта нейкая патаемная сіла падштурхнула мяне падысці да вакна і глянуць на вуліцу. Ужо добра сцямнела, але я змог разглядзець, што каля брамкі стаіць нейкая карова. Выйшаў на двор, адчыніў брамку і не мог паверыць убачанаму: каля яе стаяла наша карова з даўгаватым кавалкам прывязанай да рагоў вяроўкі. Не ў меру раднасному, шчасліваму маладому гаспадару нічога не заставалася рабіць, як загнаць карову ў хлеў і накарміць. Дома не стаў начаваць, бо было досыць холадна. Пайшоў да бабкі Зосі, дзе ўжо было трое-чацвёра хлопцаў. Пачаставалі гарачай бульбай з агуркамі і далі запіць жаданую страву малачком. Разбудзілі ўжо тады, як добра развіднела.

Знясіленыя за дзве ночы знаходжання ў зямлянках уцекачы адзін за адным вярталіся дамоў. Моцна стомленыя прыцягнуліся і нашыя. Васьмігадовы Генадзь з клункам за плячыма пяць кіламетраў прашагаў сам, а чатырохгадовага Толю папераменна неслі за плячыма мама і шаснаццацігадовая Ліда. Як толькі сустрэліся са мною ў двары, адразу ўсе ў слёзы. Не плакалі толькі я і Толя. Ён з незвычайнай любатой пазіраў на мяне і цягнуўся на рукі. Я не адмовіў яму ў такім жаданні, хаця моцна хацелася адвесці маму ў хлеў, каб пахваліцца, што там карова. Такі ж час надышоў. Мама пачалі здымаць з рагоў каровы вяроўку і са здзіўленнем сказалі:

— Сынок! Вяроўка не парвалася ў гэтым месцы, а перарэзана чымсьці вострым.

Такое пацвердзіў і сусед дзядзька Адам. І тады лічыў, і сёння так думаю, што на немцаў пры гвалтоўным уводзе нашай каровы ўсё ж маглі падзейнічаць мае словы пра пяць малых дзяцей і адсутнасць у іх бацькі.

З-за таго наезду карнікаў на Магільнае бабка Магда двое лішніх сутак прабылі на гэтым свеце. На наступны ж дзень пахавалі іх на мясцовых могілках (магілка і па сёння захавалася дзякуючы клопатам унучкі Ліды і яе сына Мікалая). Нягледзячы на неспакойны час і што на дварэ яшчэ стаяла зіма, нямала людзей сабралася на пахаванне бабкі, бо іх моцна паважалі і свае, і чужыя. Не забыліся і пра жалобнае застолле.

* * *

Многіх напэўна зацікавіць, што гэта быў за хлопец, які выдаў мяне немцам? Гэта быў з Нясвіжскай вуліцы Грышка Туміловіч. Ён жыў далёка ад мяне, і мы ніколі не сябравалі, не вучыліся ў адным класе. У той злашчасны дзень ён выпадкова апынуўся каля нашай хаты, шукаючы паратунку ад немцаў. Калі па дарозе разам з немцам ішлі ўсе мы да прызначанага месца і Рома Туміловіч ціхенька папытаў у Грышкі, чаму ён выдаў Лёню, дык атрымаў такі кароценькі адказ:

— А ты што хацеў, каб нас пазабівалі, а ён застаўся жывы?

Хто-хто, а Грышка ні ў якім разе не павінен быў выдаваць мяне, бо ўсяго толькі каля двух месяцаў таму назад у Лаўскім баі (3 снежня 1942 г.; Капыльскі р-н) ад рук нямецкіх карнікаў загінуў яго старэйшы брат Іван. Грышка ж выдаў! Нулявая логіка. Пасля таго цяжкага для ўсяго Магільнага дня я вельмі рэдка сустракаўся з Грышкам, бо жылі далёка адзін ад аднаго. Тое ж можна сказаць і пра першы пасляакупацыйны год, а ўвосень 1945 года я паехаў вучыцца ў Мінск і ў Магільнае з'яўляўся толькі на канікулы, а пасля заканчэння вучобы ледзь не дзесяць гадоў жыў па-за межамі Беларусі. Калі ў час адпачынку наведваў маму і мы з Грышкам траплялі насустрач адзін аднаму, віталіся, але рукі не падавалі. Часцей з Грышкам бачыўся тады, калі ён пабраўся шлюбам з настаўніцай Магільнянскай СШ і стаў жыць на Кавалёўскай вуліцы. Ён ніколі не хадзіў па вуліцы тым бокам, дзе стаяла наша хата. Ішоў процілеглым ад яе бокам, але калі бачыў мяне на прызбе, заўсёды вітаўся. Вось наступствы таго здрадніцтва, сапраўдную прычыну чаму немагчыма знайсці, мо хіба толькі з-за непаўналецця. Сур'ёзная крыўда на Грышку доўжылася ў мяне не больш за адзін-два гады. Затым яна канчаткова пакінула мяне. І калі Грышку наканавана жыць да ста гадоў, я дзвюма рукамі за гэта. Крыўду спішам на акупацыю і маладыя гады.



## Дзеці жывуць і працуюць у Нямеччыне, а іх бацькі гінуць на радзіме

З Магільнага немцам удалося падманам, гвалтам вывезці на працу ў Нямеччыну прыкладна каля дзесяці чалавек. Адбылося такое ў час, калі ўся «ўлада» ў мястэчку была ў партызанскіх руках. Ніякія лісты ў Магільнае з Вузды не дасылаліся, а бацькам вельмі хацелася ведаць, як жывецца іх дзецям на чужыне. Даводзілася самім пешшу хадзіць у Вузду. Гэтага не маглі не выкарыстаць у сваіх агентурных мэтах адпаведныя акупацыйныя службы Вузды, хаця нашы цывільныя людзі валодалі вельмі скупымі звесткамі пра партызан. Яны ж не мелі ў Магільным свайго штаба, а знаходзіліся тут часцей за ўсё праездам, робячы прывал на шляху да якога-небудзь месца прызначэння. Будучы праціўнікамі такіх кантактаў з Вуздой бацькоў вывезеных немцамі дзяцей, партызаны ідуць на прынцыпе жорсткіх захадаў. У адну з лютаўскіх ці сакавіцкіх начэй 1943 года яны, маючы наводчыка з ліку магільнянскіх партызанаў, забіраюць усю сям'ю Сцяпана Казака (кажуць, што яго жонка з двума малымі дзецьмі сама пажадала падзяліць лёс гаспадара) і гаспадара сям'і Наўроцкіх (па-вулічнаму) Міхася Цыбульскага. Усіх іх адвезлі не так далёка ў лес і расстралялі, як след не закапаўшы ў зямлю, хаця тою зімою яна не глыбока прамерзла. Праз тры-чатыры дні ваўкі адшукалі «калектыўную магілу» і па-свойму расправіліся з мерцвякамі. Па вопратцы магіляне пазналі сям'ю Казака, а таксама Міхася Цыбульскага. Што далей было зроблена з тымі «знаходкамі», мне невядома.

Хто быў наводчыкам з магільнянскіх партызанаў людзі загаварылі напаўголаса мо гадоў праз дзесяць пасля вайны. Імі лічылі тых, хто некуды з'ехаў з дому і амаль не з'яўляўся да родных ці баючыся помсты, ці перажываючы за свой учынак.

У тую ж варфаламееўскую для Магільнага ноч развіталіся з жыццём даволі адметныя асобы. Сцяпан Казак быў першым у калгасе трактарыстам, да таго ж высокай на той час кваліфікацыі. І па сёння памятаю, як кіраўніцтва сельскага савета і калгаса даверылі яму на трактары адвезці на поле каля дзесяці вазоў гною, прычапіўшы адзін да аднаго. Рабілася гэта дзеля таго, каб паказаць перавагу трактара над коньмі. Сабралі вялікую колькасць піянераў (сярод іх быў і я), і яны пад гукі горна і ўдары барабана рушылі ўслед за гэтым незвычайным абозам, а па прыбыцці на вызначанае месца праспявалі колькі піянерскіх песняў. Старэйшая дачка Сцяпана Казака Жэня была добра вядомай у школе актывісткай, ахвотна працавала з піянерамі. З яе сястрою Нінай я вучыўся ў адным класе. Ёй пашчасціла: у самыя трагічныя для яе сям'і дні яна гасцявала ў сваёй роднай цёткі ў Койданаве і засталася ў жывых. У Магільнае ніколі не паказвалася. Яе дваюрадная сястра Маня пасля вайны вучылася са мною ў Мінскім статыстычным тэхнікуме, і я праз яе рэгулярна перадаваў прывітанне Ніне.

Да вайны Міхась Цыбульскі не раз выбіраўся за брыгадзіра калгаса, бо ўмеў добра ладзіць з людзьмі, лічыўся за справядлівага чалавека.

Ні ў час жорсткай расправы з сям'ёй Казака і Цыбульскім, ні пазней ніхто ў Магільным не лічыў іх за здраднікаў. Павагай карысталіся пасля вяртання дамоў з Нямеччыны і іх дзеці Валодзя Казак і Паўлік Цыбульскі. Вось толькі любоў да чаркі (а прычынай гэтаму магла быць і расправа партызанаў над іх бацькамі) не дала радаснага, працяглага жыцця ні аднаму, ні другому. Не сумняваюся, у партызанаў меўся і іншы сродак спыніць кантакты з Вуздою сем'яў вывезеных у Нямеччыну дзяцей, але толькі ніхто не шукаў яго. За лепшае палічылі фізічную расправу са «здраднікамі» ў надзеі, што ўсё можна будзе спісаць на вайну і акупацыю.

## Ад голаду мерці не збіраліся

Зброю ўзяла ў рукі і пачала барацьбу з ворагам толькі нязначная частка з агульнай колькасці жыхароў Магільнага. Асноўная ж маса іх займалася ў гады акупацыі звычайнай для мірнага часу працай. Да вясноова-палявых работ 1943 года яны падрыхтаваліся непараўнальна лепш, чым год таму назад. Некаторыя з найбольш дбайных гаспадароў выйшлі ў поле з такімі коньмі, сельскагаспадарчым інвентаром, што ўсяму гэтаму маглі б па-добраму пазайздросціць і многія з тых, хто ўсё жыццё аднаасобна працаваў на сваім надзеле, не ведаў, што такое калгасная вытворчасць. У нашай сям'і якіх-небудзь істотных перамен у матэрыяльнай базе аднаасобнай сельскай гаспадаркі не адбылося. Адзінае, у чым мы лепш выглядалі, як у мінулым сезоне, — гэта прыбаўка аднаго года да майго ўзросту. Я і сам заўважаў, што стаў дужэйшым, смялей браўся за выкананне таго ці іншага віду сельскагаспадарчай працы.

Гаспадары з добрымі коньмі, дасканалымі прыладамі працы за вельмі кароткія тэрміны закончылі сяўбу і без усялякай каманды зверху раней больш як за дзесяць гадоў да заклiку першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова пачалі займацца асваеннем цалінных і абложных земляў, якіх за час існавання ў Магільным калгаса значна павялічылася. Бальшыня з іх зарасла маладым хвойнікам. Людзі з сякерамі і рыдлёўкамі пачалі карчаваць яго. Проста на вачах мяняўся звыклы ландшафт: там, дзе ўчора раслі маладыя хвойкі, сёння было ўжо ўсё заворана. У час кароткага перадыху я з зайздрасцю пазіраў за ўвішнымі, поўнымі сілы гаспадарамі. Не адводзілі ад іх вачэй і мама. З іх вуснаў я аднойчы пачуў, што атрыманай намі ў прыватную ўласнасць зямлі будзе мала, калі павырастаюць сыны і пачнуць ствараць сем'і. Давядзецца яе купляць і не за малыя грошы. Выходзіць, мама не верылі ў вяртанне савецкай улады з яе калгаснай, нелюбімай многімі сістэмай.

За вясновую сяўбу моцна стаміліся і я, і мама. З'явілася магчымасць трохі адпачыць. Яе я не выкарыстаў: на наступны дзень пайшоў у лес паглядзець на вядомае мне колішняе поле за тры кіламетры ад Магільнага, таксама зарослае маладым хвойнікам. Прыглядзеўся, ці дадзім мы з мамай рады выкарчаваць яго. Упэўніўся, што дадзім. З такім бадзёрым настроем пайшоў дахаты і пра сваю задуму падзяліўся з мамай. Яны адразу сталі на мой бок, толькі вось бяда — у іх заўтра не было часу. Паехалі на дзень пазней. Узялі з сабой сястру Ліду, каб яна рыдлёўкай засыпала ямкі, утвораныя пасля выкарчоўвання дрэўцаў. За колькі метраў да мяркуемага месца працы заўважылі, што тут вядуць раскарчоўку маладняку дзядзька Варвон са сваёй жонкай Надзяй. Я спыніў каня і стаў раіцца з мамай, што нам рабіць у такой сітуацыі. Не паспелі ацаніць абстаноўку, як пачулі трохі хрыпаваты голас Варвона:

— Жэнька, чаго вы спыніліся. Едзьце, зямлі хопіць і вам, і мне. Я не збіраюся ўсю плошчу раскарчоўваць. Вось не захацелася дома сядзець, дык і я вырашыў трохі павялічыць свой надзел. Сіла ж ёсць, і конь не вельмі перапрацаваўся за час сяўбы.

Яго словы нас абрадавалі, і мы дружна, з вялікай ахвотай узяліся за справу, дый так, што нават прыцягвалі да сябе ўвагу Варвона. Ён проста здзівіў нас сваёй дабрынёй.

— Жэнька, — з усмешкай на твары загаварыў дзядзька Варвон. — Нас так захапіла ваша праца, што мы вырашылі з жонкаю ўступіць вам ладны кавалак зямлі. У нас жа дзяцей няма. Хопіць нам і паловы з таго, на што мы раней замахнуліся.

Гэтыя шчыра сказаныя словы ўсіх нас вельмі абрадавалі, добра падбадзёрылі да працы. Доўжылася яна каля тыдня. Адваяванае ў лесу поле, у пару засеянае, давала надзею лепш забяспечыць свае патрэбы збожжам. Як-ніяк да атрыманага пры ліквідацыі калгаса зямельнага ўчастка дадалося, прычым бясплатна, каля паўтара гектара. Вегетацыйны перыяд 1943 года стаўся вельмі спрыяльным для ўраджаю ўсіх сельскагаспадарчых культур. Мы забілі ўсё гумно снапамі. Калі я прывёз апошні воз, мама выйшлі з хаты са словамі:

— Сынок, ні да калгаса, ні пасля яго арганізацыі нашая сям'я не была такой багатай, як сёлета. Мы заўсёды мелі патрэбу ў хлебе, часам недаядалі. Цяпер жа гэта зусім не будзе нас хваляваць. Як гэтаму ўсяму радаваўся б наш бацька!

Мама гаварылі чыстую праўду. Праблемы з хлебам у нас не існавала. Дый не толькі з хлебам. У хляве гадаваліся дзве свінні, трое авечак. Мелі добрую карову. Радаваў конь, якога я за некалькі літраў самагонкі прыдбаў ранняй вясной 1943 года ў партызанаў. На момант гэтай здзелкі ён быў безнадзейна загнаным, не мог доўгі час стаяць на нагах, усё ляжаў і ляжаў у хляве. Мяне гэта асабліва не хвалявала, бо каня ж набыў амаль дарма. Затым конь памаленьку пачаў набірацца сілы. У гэтым вялікая заслуга мамінага брата партызана Валодзі — даваеннага выпускніка ветэрынарнага тэхнікума. Пастаўлены агульнымі намаганнямі на ногі конь паспяхова справіўся з вясноова-палявымі, летне-асеннімі ўборачнымі

работамі. Адным словам, акупацыя не прымусіла нас галадаць. Заслуга ж у гэтым — эфектыўнае вядзенне прыватнай сельскай гаспадаркі. Толькі ёй мы абавязаныя, што ў 1943 годзе жылі непараўнальна лепш, чым ва ўсе папярэднія гады, як з уступленнем Міхася і Жэні ў 1926 годзе ў шлюб была створана нашая сям'я. Магчыма, ва ўсё сказанае вышэй пра 1943 год, кімсьці а не мною, і я не паверыў бы, каб не быў непасрэдным удзельнікам той стваральнай працы.

## Каб не боты мужа — засталася б у Магільным

Шмат гераічнага запісалі на свой рахунак беларускія партызаны. І колькі літаратуры ні стваралася б пра іх ратныя подзвігі, наўрад ці ўдасца калі-небудзь паказаць усё дазвання. Прыкра, што ў дзеяннях партызанаў сустракалася і такое, што вымагала крымінальнага пакарання віноўнікаў. Найбольш за ўсіх у гэтым грашылі мясцовыя партызаны, стараючыся што-небудзь неабходнае, вартае прыдбаць не толькі для сябе, але і сваіх родных. Спаўна зведалі на сабе гэта Зося Дубіцкая з дачкою Любаю (была гарбатая). Яе муж Іван перад вайной працаваў за сакратара Магільнянскага сельскага савета. Апранаўся і абуваўся, мо як ніхто іншы, вельмі прыгожа. Асабліва кідаліся ў вочы яго хромавыя боты з халявамі вышэй за калені. Калі пачалося франтальнае адступленне Чырвонай Арміі, ён разам з магільнянскім партыйна-савецкім актывам падаўся на ўсход, удзельнічаў у баях з нямецкімі захопнікамі.

З набыццём партызанскім рухам масавага характару пачасціліся выпадкі рэквізіцыі адзення і абутку ў мясцовага насельніцтва. Аднойчы ноччу з такой мэтай завіталі лясныя браты і да Зосі Дубіцкай. Іх цікавілі боты даваеннага сакратара сельскага савета. Як гаспадыня ні клялася, што ўвосень 1941 года выменяла іх на збожжа, партызаны не давалі веры. Паабяцалі праз колькі дзён яшчэ наведаць, і калі будзе ўсё, як гэтым разам, безвынікова, звернуцца да больш строгіх захадаў. Слова стрымалі. Аднак учыненыя катаванні не дапамагалі здабыць боты, бо іх і сапраўды не было. Прыстрашылі, што наступным разам не пакінуць у спакоі і дачку Любу.

Зося Дубіцкая з дачкою іншага выйсця не бачылі, як развітацца з Магільным. У прысутнасці моцна заклапочаных родных і блізкіх яны ўначы пакінулі сваю дарагую хатку, сёе-тое паклалі на воз і паехалі ў Вузду ў надзеі знайсці тут з дапамогай яе ўладаў прытулак. І, як ні дзіўна, знайшлі. Гэта, відаць, толькі ў непрадбачаных сітуацыях ваеннага акупацыйнага часу магло здарыцца такое, што ў немцаў вымушана была прасіць абараніць жыццё жанчына, у якой муж, два браты змагаліся з імі са зброяй у руках. Пэўныя ўмовы для жыцця стварылі, але не такія, як дома ў Магільным, што, верагодна, прычынілася да заўчаснай смерці дачкі Любы. Партызаны і іх актыў з мясцовых жыхароў Магільнага, каб зняць з сябе ўсялякую адказнасць за ўцёкі Зосі Дубіцкай у Вузду,



распаўсюджвалі плёткі пра яе патаемнае супрацоўніцтва з немцамі. Усяму гэтаму не дасць веры муж Зосі, якому пашчасціла жывым вярнуцца з фронту, а вось два браты яе загінулі. Па заканчэнні вайны Зося і Іван не вярнуліся ў Магільнае, а засталіся да канца свайго жыцця ў Вуздзе. Ні тады, ні пазней абсалютная бальшыня магілян не лічыла Зосю Дубіцкую за здрадніцу, за нямецкага агента.

## Падарунак расійскай імператрыцы зрабіў іх жыхарамі Бельгіі

Мала каго з дарослых людзей, як Бладзіка (прозвішча не памятаю), мы, даваенныя дзеці, так любілі слухаць. А яму было што расказваць: служыў на ваенным караблі, удзельнічаў у баявых аперацыях Першай сусветнай вайны. Аднойчы для падняцця духу ў матросаў да іх прыехала расійская імператрыца. Сустрэлі з музыкай, пад бурныя апладысменты, наладзілі нават невялікі канцэрт. Імператрыца ахвотна ўступала ў размову з маракамі. Радаваўся такой сустрэчы наш зямляк, двухметровы здаравяка Бладзік. Без дазволу камандзіра ён што ёсць сілы падняў з палубы карабля нейкую вялікагрузную дэталь і паклаў яе ў якасці незвычайнага падарунка ля ног імператрыцы, што вельмі абрадавала апошнюю. Яна загадала камусьці са світы запісаць імя і прозвішча, хатні адрас волата-матроса, каб на яго шчырую павагу да жонкі рускага цара адказаць таксама якімсьці незвычайным падарункам. Калі Бладзік вярнуўся дамоў, яго ўжо больш за год чакаў прысланы царыцай падарунак: будзільнік, які мог пры адпаведным заводзе спяваць па чарзе галасамі трох розных птушак. Такое здзіўляла не толькі дзяцей, але і дарослых, таму многія за вялікую радасць лічылі пачуць «канцэрты» будзільніка. Не адмаўляў Бладзік нашым просьбам расказаць што-небудзь цікавае са службы на ваенным караблі. А вось у школу магільнянскага матроса не запрашалі, бо падарунак жа зрабіў жонцы «ненавіснага» народу цара Мікалая ІІ.

З пачаткам вайны, усталяваннем акупацыйнага рэжыму людзям было не да будзільніка Бладзіка. А вось пазней, калі масавы характар набыў партызанскі рух, у некаторых удзельнікаў яго ўзнікла зацікаўленасць да такога падарунка. Нібы прадчуваючы штосьці няладнае, Бладзік не трымаў будзільніка ў хаце. Таму, калі першы раз наведалі яе партызаны, на іх вочы ён не трапіў. Гаспадар, як ні пераконваў няпрошаных гасцей, што будзільнік абмяняў на патрэбныя яму рэчы, веры гэтаму не далі. Папярэдзілі, калі падчас чарговага візіту не атрымаюць будзільніка, давядзецца пакаштаваць шомпалаў. Загартаваны нялёгкай службай на флоце магільнянскі марак вырашыў не здавацца, да таго ж яшчэ не мог пагадзіцца са злачыннай задумай партызанаў. Як і папярэднім разам, рашуча адмаўляў, што дзе-небудзь у патаемным месцы хаты захоўвае царыцын падарунак. Збітага шомпаламі Бладзіка партызаны пакінулі ляжаць на падлозе. Двухметровы велікан расцягнуўся на ёй амаль на

ўсю хату. Каб падняць і пакласці яго на ложак, жонцы Алене давялося на дапамогу клікаць суседзяў. Мінула ўсяго толькі пяць дзён, як тыя ж самыя партызаны, у той жа час ночы папрасілі ўпусціць іх у хату. Не паслухаць нельга было: яны ж са зброяй у руках. Бладзік сустрэў іх у пасцелі. На загад неадкладна аддаць будзільнік партызаны пачулі слова «Няма» і пачалі рыхтавацца да нанясення чарговых udараў шомпаламі, гэтым разам ужо ў пасцелі. Жонка Алена была не ў стане перанесці такога страшэннага відовішча, выскачыла ў сенцы, забегла ў камору і адтуль вярнулася ў хату з будзільнікам. Задаволеныя сваёй акцыяй партызаны хуценька пакінулі абрабаваных гаспадароў. Па словах суседзяў яны не чулі ад Алены, каб Бладзік сварыўся на яе за той выратавальны для яго ўчынак.

Здавалася, што гэтая сям'я цяпер ужо больш не будзе зведваць на сабе несправядлівага партызанскага гвалту. Хутка змірыліся, што ў хаце няма дарагога падарунка ад імператрыцы. На вялікі здзіў, Бладзіка і Алену зноў пачалі наведваць партызаны, толькі зусім іншыя, але з той жа самай мэтай. Як ім толькі не кляліся, што будзільнік ужо аддалі партызанам, новыя няпрошаныя госці не хацелі верыць. Катаваць не катавалі, але прыгразілі, калі ў час наступнага візіту не атрымаюць будзільніка, не абмяжуюцца толькі аднымі ўгаворамі, запалохваннем. У гэта паверылі і Бладзік і Алена. Выйсце бачылі толькі ва ўцёках з Магільнага і пасяленні ў тым месцы, дзе гаспадараць акупанты. Ім стала сама Вузда. Як толькі добра сцямнела, Бладзік пайшоў да суседа Мірона і ўгаварыў яго адвезці іх у Вузду. Сусед згадзіўся, хаця яго сын Ванька быў партызанам. Так у адну з лютаўскіх ночак 1943 года Бладзік і Алена, каб больш не ведаць пабояў ад партызанаў, пакінулі сваю родную хату, прычым з адчыненымі дзвярыма, каб, як толькі пасвятлее, людзі здагадаліся, што ў ёй нікога няма.

Усё Магільнае шкадавала Бладзіка і Алену, бо гэта былі вельмі паважаныя ў ім людзі.Злачыннага ўчынку партызанаў не падзялялі і многія іх браты па зброі, што ўжо даўно былі вядомыя магілянам, давяралі адзін аднаму. Прасілі назваць асаблівыя прыкметы тых рабаўнікоў, каб дакласці начальству і пакараць іх. Прыкметаў ніхто не мог назваць, бо рабаўніцтва ж адбывалася ўначы, употай ад людзей.

Бладзік і Алена знайшлі сабе патрэбны пакой у Вуздзе. У паліцыі, цывільных органах мясцовай адміністрацыі ніхто з іх не працаваў, але, як напярэдадні вызвалення Вузды ад акупантаў пачалася эвакуацыя на Захад, туды і яны падаліся. У 60-я гады былы супрацоўнік НКУС БССР Міхаіл Лычкоўскі, спасылаючыся на аўтарытэтныя крыніцы, расказваў мне, што Бладзік і Алена атабарыліся ў Бельгіі. Яго як былога царскага матроса не раз паказвалі з поўным наборам ордэнаў і медалёў на бельгійскім тэлебачанні. А вось пра будзільнік ніякія звесткі не трапілі да магілян. Скралі — і канцы ў ваду.



## Строгі наказ партызана не супрацоўнічаць з партызанамі

Як і ў многіх іншых мясцовасцях, самым хадавым таварам у жыхароў Магільнага была соль. Што толькі не мянялі на яе, але ў нас найчасцей за ўсё мяса і сушаныя грыбы. Добра ладзіліся справы з такой аперацыяй у нашай мамы і суседкі Парaскі Лыч. Калі большыня магілян у гэтых мэтах падавалася ў Стоўбцы, дык яны — у Негарэлае. Паездкамі былі задаволеныя і нават мелі лішку солі, што выкарыстоўвалася для яе абмену на якую-небудзь важную патрэбу ўжо на месцы. Нейкім чынам пра ўсё гэта даведаліся партызаны і прасілі маму і цётку Параску пры наведванні Негарэлага абавязкова заязджаць у канкрэтна названы дом. Нічога не падазраючы, яны гэта бездакорна выконвалі. Па прыбыцці дамоў іх сустракалі тыя ж самыя партызаны, дапамагалі распрэгчы каня, зацягнуць воз ці сані ў гумно. Аднойчы мама заўважылі, як партызан з хамута выцягнуў і хуценька схаваў у кішэню нешта падобнае на канверт. Другім разам партызанаў вельмі цікавіла высланае на возе сена. Пазней таксама заўважалася штосьці незвыклае ў іх паводзінах, і мама вырашылі запытацца. З адказу партызанаў высветлілася, што мама разам з суседкаю Параскаю, нічога не ведаючы, выконвалі адказныя даручэнні па ажыццяўленні сувязяў з негарэльскімі падпольшчыкамі. Мелася жаданне і далей выконваць просьбы партызанаў. Ды трэба ж было праз дзень-два пры завітанні да нас даведацца пра ўсё гэта мамінаму брату-партызану Валодзю. Яны былі больш як на дзесяць гадоў маладзей за сястру Жэню, вельмі паважалі яе, амаль да канца жыцця прыслухоўваліся да яе голасу. А тут на табе — дзядзька, ледзь стрымліваючы сябе ад злосці, настойліва павучаў сястру:

— Ты што, хочаш сваіх пяцярых дзяцей зрабіць круглымі сіротамі?! Самы нязначны промах і трапіш у рукі паліцыянтаў. Жывой ад іх не вырвешся, як ні будзеш прасіцца.

Мама маўчалі. Маўчалі і мы, бо былі на баку дзядзькі. Калі ў чарговы раз маму наведалі ўсім нам знаёмыя партызаны, ім было заяўлена пра прычыны спынення ўсялякіх сувязяў. Рэакцыя была незвычайна бурлівай. Пагражалі, што абавязкова навядуць даведкі пра атрад, у якім знаходзіцца брат Валодзя, і яму не ўдасца ўхіліцца ад партызанскага суда. Мама не паддаваліся застрашванню і рашуча адмаўляліся ад далейшага супрацоўніцтва. Ніякіх санкцый ні да іх, ні да Валодзі не прымянілі. Замялі справу. А ў цэлым партызаны далёка не заўсёды праяўлялі належны клопат пра захаванне ў надзейнай бяспецы тых, з кім мелі справу. Не быў выключэннем і выпадак з нашай мамай і цёткай Параскай.

## Баптысты аблюбавалі нашую хату

Магіляне далёка не ў поўным аб'ёме выкарыстоўвалі дадзеную ім у гады вайны і акупацыі магчымасць жыць разам з Богам. Тлумачылася гэта рознымі прычынамі, але, бадай, самая галоўная з іх — ажыццёўленая ў 20–30-я гады атэістычная праца з людзьмі, асабліва са школьнай моладдзю. У жыхароў старэйшых узростаў, народжаных у апошнія дзесяцігоддзі XIX — першае дзесяцігоддзе XX ст., маглі быць сур'ёзныя сумненні датычна таго, ці з'яўляецца праваслаўе рускага, маскоўскага ўзору сапраўднай іх верай. Абсалютная бальшыня магілян насіла імёны, якіх не адшукаць было ў святцах: Язэп і Магда, Алесь і Зося, Волесь і Дарка, Хведар і Тэкля … У жыхароў Магільнага знайшлося імпэту толькі для таго, каб неўзабаве пасля прыходу немцаў перахрысціць сваіх дзяцей.

У той сітуацыі больш актыўную пазіцыю займалі баптысты. У нашай мясцовасці іх нейкім цэнтрам з'яўлялася вёска Прусінава прыкладна за пяць кіламетраў ад Магільнага з процілеглага ад яго берага Нёмана. Спаленыя масты цераз Нёман не з'яўляліся перашкодай для баптыстаў, каб трапіць у Магільнае. Дый цераз Нёман можна было перабрацца на чайцы і ў раёне самога Прусінава. Словам, баптысты сур'ёзна кінулі вока на Магільнае. Толькі зусім невядома, чаму яны паквапіліся на нашую хату. Не выключана, што яна была прасторнай, у ёй адсутнічаў дарослы гаспадар-мужчына. Прадстаўнікі гэтага полу не так цягнуцца да рэлігіі, як жанчыны.

У студзені ці лютым 1943 года парог нашай хаты пераступілі тры жанчыны, назваўшы сябе баптыстамі. Размова адразу ж павялася пра Бога.

— Ды няма яго, — адказалі мама. — Каб быў Бог, дык ці забраў бы ён у мяне гаспадара, а ў пяці дзяцей — бацьку. Не дазволіў бы партызанам адабраць у нашай сям'і свінню.

Пры той размове прысутнічаў і я. Па тварах баптыстаў адчувалася, што яны не спадзяваліся пачуць такое ад жанчыны цяжкага лёсу, але хутка зарыентаваліся і папрасілі ў мамы дазволу праспяваць хоць некалькі песень.

— Спявайце, — пагадзіліся мама. — У мірныя часы жыцця ў гэтай хаце часта спявалі.

На спевы баптыстак з другога пакоя адразу ж выйшла Ліда і стала ўважліва слухаць. Відаць, спадабалася, бо, калі баптысты сталі развітвацца, папрасіла яшчэ што-небудзь выканаць. Паслухалі. Пры развітанні паабяцалі праз колькі дзён наведаць нас, на што мама прамаўчалі, а вось Ліда гэтыя словы прыняла з вялікай радасцю і амаль кожны дзень упрошвала маму дазволіць баптыстам збірацца ў нас. Мама здаліся.

Праз месяц ад першага візіту баптыстаў у нашую хату яна ператварылася ў сапраўдны малебны куток. Ён да адказу набіваўся людзьмі, калі прыходзілі баптысты. Ліда ўжо на трэці дзень арганізацыі малебнаў спявала разам з баптыстамі. Прыгажосць яе голасу заўважаў кожны з прысутных. А сярод іх было нямала і тых, каго лічылі за самых шчырых вернікаў праваслаўнай царквы, не выключаючы і колішніх удзельнікаў царкоўнага хору. Калі з нашай хаты даносіліся спевы на вуліцу, іх ахвотна ішлі слухаць і партызаны, адразу здымаючы шапкі. З цягам часу баптыстам пачалі падпяваць амаль усе, што прыходзілі на малебен. Асабліва дружна ўсе хорам спявалі развітальную песню, ад якой я яшчэ і сёння памятаю такія радкі (тэкст яе рускі):

Тихо, мирно — мирно и спокойно
Мы домой пойдем,
Все благие наставления
Мы с собой возьмем.

Адзначу, што ўвесь рэпертуар баптысцкіх песень быў рускамоўны, паколькі і дадзеная хрысціянская канфесія Беларусі знаходзілася пад моцным рускім уплывам, мала лічылася з яе нацыянальным інтарэсам.

З пачаткам вясноваа-палявых работ інтэнсіўнасць баптысцкай дзейнасці ў Магільным пайшла на спад. Не выйшла яна на ўзровень пачатку 1943 года і з надыходам зімы 1943/44 г., бо істотна змянілася ў горшы бок сітуацыя. Амаль усе сядзелі на клунках з сухарамі ў чаканні каманды ўцякаць у лес. Людзі стараліся далёка не адыходзіць ад роднай хаты і быць заўжды напагатове. У такіх экстрэмальных умовах небяспечна было збірацца ў вялікай колькасці для ўдзелу ў якіх-небудзь мерапрыемствах, не выключаючы і баптысцкіх малебнаў.

## Аб'ектам бамбавання выбралі Магільнае

Іншым разам бяда абыходзіла і нашую сям'ю, хаця, здаецца, у гады акупацыі мала хто так часта трапляў у такое цяжкае становішча, як мы. Праз аднаго знаёмага нам партызана дзядзька Валодзя перадалі, што яны аднаго канкрэтнага восеньскага дня 1943 года будуць у нас і вельмі хочуць сустрэцца са мной. Нягледзячы на вялікую занятасць у працы па сельскай гаспадарцы, я застаўся дома. У хату зайшлі дзядзька Валодзя, і я стаў частаваць іх блінцамі з салам і кіслым малаком. Не паспелі з'есці і аднаго блінца, як у небе пачуўся гул самалётаў, што вельмі рэдка ў той час назіралася ў нашай мясцовасці. Выскачылі ўдвух на двор і ахнулі: у небе над Магільным кружацца тры нямецкія самалёты і скідваюць на хаты, гаспадарчыя пабудовы фугасныя бомбы. Каб я быў адзін дома, відаць, адразу ірвануў бы ў лес, ратуючы сваё жыццё.

— Лёня, — пачуў зусім не панічны голас дзядзькі. — Хапай сахор, вілы, граблі, дай з іх што-небудзь і мне, а сам лезь на страху хлява і гумна, а я буду ўзбірацца на дах хаты. Як толькі трапіць на страху фугасны снарад,

старайся хутчэй, да таго як ён пачне гарэць, скінуць яго на зямлю, няхай ён там гарыць, ад гэтага ў нас пажару не будзе.

З рэкамендацыямі дзядзькі я пагадзіўся, а вось снарада ніводнага не скінуў, бо ён проста не трапіў на страху. Затое дзядзька дзве фугаскі скінулі ў агарод суседкі Арыны. Гледзячы на нас, сёй-той і з нашых суседзяў, а таксама з аддаленых хат аналагічным спосабам павялі барацьбу па прадухіленні пажару. Не пашанцавала Нарадоўскай вуліцы: амаль усё дарослае насельніцтва працавала ў полі і не ведала, што робіцца дома. На гэтай вуліцы датла згарэла некалькі хатаў.

Калі нямецкія самалёты пакінулі неба над Магільным, дзядзька сказалі мне папярэдзіць каго толькі можна пра верагоднасць паўторнага бамбавання. Я выканаў такое даручэнне, і не дарэмна, бо і сапраўды дзесьці праз тры-чатыры гадзіны аднавілася бамбаванне. На гэты раз на дахах амаль усіх хатаў нашай Кавалёўскай вуліцы стаяў хоць адзін чалавек, каб не дапусціць пажару. І ён абмінуў гэтую вуліцу. Нямецкія лётчыкі ўжо так асмялелі, што ляталі амаль над самымі хатамі. Нават было відаць, як яны рукамі раскідвалі фугасныя снарады. Пры другім па ліку бамбаванні ў мястэчку ўжо нямала было партызанаў, але ніхто з іх не страляў па самалётах, не жадаючы выклікаць у акупантаў яшчэ большы гнеў на магілян за іх сувязь з ляснымі братамі.

Трэці налёт зрабілі (як і ў папярэднія налёты, у бамбаванні дамоў таксама ўдзельнічалі тры самалёты), калі людзі пачалі вяртацца дамоў з працы. На гэты раз скідвалі не толькі фугасныя снарады, але і невялікай узрыўной сілы авіябомбы. Стралялі з кулямётаў, таму было паранена чатыры чалавекі, на нашай вуліцы — Ганна Дзесюкевіч і Волесь Дзесюкевіч.

Вось такім трагічным і адначасова гераічным стаўся для магілян дзень 10 лістапада 1943 года. Без іх і партызанаў самаахвярнага змагання з пажарам людзі маглі б застацца без прытулку над галавой. А не за гарамі ж ужо былі зімовыя халады. Прыведзеная ў кнізе «Памяць. Уздзенскі раён» лічба пра 97 спаленых у той дзень пабудоў (с. 174) яўна завышаная, нават калі ўключыць ў яе будкі для сабак і невялічкія прыбудовы да хлявоў для трусоў, таму што трымалі іх у сябе вельмі мала хто з нашых жыхароў.

Мне давялося паглядзець шмат мастацкіх фільмаў, прысвечаных жыццю мірнага насельніцтва пад акупацыяй, барацьбе партызанаў з нямецкімі захопнікамі, але ні разу не бачыў на экранах нечага падобнага на апісаны вышэй сюжэт. І дарэмна, бо гэта ж мела месца ў жыцці. Дэманстрацыя такога сюжэта сродкамі кінематографа дапамагла б яшчэ ў большай ступені раскрыць гераізм цывільных людзей у гады акупацыі.

## Па паліцэйскіх не страляць!

Партызаны і паліцэйскія ўвялі вельмі заганную практыку ў дачыненні да цывільнага насельніцтва: жорстка караць яго за падтрымку, супрацоўніцтва з адным з бакоў. Узнікла велізарная небяспека падзелу беларускага народа на два дыяметральна процілеглыя лагеры. Акупантам было выгадна такое размежаванне. Ніякіх канкрэтных захадаў па прадухіленні яго не рабіла Масква. У выніку Беларусь несла неапраўдана вялікія людскія страты сярод цывільнага насельніцтва, непараўнальна большыя, чым партызаны і паліцэйскія, разам узятыя. Нямецкія ўлады гэта нікольні не хвалявала, а вось, хоць і па запозненым указанні Масквы, партызаны павінны былі ўхіляцца ад баявых сутычак з паліцэйскімі і немцамі, калі такое магло весці да масавай гібелі мірных жыхароў. Такі апраўданы паварот у вядзенні партызанскай барацьбы закрануў і Магільнае.

У канцы 1943, а тым больш у пачатку 1944 года партызаны пачалі даволі актыўна дзейнічаць і на правабярэжжы Нёмана. Акупанты ўжо не адчувалі сябе тут у такой бяспецы, як гэта было раней. Пагадзіцца ж з такой стратай свайго ўплыву яны не збіраліся, таму ў гэтай мясцовасці пачасціліся баявыя сутычкі паміж двума варагуючымі бакамі. Калі партызанам даводзілася ў чымсьці саступіць на правабярэжжы Нёмана, усё-такі яны сюды рэгулярна пасылалі сваіх разведчыкаў, якія вялі так патрэбную працу ў цесным кантакце з мясцовым насельніцтвам, заўжды мелі ад яго надзейную падтрымку. У такіх умовах працавалі разведчыкі з жыхарамі Замосьця. У адзін з вясновых дзён 1944 года яго разведчыку (прозвішча не памятаю) данеслі, праўда, са спазненнем, што ў Замосьце вось-вось павінна ўварвацца невялікая група паліцэйскіх. Партызан-разведчык кінуўся ратавацца ўцёкам у Магільнае. У партызаны заслалі яго з-за лініі фронту пасля адпаведнай падрыхтоўкі. Вызначаўся фізічнай сілай, уменнем весці бой. Бег па старой грэблі з вялікай хуткасцю. У гэтым паліцэйскія прыкметна ўступалі яму, але беглі таму, што разлічвалі: ён жа не кінецца ў шырокі з-за веснавой паводкі Нёман. Памыліліся. Калі да ракі заставалася каля пяці-сямі метраў, адважны разведчык збег з грэблі і, не распранаючыся, з аўтаматам за спіной, кінуўся ў ваду. За гэтымі падзеямі сачыла шмат магілян, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, смела бегаючы па беразе Нёмана. Прысутнічала і невялікая колькасць партызанаў, прычым і такіх, што ведалі разведчыка. Дабегшы да канца грэблі, паліцэйскія на ўвесь свой рост, ні ад кога не асцерагаючыся, адкрылі агонь па партызану. Не страляў толькі старшы з іх групы, трымаючы ў руках пісталет. Кулі з пляскам давалі нырца ў ваду то справа, то злева ад галавы партызана. Палову шырыні Нёмана ён ужо пераплыў. Калі да берага заставалася 10–15 метраў, старшы з паліцэйскіх на ўсё горла закрычаў: «Стойце!» Навёў у цэль рулю пісталета і з першага стрэлу трапіў у галаву. Партызан адразу пагрузіўся ў ваду. З магільнянскага берага Нёмана чуліся і такія словы старшага з паліцэйскіх:

— Што вы хочаце, каб у Вуздзе з маіх плеч галаву знялі?!

Дасягнуўшы сваёй мэты, паліцэйскія спакойным, ціхім крокам падаліся ў Замосьце.

Людзі па-рознаму рэагавалі на тое, што на іх вачах адбывалася ў гэты дзень. Бальшыня ўпрошвала партызанаў не страляць у паліцэйскіх, каб

акупанты не паўтарылі бамбавання Магільнага. Між іншым і самі партызаны не ставілі перад сабой за мэту ўступіць у перастрэлку з паліцэйскімі, ведаючы, якія наступствы будзе гэта меьц для і без таго так моцна спакутаваных жыхароў Магільнага. Па-свойму рэагавалі на тыя падзеі мы, дзеці. Гразілі паліцэйскім кулакамі, абзывалі іх грубымі (цэнзурнымі) словамі, на што не было аніякай рэакцыі з іх боку. Яны ні разу не папужалі ні дарослых, ні дзяцей стрэламі над іх галовамі. Увесь позірк скіроўвалі толькі на партызана.

Паліцэйскія яшчэ не дайшлі да Замосьця, а людзі ўжо пачалі рыхтавацца падняць тапельца з дна ракі і выцягнуць на бераг. Марудзіць ніяк нельга было, бо воды Нёмана маглі перакаціць цела партызана на далёкую адлегласць ад месца здарэння. Узначаліў каманду добраахвотнікаў-выратавальнікаў самы дасведчаны ў Магільным рыбак і ўвогуле здольны на ўсе рукі Костусь Цыбульскі (па-вулічнаму Ахрэмчык). Ён хутка спусціў на ваду чайку і доўгім бусаком пачаў абмацваць дно. На дапамогу прыйшла і яшчэ адна чайка з двума чалавекамі. Не знайшоўшы партызана на месцы забойства, Ахрэмчык пакіраваў чайку да берага ў тое месца, дзе раслі кусты лазы. Гэтае месца берага выбраў таму, што ў той дзень Нёман свае воды якраз імкліва нёс да яго. Рыбак не памыліўся: бусаком намацаў труп. Памагатых папрасіў бусакі ўткнуць у дно ракі так, каб цела не рухалася па цячэнні, а сам стараўся дзейнічаць бусаком з такім разлікам, каб добра зачапіцца за адзенне, не пашкодзіўшы цела. Хоць і цяжка давалася ўсё гэта, аднак не мінула і гадзіны, як забітага партызана выцягнулі на бераг. На наступны дзень адбылося пахаванне з удзелам партызанаў. Пахавалі на ўскрайку Магільнянскіх могілак, каб лёгка было знайсці месца спачыну сапраўднага героя-партызана. Пасля вайны яго парэшткі змясцілі ў агульную брацкую магілу для партызанаў.

Апісанае вышэй здарэнне мо цэлы месяц не сходзіла з вуснаў магілян. Былі сярод іх і такія — пераважна тыя, чые хаты згарэлі падчас бамбавання ці хто страціў сына ў барацьбе з акупантамі, — што асуджалі партызанаў за іх пасіўнасць. Праўда, такія патрыёты знаходзіліся ў меншыні. Заўважу, што партызанаў за такое бяздзейнічанне не абвінавачвала і іх начальства. Пасля апісаных падзей акупанты не ўжылі аніякіх спецыяльных санкцый супраць Магільнага, але ў час сваіх чарговых карных аперацый не раз урываліся ў яго і толькі з-за адсутнасці баёў з партызанамі ці ў выніку своечасовых уцёкаў людзей у лясы яно не зведала якіх-небудзь сур'ёзных чалавечых ахвяр.

## Нетыповы выпадак

Нямецкіх акупантаў справядліва абвінавачваюць у лютай нянавісці, нечуванай жорсткасці ў дачыненні да цывільнага насельніцтва заваёваных краін. Свае крывавыя рукі прыкладвалі карнікі нават да ні ў чым не вінаватых дзяцей, а таксама старых людзей, якіх і без таго вось-вось павінна была напаткаць непазбежная для такога ўзросту натуральная смерць. Перанесці суровы рэжым акупацыі не ўдалося і многім дзецям мястэчка Магільнае, прычым не толькі яўрэйскай нацыянальнасці. На фоне ўсіх гэтых зверстваў зусім нязвыклым падаецца запомнены мною выпадак абыходжання аднаго з немцаў з маім самым малодшым братам пяцігадовым Толем. Хоць і вельмі рэдка, усё ж Магільнае і ў 1943 годзе, калі яно ўжо знаходзілася ў партызанскай зоне, карнікі выбіралі дзеля свайго часовага раскватаравання. Арганізаваўшы вылазку на партызан, звычайна ў раён Капыльшчыны, яны вярталіся ў Магільнае, каб трохі адпачыць перад чарговай акцыяй. Пры выбары для начлега хаты карнікі ніколі не абміналі нашай, хаця ў ёй жыло шэсць чалавек. У гэтым заслуга нашага таты, які ў 1930 годзе пабудаваў даволі дыхтоўную для таго часу хату. Заўважу, што няпрошаныя госці ніколі не зганялі нас з ложкаў, а ўкладваліся на падлогу, паслаўшы на яе добры пласт саломы. Трое немцаў, якія начавалі ў нас у пачатку зімы 1943/44 года, добра запомніліся тым, што адзін з іх вельмі пасябраваў з нашым Толем, частуючы яго рознымі прысмакамі. Ахвотна браў Толю на рукі, прыгаворваючы незразумелыя ні яму, ні нам словы. Аднак я са старэйшай сястрой Лідай, паканчаўшы ў гады акупацыі адпаведна шэсць і сем класаў, у якіх добры ўпор рабіўся на вывучэнне нямецкай мовы, усё-такі разабраліся, што гэты немец быў настаўнік па прафесіі і меў дома пяцігадовага сына, таму так цягнуўся да Толі, запрашаў яго прылегчы разам на засланую саломай падлогу, і той згаджаўся. Аднойчы пры паказе нам розных фотаздымкаў свайго сына, вочы гэтага немца засланіліся слязамі, і здавалася, што ён вось-вось заплача. Калі на досвітку далі каманду збірацца ў дарогу, той вельмі ветлівы з намі немец хутка накіраваўся да Толевай калыскі і на развітанне пацалаваў яго соннага ў шчаку, а маме падаў руку. Мы адразу ж пачалі зносіць з падлогі ў гумно салому і ў тым месцы, дзе спаў «гуманны» немец, знайшлі гранату. Я выскачыў на вуліцу, каб сказаць яму пра знаходку, але ўжо было позна. Гранату я схаваў у гумне.

Праз пару дзён у Магільным зноў гаспадарылі партызаны. Калі ў хату зайшлі дзядзька Валодзя, я з сёстрамі сталі хваліцца ім, які добры быў у нас немец, як ён любіў гуляць з Толем, якімі песціў яго пачастункамі. Дзядзька не далі нам шмат гаварыць і запярэчылі:

— А вы не думаеце, што гэты хвалёны вамі немец па загаду камандзіра ўжо спаліў не адну хату разам з маленькімі дзецьмі? Учыніў бы ён такую расправу і з вамі, каб толькі далі на гэта каманду. Умовы вайны вельмі жорсткія, яны і немцаў, і нас, партызанаў, прывучылі ісці на любыя чалавечыя ахвяры. А жаданне вашага «добрага» немца пагуляць з Толем выклікалася не больш, як толькі журботнымі, нялёгкімі ўспамінамі пра свайго роднага сына, вялікімі сумненнямі, ці давядзецца яшчэ калі-небудзь сустрэцца з ім.

У адказ дзядзьку мы не прамовілі ні слова. Цалкам пагадзіліся з імі. Дый былі выхаваны так, што ніколі не пярэчылі дарослым.

Не забыўся я паказаць дзядзьку забытую немцам гранату. Яны не пажадалі ўзяць яе сабе, а вось як карыстацца ёю, паказалі. Калі-нікалі, як па трывозе ўцякалі ў лес, я браў гранату з сабою, але выкарыстаць яе давялося зусім не ў абарончых мэтах. Не жадаючы далей трымаць гэтую зброю ў сябе, я прапанаваў яе магільнянскаму партызану Тодару Лукашэвічу*, які перад вайной кіраваў мясцовай хлебапякарняй, а мой тата працавалі там за рабочага. Узяць ад мяне гранату ён згадзіўся, але толькі каб глушыць ёю ў Нёмане рыбу. Выканаўцам той акцыі, як уласнік гранаты, стаў я, хаця на гэта прэтэндавалі старэйшыя за мяне хлопцы. Гранату кінуў у дакладна вызначанае партызанам месца, але на паверхню вады не выплыла ніводная рыбка. Аперацыя не ўдалася. Гэта была, бадай, мая адзіная злачынная акцыя супраць Нёмана. І як добра, што ад разрыву гранаты не было прычынена аніякай шкоды рыбнаму багаццю Нёмана.

## Братанне партызана з паліцэйскімі

У пачатку 1944 года дзядзька-партызан Валодзя па абавязку сваёй службы ўсё часцей наведвалі Магільнае разам з яго ўраджэнцам сябрам па зброі Антосем Лычом. Вольны час праводзілі не ў яго, а ў нашай сям'і. Цяпер яны ўжо з вялікай упэўненасцю сцвярджалі пра хуткае выгнанне акупантаў з беларускай зямлі. З радасцю гаварылі дзядзька Валодзя пра гэта і тады, калі заставаліся адзін на адзін са сваёю сястрою Жэняю, нашай мамаю. Калі іх што-небудзь і непакоіла, дык гэта непрадвызначанасць лёсу, зусім верагоднае суровае пакаранне савецкім судом трох паліцэйскіх з іх роднай вёскі Літвы. Мама падзялялі задуму Валодзі як-небудзь выратаваць гэтых паліцэйскіх, далучыўшы да ўдзелу ў партызанскім руху. Але калі ў адну з вячэрніх сустрэч яны даведаліся, што брат, як ледзь пачне брацца на дзень, пойдзе сустракаць іх у прызначаным месцы ў наваколлі вёскі Сямёнавічы (знаходзіцца за тры кіламетры ад Вузды), вельмі моцна захваляваліся.

— А ці не думаеш, браток, што яны могуць захапіць цябе і адвесці ў паліцыю, за што атрымаюць ад яе вялікую ўзнагароду. Акупацыя многа ў чым паўплывала на паводзіны людзей,некаторых былых сяброў парабіла ворагамі.

— У мяне так не здарыцца, — запярэчыў брат сястры. — Днямі я наведваў бацькоў аднаго з літоўскіх паліцэйскіх — сям'ю Шчасновічаў. Не я, а яны прасілі ледзь не са слязамі на вачах дапамагчы іх сыну і астатнім двум паліцэйскім перабрацца ў партызаны. Калі зробіш так, пры жыцці помнік паставім. Вось толькі, — засумняваліся дзядзька Валодзя, — ці прыйдуць мае аднавяскоўцы на сустрэчу са зброяй у руках. У партызанскім атрадзе з гэтым сур'ёзная праблема.

Маме той ноччу не спалася: усё думалася, ці ўдасца брату здзейсніць свой план. Ва ўмоўленым месцы дзядзьку Валодзю чакалі ў поўным узбраенні тры літоўскія паліцэйскія. Не прамовіўшы адзін аднаму ні слова, яны хуценька пайшлі самымі глухімі дарогамі, ляснымі сцежкамі ў бок Магільнага. Небяспечна было нарвацца і на паліцэйскіх, і на партызанаў, бо адразу ўзнікла б нямала пытанняў, хто каго і куды вядзе. Паколькі на адлегласці 5–7 кіламетраў на захад ад Сямёнавічаў гаспадарамі ўсё ж з'яўляліся акупанты — хай сабе і ў значнай ступені чыста сімвалічна — у Валодзі забралі карабін, і яны ішлі абяззброенымі, нібыта пад канвоем паліцэйскіх. Калі параўняліся з Літвой (у вёску не заходзілі), ужо і ў дзядзькі Валодзі быў за плячыма карабін, і яны крочылі ззаду паліцэйскіх. Рэшту адлегласці ад Літвы да Магільнага прайшлі ўжо без усялякіх хваляванняў. На месцы пераправы цераз Нёман, дзе я круціўся ад самага ранку, не зводзячы вачэй з дарогі на Замосьце, па якой павінны былі вяртацца з Сямёнавічаў дзядзька Валодзя, паліцэйскія адразу ж сарвалі са свайго адзення ўсе знакі адрознення. Пераправай людзей з аднаго берага на другі ўвесь час займаўся колішні партызан Грамадзянскай вайны Цімох Туміловіч. Ён і перавёз дзядзьку Валодзю з іх «жывымі трафеямі». Да партызанскага лагера дабіраліся на магільнянскай падводзе. Здзейснены ў той дзень дзядзькам Валодзем учынак высока ацаніла кіраўніцтва партызанскага атрада. У яго складзе нядаўнія літоўскія паліцэйскія не раз хадзілі на баявыя заданні.

Як станоўчае адзначу, што жывымі засталіся ўсе члены сем'яў літоўскіх паліцэйскіх: кінулі свае родныя хаты і да самага вызвалення ад акупантаў туліліся ў розных вёсках.

На трэці дзень пасля ўдалай аперацыі дзядзька Валодзя зайшлі да сваёй сястры Жэні. Цяжка сказаць, у каго было больш радасці на душы. Відаць, у абоіх. На баявым рахунку партызана-разведчыка дзядзькі Валодзі шмат па-сапраўднаму гераічнага. Быў цяжка паранены, удзельнічаючы ў адной з аперацый па падрыве чыгуначнага палатна. Аднак і ў час, калі яшчэ былі партызанам, і ў пазнейшыя гады ў найбольшую заслугу ставілі сабе арганізацыю прыводу літоўскіх паліцэйскіх у партызанскі атрад, бо дзякуючы гэтаму, не выключана, выратаваў іх ад вернай смерці ці суровага пакарання савецкім судом. Літоўскія паліцэйскія ўсё жыццё былі шчыра ўдзячныя майму дзядзьку Валодзю. Двое з іх да пенсіі працавалі ў мясцовым калгасе, а трэці — на будоўлях горада Мінска.

* Гэты чалавек пакінуў вельмі добрыя ўспаміны ў магілян. У цяжкія пасляваенныя гады ён працаваў у Баранавічах і меў прамое дачыненне да хлебапякарнай вытворчасці. Па яго распараджэнні з Баранавіч у Магільнае даволі часта пасылалася машына з хлебам, што вельмі вітала кіраўніцтва Вуздзенскага раёна, паколькі на працягу многіх гадоў у ім зведваўся востры дэфіцыт на гэты асноўны для беларусаў прадукт харчавання.

## Апошняя сяўба пры акупантах

Не магу гаварыць за іншых, але асабіста я нічога не ведаў ні пра паспяховае контрнаступленне Чырвонай Арміі ў снежні 1941 года пад Масквой, ні пра Сталінградскую бітву, ні пра Курска-Арлоўскую дугу. А вось што ад восені 1943 года ўжо пачалося вызваленне ад акупантаў усходніх раёнаў Беларусі, добра ведаў і бясконца радаваўся, што неўзабаве яно прыйдзе і да нас, толькі б як-небудзь дажыць да таго радаснага дня. Мне здаецца, мо ніхто так не хацеў паміраць, як я. Пра смерць думаў, як клаўся спаць і ўставаў з пасцелі, як хадзіў за плугам ці цягаў касу, як збіраў у лесе грыбы ці лавіў у Нёмане рыбу. Асабліва вялікі страх наганяла на мяне думка, што ад ворага можа загінуць уся наша сям'я і спыніць далейшае існаванне наш род. Гэта моцна непакоіла і маму. Яны не раз прасілі брата Валодзю забраць мяне ў партызаны, бо мо якраз гэта і дапаможа не знікнуць нашаму роду. Дарэчы, сярод партызанаў сустракаліся майго ўзросту падлеткі, якім я вельмі зайздросціў. Маму зусім не палохала, што, калі мяне возьмуць у партызанскі атрад, ім давядзецца па гаспадарцы выконваць усю мужчынскую працу. Валодзя наадрэз адхіліў просьбу сястры, бо, відаць, добра ведалі, што ёсць сітуацыі, калі і ў партызанаў гарантыя на выжыванне роўная нулю. Ад пачатку 1944 года ўжо ніхто больш не падымаў перад Валодзем такога пытання. Яны арыентавалі мяне заставацца пры доме, добра даглядаць каня, рыхтавацца да вясновых палявых работ і ведаць, што яны будуць апошнімі для гадоў акупацыі.

Яшчэ ніколі магілян, што верылі ў непазбежнасць выгнання акупантаў, так не хвалявала пытанне аднаўлення калгаса, як на пачатку 1944 года. У залежнасці ад адказу на яго выбудоўваліся планы, стаўленне людзей да правядзення веснавой сяўбы, бо навошта, заяўлялася, надрывацца, калі вынікам тваёй працы будзеш распараджацца не ты, а кіраўніцтва калгаса. Такія антыкалгасныя настроі смела выказваліся і ў прысутнасці партызанаў. Тыя ў адзін голас заяўлялі:

— Ніхто калгаса аднаўляць не будзе. Вядомыя цалкам верагодныя звесткі, што пасля заканчэння вайны ліквідуюць калгасы і на незанятай нямецкім акупантамі савецкай тэрыторыі.

Дарэчы, такія выказванні чуліся з вуснаў нават закінутых з савецкага тылу партызанаў, якім у дадзеным выпадку давалі веры больш, чым мясцовым.

Як трохі прыгрэла сонца і можна было апрацоўваць зямлю, актыўна ўзяліся за справу, хто верыў, а хто і не верыў, хто жадаў, а хто і не жадаў аднаўлення калгаса. Наша сям'я належала да катэгорыі апошніх, бо я ўжо няблага спраўляўся з абавязкамі па вядзенні гаспадаркі. Не мелася прэтэнзій да каня, вупражы, сельскагаспадарчага інвентару. Радавала, што шмат у чым пры правядзенні сяўбы мог ужо дапамагаць мне дзевяцігадовы брат Геня. Калі ўсё добра ўдавалася з працай, ехалі дамоў сапраўднымі героямі, усю дарогу спявалі піянерскія і народныя песні, што заўжды прыцягвала да сябе ўвагу тых, каму даводзілася іх чуць.



Магілян здзіўляла, што на гэты раз ходам сяўбы вельмі цікавяцца партызаны. А цікавіліся таму, што на гэта мелася ўказанне зверху, бо лічылі, што ўраджаем 1944 года ўжо будзе распараджацца савецкая ўлада. Пры патрэбе партызаны дапамагалі людзям коньмі, самі станавіліся за плуг. Мама не пярэчыла, калі хтосьці з партызанаў прыходзіў і мне на замену.

Зусім не так, як у мінулыя гады, ставіліся да занятых палявымі працамі акупанты, страціўшы ўсялякую надзею пратрымацца ў Беларусі. Каб як мага менш збожжа засыпалі ў агульны савецкі засек, яны не раз адкрывалі пальбу па мірных працаўніках палёў. З магілян такі лёс не абмінуў Антося Дзесюкевіча (па-вулічнаму Шышкаў) і яго непаўналетняга сына. Едучы дарогай пры лесе, карнікі заўважылі, што на далёкай адлегласці ад іх селянін арэ зямлю. Трапны стрэл снайпера — і Антось паваліўся на зямлю. Усё гэта бачыў яго сын і кінуўся да бацькі. Не дабег, бо і сам атрымаў кулю ў галаву. Усцешаныя сваімі «поспехамі» карнікі рушылі далей у надзеі яшчэ паўтарыць нешта падобнае.

Нягледзячы на істотную дапамогу партызанаў, сяўба зацягнулася. Віной усяму гэтаму былі, як ніколі раней, частыя ўцёкі магілян ад нямецкіх рабаўнікоў у лес. Здаралася і такое, што дома адсутнічалі па два-тры дні. Аднойчы па загадзе партызанаў вымушаны былі хавацца не ў больш-менш прыстасаваных для жылля зямлянках, а проста ў балоцістай мясцовасці. Каб забяспечыць надзейную канспірацыю, забаранялі нават прыносіць ваду з Нёмана, а карысталіся балотнай, выкапаўшы дзеля яе здабывання неглыбокія ямкі. Трое сутак «жылі» ў такіх умовах. Пасля вяртання дахаты два-тры дні адыходзілі, набіраліся сіл і толькі на трэці выйшлі ў поле.

Сенажаць распачалі толькі ў апошнюю дэкаду чэрвеня 1944 года. Працавалі на Малым лузе, што знаходзіцца адразу ж за Магільным. Абедаць прыходзілі пешшу дамоў. А вось дзесьці ў самыя апошнія дні чэрвеня дамоў прыйшлі, а абедаць не давялося, бо ў канцы вуліцы Кавалёўскай, як яна паварочвае на Язвіны, лоб у лоб сутыкнуліся з чатырма коннымі чырвонаармейцамі з чырвонымі сцяжкамі ў руках. Усе зразумелі, што нарэшце прыйшло доўгачаканае вызваленне ад праклятых акупантаў. Ад вялікай радасці людзі хапаліся за рукі, ногі салдатаў, гладзілі іх коней, цалавалі сцяжкі. Ад такога не мог устрымацца і я. Чырвонаармейцы, у адрозненне ад партызанаў, былі худаватымі, дужа стомленымі. Прайгравалі ў параўнанні з партызанскімі і іх коні.

Не мінула і трох-пяці хвілінаў, як ужо жанчыны наладзілі пачастунак для чырвонаармейцаў. Сёй-той з мужчын трымаў у руках пляшку з самагонкай. Не абышлося без спрэчак: частаваць ёю ці не? Вырашылі не больш як па 200 грамаў, бо ж салдаты выконваюць разведзаданне.

«Застолле» доўжылася не больш за дзве гадзіны. Сонца толькі-толькі павярнула на другую палову дня, але ніхто не пайшоў на сенажаць. Магіляне без удзелу ўсялякіх уладаў пачалі святкаваць доўгачаканую перамогу. Убачыўшы партызана, абавязкова запрашалі ў хату, садзілі за стол і амаль у кожным выпадку задавалі пытанне:

— Ну дык гэта канчатковае вызваленне, ці ў нашай мясцовасці яшчэ могуць адбывацца жорсткія баі з ворагам?

Партызаны, будучы добра дасведчанымі пра сітуацыю ў нашым і суседніх раёнах, давалі суцяшальныя для людзей адказы і не памыліліся.

У той незабыўны дзень я ад вялікага шчасця быў на сёмым небе. Словы: «Я жывы», «Я жывы» паўтараў мо на кожным кроку, вымавіўшы іх незлічоную колькасць разоў. Часам нават вымаўляў іх у прысутнасці каго-небудзь з нашай сям'і, што ў першую чаргу заўважылі мама, але мне і слова не сказалі пра пачутае.

З поўнай упэўненасцю ў перамогу, спакойна, як даўным-даўно, ўклаліся спаць. Калі развіднелася, ніхто і не думаў уставаць з пасцелі, бо вырашылі ў першы дзень пасля вызвалення не ісці на працу. Людзі самі распараджаліся сабой. Не хацелася і мне падымацца з пасцелі. Да таго ж яшчэ моцна балеў жывот. Не перастаў балець і пасля таго, як пачуў магутны гул савецкіх танкаў. А як хацелася іх бачыць, бо гэта ж была мая мара. Такі цяжкі стан майго здароўя, натуральна, не мог не напужаць маму. Як заўсёды ў падобных выпадках, па дапамогу звярнуліся да суседкі цёткі Ганны з процілеглага боку вуліцы. Лячыла мяне народнымі сродкамі: тры разы на дзень піў па сталовай лыжцы самаробнага дзёгцю і тарпатыны. Не ведаю, дапамагло гэта ці не, але праз тры дні выйшаў на вуліцу, сеў на прызбу і ўсё пазіраў, як рухаюцца савецкія войскі. Цяпер ужо зусім не той быў салдат, не тая была тэхніка, што ў канцы чэрвеня 1941 года. На тварах чырвонаармейцаў заўважалася ўсмешка, у кагосьці ў руках былі гітара ці гармонік. Вось толькі калі за тэхнікай рушылі абозы, праблемай нумар адзін стала, як захаваць каня. Майго забралі ў абмен на нейкую ламачыну. Сур'ёзна асцерагацца ад згвалтавання даводзілася дзяўчатам і маладым жанчынам. Маці ўранку выганялі на пашу карову, лазілі ў склеп па бульбу толькі ў маёй прысутнасці.

У сувязі з хваробай я трохі затрымаўся з выхадам на працу. Раілі не спяшацца з ёю і дзядзька Валодзя, у якіх была ваенная сярэдняя медыцынская адукацыя. Мама не раз пыталіся ў брата, што здарылася са мною. І я думаю, яны далі больш-менш правільны адказ: рэзкі скачок ад нервова напружанага да спакойнага жыцця, што было абумоўлена прыходам у Магільнае савецкіх воінаў. Адаптацыя да такіх карэнных перамен прайшла ў мяне не так, як гэта трэба было. Па гэтай прычыне я на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў зведваў сур'ёзныя праблемы са здароўем: паступова, няўхільна адбываўся стэноз прыўратніка, спажытая страва з вялікай цяжкасцю праходзіла са стрававода ў страўнік. Даволі часта з яго самаадвольна выдзялялася нейкая вадкасць (да 100 і больш грамаў), якую даводзілася сплёўваць. Усё гэта не магло не адбіцца на маім фізічным развіцці: звычайна да нормы не набіраў 10–15 кілаграмаў вагі. Толькі ашчаднае стаўленне да падбору яды, поўнае ігнараванне спіртным дазволілі мне жыць на белым свеце. І ўсё ж ад хірургічнага ўмяшання не ўхіліўся. Правялі яго ўвосень 1969 года, толькі пасля чаго я перастаў адчуваць на сабе цяжкія наступствы вайны і акупацыі.



## 6. АКУПАЦЫЯ ЗАКОНЧЫЛАСЯ — ВАЙНА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

### Савецкі ДОТ вядзе агонь па чырвонаармейцах

І партызаны, і чырвонаармейцы папярэджвалі нас пра верагоднасць лакальнага маштабу сутычак з групамі нямецкіх салдатаў, што ўпотай прабіваліся на захад. Рэкамендавалі часова ўстрымацца ад наведвання лясоў, таму што менавіта праз іх тэрыторыю больш за ўсё рухалася немцаў. Трэба аддаць належнае апошнім за іх дасканалае знаёмства з мясцовай тапаграфіяй. Ведалі нават, у якім месцы Нёман можна перайсці ўброд. Такое не раз адбывалася на вачах у жыхароў Магільнага. Выпадкаў нападу, знішчэння іх нямецкімі садатамі не назіралася, што, аднак, не з'яўлялася правілам, калі ім даводзілася сутыкацца з чырвонаармейцамі. Калі спрыяла сітуацыя, немцы першымі ўвязваліся ў бой.

Па часе рух савецкіх войскаў праз Магільнае на захад дужа расцягнуўся. Тое ж самае можна сказаць і пра невялікія групы немцаў. Можа, на дзясяты дзень, а то і пазней пасля першага з'яўлення чырвонаармейцаў на вуліцах Магільнага сюды прыйшоў з вёскі Луніна (хату яго за два-тры гады да вызвалення Заходняй Беларусі разабралі і частку перавезлі ў Магільнае) Тамаш Жыгалковіч і паведаміў чырвонаармейцам, што ў размешчаным паблізу яе ДОТе знаходзяцца немцы. Далі каманду аднаму са ўзводаў рыхтавацца да паходу. На зборы пайшло не больш за дзесяць хвілін. За ўсім гэтым, не адводзячы вачэй, сачылі і дарослыя, і дзеці. Не абышлося і без мяне. Ад дарослых чуў, што салдаты гэтага ўзвода гавораць на вельмі ўжо блізкай да беларускай мове. Узводу дадалі і невысокага росту, але вельмі рухавую медсястру. На просьбу дзяцей дазволіць і ім ісці за салдатамі, каб паглядзець, як яны будуць выкурваць фрыцаў з ДОТа, было катэгарычна заяўлена: «Нет!» А вось з жыхароў Луніна, якое пачалі аднаўляць у гады акупацыі, некаторыя па самых розных прычынах знаходзіліся паблізу ДОТа і сталі выпадковымі сведкамі таго, што тут у той час адбылося. А адбылося наступнае.

Прыкладна праз гадзіну салдаты, трохі расцягнуўшыся, наблізіліся да ДОТа. Закончылася лясная сцежка, і яны пачалі выходзіць на паляну. Ад іх на добрыя 100 метраў адстала медсястра: моцна намуляла ногі. Як толькі з лесу на паляну выйшаў апошні чырвонаармеец і да ДОТа заставалася якіх-небудзь 15–20 метраў, адтуль дружна застракаталі аўтаматы. Хто разлічваў уратавацца ўцёкам у лес, трапіў пад пулю снайпера. Увесь узвод уклалі на той злашчаснай паляне. Жывой засталася, дзякуючы намуляным да мазалёў нагам, толькі медсястра. Пачуўшы шквальную стральбу, адразу спынілася, а затым праз пэўны час, заліваючыся горкімі слязамі, рушыла назад у Магільнае. Пасля такой удалай — можа ўжо апошняй на беларускай зямлі — баявой аперацыі гэтая група немцаў пакінула ДОТ і

праз лунінскі брод перайшла на правы бок Нёмана. Пагоні, каб адпомсціць ім за смерць чырвонаармейцаў, ніхто не збіраўся арганізоўваць.

Вось такая трагічная недарэчнасць адбылася ў сярэдзіне лета 1944 года ў раёне аднаго з савецкіх ДОТаў. Будавалі яго, як і два астатнія, у радыусе да пяці кіламетраў ад Магільнага за пару гадоў да таго, як у верасні 1939 года СССР увёў свае войскі ў Польшчу. У тых працах удзельнічалі і будаўнікі з Украіны. Іх спевы па вечарах у Магільным надоўга запомніліся людзям, а некаторыя з украінскіх песень нават прыжыліся ў іх. ДОТы будаваліся ў абаронча выгадных мэтах, хаця ў адпаведнасці з планамі савецкай ваеннай стратэгіі на нашай тэрыторыі выключаліся баі з ворагам. Тая стратэгія не пацвердзілася ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Ён ступіў на савецкую зямлю, але з тых ДОТаў не ўдалося забіць аніводнага немца з-за панічнага адступлення Чырвонай Арміі. Затое вораг не ўпусціў шанца і ўлажыў з савецкага ДОТа цэлы ўзвод чырвонаармейцаў. Магіляне, што на розных войнах уволю панюхаліся пораху, прычыны той трагедыі тлумачылі адсутнасцю ўсялякай падрыхтоўкі салдатаў да вядзення бою ў падобнай сітуацыі. І з такім тлумачэннем нельга не пагадзіцца. На штурм ДОТа паслалі зусім неабучаных саладатаў, толькі нядаўна ўзятых на фронт з беларускіх вёсак і гарадоў.

## У бой ідуць не толькі касінеры

Дзён з дзесяць пасля вызвалення Магільнага ад акупантаў і аднаўлення ў ім савецкай улады мясцовым жыхарам дазволілі трымаць у сябе агнястрэльную зброю (пераважна трафейную), браць яе з сабою на працу ў мэтах самаабароны. У мяне, да прыкладу, была бельгійская вінтоўка. Нават на параўнальна вялікай адлегласці з першага стрэлу трапляў у цэль. Па немцах не даводзілася страляць, хаця некаторыя з магілян, трохі старэйшыя па ўзросце за мяне, адзін раз удзельнічалі ў баявой аперацыі, пра што будзе сказана трохі пазней.

І з пачатку ліпеня 1944 года асноўным месцам працы быў сенакос, але ўжо на Вялікім лузе за пяць кіламетраў ад Магільнага. Знаходзіцца ён на левым беразе Нёмана. У раёне гэтага лугу таксама быў брод, і надзіва невялікія групы немцаў пры адступленні без усялякага павадыра ведалі, як выйсці на яго. Пры гэтым вельмі часта добра стоптвалі на вачах у людзей няскошаную траву, законна выклікаючы ў іх бурную адмоўную рэакцыю. Не раз здаралася такое, што яны з косамі і граблямі беглі ў бок немцаў, пагражаючы ім жорсткай расправай. Тыя ж не звярталі на гэта аніякай увагі і стараліся хутчэй перабрацца на правы бок Нёмана. А адзін раз здарылася і такое, што ў адказ на пагрозы косамі і граблямі ўчыніць расправу немцы адгукнуліся аўтаматнай чаргой над галовамі людзей, што добра ацвярэзіла іх. Нельга ж з ворагам жартаваць, у якой бы пройгрышнай сітуацыі ён ні апынуўся.



І ўсё ж аднойчы была нагода ў мужчынскай паловы магілян больш салідна праявіць сябе ў барацьбе з ворагам, прычым не з косамі і граблямі ў руках, а з сапраўднай баявой зброяй. Збіраючы ў час перапынку на абед ягады, група дзяцей убачыла, што праз праём ад вакна ў недабудаваным зрубе тоненькім струменьчыкам выходзіць дымок. Ціхенька падкраўшыся да зруба, яны праз шчыліну заўважылі, што ўнутры яго на зямлі спяць пяць немцаў, а шосты падпякае на маленькім агеньчыку недаспелыя жытнёвыя каласкі. Без усякага шуму дзеці адышлі ад зруба і хутка пабеглі дакласці пра бачанае дарослым. На шчасце, сярод іх быў добра спрактыкаваны ўдзелам у праведзеных партызанамі аперацыях Юрка Дубіцкі. На фронт не ўзялі з-за благога здароўя. Каб не паўтарыць зусім нядаўняй памылкі чырвонаармейцаў са «штурмам» ДОТа, ён да самых дробязяў прадумаў, як арганізаваць напад на зруб. Самым надзейным хлопцам загадаў схавацца ў такім месцы, адкуль будзе добра відаць, як немцы пасля стрэлаў над дахам зруба кінуцца ўцякаць у лес. На адкрытую ж паляну яны не пабягуць. Дубіцкі не памыліўся. Немцы і сапраўды — хто са зброяй, а хто і без яе — кінуліся наўцёкі ў лес, трапіўшы пад агонь схаваных у кустах хлопцаў. Мала каму ўдалося адбегчы нават на дзесяць крокаў ад зруба. За якія-небудзь тры-пяць хвілін бою касцы, замяніўшы сваю асноўную прыладу працы на вінтоўкі і карабіны, улажылі шэсць немцаў.

У гэтыя ж хвіліны асноўныя сілы касцоў і грабцоў займаліся мірнай працай. Сярод іх давялося быць і мне, на што мелася важкая прычына. Атрыманы ад чырвонаармейцаў конь у абмен на нашага аказаўся вельмі агрэсіўным: пускаў у ход і капыты і зубы. Я не ўсцярогся і атрымаў ад яго ўдар капытом па падбародку. Давялося ў абедзенны час вярнуцца дамоў. Заехаў да фельчара Васількі Дубіцкага. Ён прызнаў, што капытом парушана толькі мяккая тканіна падбародка, а косці не раструшчаны. Ушчыльную прытуліў адну да адной верхнюю і ніжнюю палавінку мяккай тканіны падбародка, памазаў іх ёдам і наклаў павязку, папярэдзіўшы, што яе трэба зняць праз тры дні. Гэта ўжо зрабілі мой дзядзька Валодзя, які, закончыўшы партызанку, працягваў па розных прычынах наведваць Магільнае. Яны цалкам пацвердзілі дыягназ і пагадзіліся з рэкамендацыямі Васількі Дубіцкага. І ўсё ж я сябе кепска адчуваў, працаваў на лузе напаўсілы і таму не ўдзельнічаў у аперацыі па знішчэнні немцаў.

Пасля ўдалага бою пачалі забіраць у забітых немцаў у першую чаргу зброю, а затым усё тое, што мела якую-небудзь каштоўнасць. Займаліся гэтым толькі ўдзельнікі бою. Трупы яны пакінулі ляжаць на месцы, а самі пайшлі на працу. Забітыя немцы ляжалі недалёка ад дарогі, па якой магіляне ездзілі на працу і дамоў. Амаль кожны з іх пажадаў прайсціся каля забітых. Ад сваёй мамы я пачуў такія словы:

— А кожнага ж з іх чакаюць дома маці з бацькам, жонка з дзецьмі, браты і сёстры.

Усе, хто чуў гэтыя словы, пагадзіліся з імі. Вялікай радасці ад бачанага не заўважалася на тварах людзей, нягледзячы на перанесенае ў гады акупацыі гора.

Хоць дамоў вярнуліся позна ўвечары, старшыні сельскага савета даклалі пра вынікі бою. Ён паведаміў пра іх вуздзенскаму начальству. Рэакцыя апошняга была імгненнай. Калі на наступны дзень ехалі ў Вялікі луг, трупаў забітых фрыцаў ужо не было на месцы. З усёй строгасцю падышло тое начальства да адабрання трафеяў у герояў бою. Вярнулі ўсе, акрамя Толі Дзесюкевіча (па-вулічнаму Букавага), бо вельмі ж прыгожы яму дастаўся кішэнны гадзіннік. Здаў толькі на трэці дзень, пасля пагрозы строга пакараць за непаслушэнства. Хто ж на справе завалодаў тымі трафеямі, заставалася толькі гадаць.

## Першыя весткі ад магілян-франтавікоў

У гады акупацыі ў жыхароў Магільнага амаль цалкам адсутнічала ўсялякая перапіска з блізкім і далёкім светам. Выгнанне акупантаў ізноў аднавіла яе. Весткам ад сваіх родных з фронту людзі так былі радыя, што пісьмы ад іх зачытвалі да дзірак. Паколькі далёка не ўсе былі пісьменнымі, не маглі прачытаць пісьмо, прасілі пазнаёміць з яго тэкстам кагосьці з адукаваных людзей. Рад быў, калі з такой просьбаю хтосьці звяртаўся і да мяне. Амаль для зместу кожнага пісьма былі характэрныя высокі савецкі ваенны патрыятызм, цвёрдая ўпэўненасць у хуткай перамозе над ворагам. Дваякае пачуццё ад азнаямлення з тэкстам атрыманага пісьма ўзнікла ў Тані Лыч (па-вулічнаму Давыдкава). Тое, што яе муж Іван жывы, — радавала, а вось што ён стварыў у савецкім тыле (у Архангельскай ці Мурманскай абласцях) новую сям’ю, мае ад другой жонкі двое дзяцей — прывяло ў роспач. Усяму гэтаму папярэднічала цяжкае раненне: у ваенным шпіталі ампутавалі нагу. Увесь час лячэння знаходзіўся пад пільным наглядам клапатлівай медсястры, якая так пакахала свайго «падапечнага», што не пажадала развітацца з ім і пасля выпіскі са шпіталя. Абое шчаслівыя пабраліся шлюбам. Іван меў падставы апраўдваць свой учынак перад першай сям’ёй (меў пяць дзяцей) вялікімі сумненнямі, што яна магла застацца ў жывых у цяжкіх умовах нямецкай акупацыі. Калі ж яе панаванне скончылася на нашай зямлі, не стрываў і выслаў пісьмо на адрас першай жонкі. Праўда, ніякай надзеі вяртання да яе не выказваў, і такога паміж імі не адбылося. Таня Лыч у нялёгкіх умовах вайны і пасляваеннага часу адна гадавала пяцярых дзяцей. Аднаго з іх, самага старэйшага з сыноў Юру страціла: па невядомых прычынах памёр у дзесяцігадовым узросце, будучы нанятым за пастуха гаспадаром аднаго з хутароў на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Лёс Івана Лыча невядомы, хаця ў Магільным была ў яго немалая радня. Не выключана, што сёння яго нашчадкі носяць дзесьці ў паўночным рэгіёне Расійскай Федэрацыі тыповае беларускае прозвішча Лыч з магільнянскімі каранямі.



## У мястэчка завітаў франтавік-зямляк

З тых, каго на пачатку вайны мабілізавалі ў войска, першым з’явіўся ў Магільным яшчэ ў час вайны наш сусед Сяргей Лыч. Праўда, за два-тры гады да вайны ён стварыў новую сям’ю і жыў амаль у канцы мястэчка, але нас лічыў за суседзяў і таму завітаў у хату. Даведаўшыся, што яе гаспадара ўжо няма ў жывых, наш госць па-сапраўднаму праслязіўся. І яму было за што праслязіцца. Як малады даваенны камуніст Сяргей Лыч лічыў за свой партыйны абавязак усялякімі сродкамі дапамагаць людзям пазбаўляцца ад шкодных перажыткаў дарэвалюцыйнага часу. Калі дзесьці ў 1939 ці 1940 годзе мы з татам павольна з-за іх хворых ног ішлі ў пякарню пілаваць дровы, нам насустрач трапіў дзядзька Сяргей.

— Міхась, — бадзёра прамовіў ён. — Чаго гэта ты так марудна, як не сваімі нагамі, ідзеш на працу?

— А хто гэта спяшаецца на паншчыну? — быў дадзены адказ.

Гэтых слоў сталася дастатковым для Сяргея, каб яму, маладому камуністу, зрабіць прынцыповую бальшавіцкую выснову. Нічога не кажучы, ён хуценька пакінуў нас і падаўся ў сельскі савет, каб пачутае ад свайго сябра дзяцінства, суседа выкласці на паперу. Не паспелі мы і з паўгадзіны папрацаваць на дрывяным двары хлебапякарні, як па тату прыйшоў пасланец з сельскага савета. Тут іх чакалі старшыня і Сяргей. Як толькі тата пачалі не без страху гаварыць штосьці ў саё апраўданне, у памяшканне сельскага савета без стуку ўвайшоў вельмі ўплывовы сярод местачкоўцаў дырэктар няпоўнай сярэдняй школы Юк (імя не памятаю). Даведаўшыся са слоў Сяргея, у чым тут сутнасць справы, стаў сарамаціць яго за такі неапраўданы данос на зусім не вінаватага чалавека. Даносчык, як успаміналі, тады нічога не сказаў у сваё апраўданне, забраў сваю пісаніну назад і першым выйшаў з памяшкання сельскага савета. Дырэктар школы настойліва рэкамендаваў старшыні не караць майго тату, спасылаючыся на тое, што ён хворы, мае пяць дзяцей, з якіх трое вучацца ў школе і вучацца добра. Асабліва пахваліў мяне. Тату за «паншчыну» і сапраўды не пакаралі, а вось з Сяргеем у іх ужо не было аніякіх кантактаў.

Сяргей пра сваю віну перад маім татам не забываўся і ў гады вайны, знаходзячыся на вялікай далечыні ад Магільнага. Таму, завітаўшы на радзіму ў канцы лета 1944 года, ён пажадаў у першую чаргу сустрэцца з Міхасём, каб за сталом папрасіць за доўгі язык прабачэння. Яго давялося выказаць маёй маме і мне як непасрэднаму сведку таго непрыемнага дыялога двух суседзяў, амаль аднагодкаў. Мы даравалі Сяргею і па-добраму развіталіся, чаму ён быў вельмі рады. Тая сустрэча з дзядзькам Сяргеем у мяне не была апошняй, хаця пасля вайны яны не жылі ў Магільным. Праз два-тры гады сустрэліся ў раёне станцыі Мінск-Таварная ў сталоўцы, якой ён загадваў. Даведаўшыся, што я студэнт і, значыцца, чалавек бедны, прасіў часцей наведваць гэтую сталоўку, дзе буду харчавацца за паўцаны ці бясплатна. Прапанова прываблівала, і я некалькі разоў, але не больш

за пяць, выкарыстаў яе, палічыўшы, што гэтага дастаткова, каб зняць з дзядзькі Сяргея ўсялякую віну перад маім татам.

### Сеялі індывідуальна — жалі калгасам

Працы на сенажаці істотна зацягнуліся, на што былі свае прычыны. Галоўная з іх, несумненна, — гэта ўзяцце ў армію мужчын самых працаздольных узростаў. З косамі на лузе ўвіхаліся пераважна падлеткі, мужчыны сталага веку, а таксама некаторыя жанчыны. Не было роўных сярод іх нашай суседцы Парасцы Лыч (па-вулічнаму Шамракова). Штодзённа яна скошвала сярэднюю мужчынскую норму.

Заставалася мо на два-тры дні працы ў Вялікім лузе. Як ні ў чым не бывала, людзі позна ўвечары вярталіся дамоў. І іх ужо пры самым уездзе ў Магільнае сустрэлі нярадаснай весткай: «А ў нас аднавілі калгас». Мала каму хацелася верыць у гэта. Але яно і на самай справе было так.

Раённае начальства Вузды, укамплектаванае адразу пасля вызвалення амаль цалкам нядаўнімі партызанамі, добра ведала пра антыкалгасныя настроі мясцовага насельніцтва. Таму паўторную калектывізацыю праводзілі ў абедзенны перапынак, калі дома заставаліся дзеці, старыя і зусім не звязаныя з працай у грамадскай сельскагаспадарчай вытворчасці людзі. Апошніх у Магільным, як мястэчку, было нямала. Яны і вырашылі, быць ці не быць калгасу.

Рэакцыя на аднаўленне калгаса была крайне адмоўнай, хаця і насіў ён імя бацькі ўсіх савецкіх народаў Сталіна. Асаблівую незадаволенасць выказвалі самыя заможныя, найбольш руплівыя гаспадары. Назаўтра проста без усялякай агітацыі людзі ўзялі і не пайшлі на працу, хаця сенажаць вельмі прыспешвала іх. На кожнай вуліцы мястэчка ўтварылася па некалькі натоўпаў, дзе адзінай тэмай было — аднаўленне калгаса. Невядома, колькі дзён цягнуўся б той стыхійны пратэст, калі б не ўмяшаліся сельсавецкае начальства і яго актыў. Дзейнічалі ж яны даволі актыўна, бо за іх спіной стаяў райцэнтр Вузда. Думкі пачалі раздвойвацца. За калгас сталі выступаць галоўным чынам сем'і, дзе хтосьці з'яўляўся камуністам ці членам ужо створанай у мястэчку камсамольскай арганізацыі.

На другі дзень на сенажаць з'явілася добрая палова агульнай колькасці дарослых жыхароў. Сярод іх не было відаць толькі самых заможных гаспадароў: падаліся ў вёскі колішняй Заходняй Беларусі і там збывалі за бясцэнак сваіх коней разам з вупражам і павозкамі, сельскагаспадарчы інвентар. Калі пазней усё гэта астатнія людзі здавалі ў калгас, багатыя гаспадары толькі разводзілі рукамі, тлумачачы, што каня з вупражжу і павозкай, сельгасінвентар бралі ў «заходнікаў» у арэнду. Якога-небудзь пакарання яны не панеслі. Наша сям'я здала ў калгас усё, што ад яе патрабавалася. Да атрыманага ад чырвонаармейцаў у абмен каня ў мяне асаблівай «сімпатыі» не было з-за пашкоджанага па яго віне майго падбародка.



Мясцовае начальства загадала жніво праводзіць калектыўна і звозіць снапы ў калгасныя гумны, якіх не закранулі вайна і акупацыя. Балела на сэрцы людзей, калі назіралі, як з іх загона падвода за падводай вязуць снапы на калгасны двор. Не раз даводзілася мне бачыць слёзы на твары мамы. Я трымаўся стойка, бо лічыў, што працую на фронт, набліжаю перамогу над ворагам. Згадваючы недалёкія перадваенныя гады, калі на працадні давалі толькі мізэрную колькасць выраблёнай прадукцыі, людзі вырашылі прадухіліць свае сем'і ад голаду. Карыстаючыся адсутнасцю пільнага нагляду, яны непрыкметна ад іншых абівалі аб кола воза ці якога-небудзь дрэва снапы з найбольш спелымі і тоўстымі каласамі, пакідаючы іх столькі, каб не выклікаць падазрэння. Атрыманае такім чынам збожжа дзеці торбачкамі насілі дамоў. Мы такой антыкалгаснай практыкай займаліся ў самых мінімальных памерах, бо лічылі, што багатыя запасы збожжа папярэдняга сельскагаспадарчага года не прывядуць да голаду. Да таго ж абяцалі, паколькі ў нас сядзіба пры доме займала толькі крыху больш за дзесяць сотак, выдзеліць за кошт калгаса 20 сотак засаджанага бульбай поля. Максімальна бралі прыродныя дары ў лесе. Калі мая старэйшая сястра Ліда працавала на калгасным полі, Ада з Генем вандравалі па лесе, прычым у ролі вядучага выступаў апошні: пайшоў жа дзясяты год.

### Магільнае залівaецца слязамі

Калі ў толькі што вызваленым ад акупантаў Магільным бралі мужчын на фронт, бадай, не было праліта аніводнай слязінкі, паколькі людзі верылі ў лёгкую і хуткую перамогу над ворагам. З асаблівай радасцю пакідала родны дом моладзь. А як ёй зайздросцілі хлопцы 1927 года нараджэння, на якіх якраз спынілася мабілізацыя ў войска! Я не раз напаўжартачкі пытаўся ў мамы:

— Чаму Вы ў 1927 годзе выпрасілі ў бусла дачку Ліду, а не сына Лёню?

— А вось так, сынок, нам з бацькам захацелася. Не трэба перажываць, бо ты ж не адзін з хлопцаў, якія не ўзятыя на фронт і працуюць у калгасе.

Не мінула і месяца пасля радаснай незабыўнай сустрэчы магілян з чырвонаармейцамі, як у мястэчка сталі прыходзіць сумныя весткі пра гібель каго-небудзь з яго жыхароў. Вельмі багатым на смерць пасланых на фронт магілян стаўся жнівень.

— Што ж гэта такое? — абураліся ўдзельнікі Першай і Грамадзянскай войнаў. — Выходзіць, нашых сыноў і з месяц не павучылі, як трэба ваяваць з ворагам. Вунь як нас муштравалі ў царскай арміі да таго, як пасланць у бой.

У Чырвонай Арміі праігнаравалі такую разумную практыку. Вялікай памылкай трэба прызнаць залічэнне ў аддзяленне, узвод, роту, батальён… мужчын адной і той жа мясцовасці, бо, у выпадку няўдалых баёў, вёска ці мястэчка маглі страціць, бадай, усіх сваіх мужчын. Блізняты Алёшка і Мішка Барысевічы з Магільнага служылі нават у адным аддзяленні, і абодва загінулі ў інтэрвале часу не больш за дзве хвіліны.

Масавая гібель магілян на фронце ператварыла нашае мястэчка ў нешта падобнае на калектыўную аплаквальню. Амаль не спыняўся плач у хатах, у якіх за той пякельны месяц загінула на фронце па некалькі чалавек. Акрамя згаданых вышэй Алёшкі і Мішкі Барысевічаў з поля бою не вярнуліся родныя браты Валодзя, Ванька і Сярожа Матусевічы, Жэня і Нінел (штучна прыдуманае бацькам-партызанам Грамадзянскай вайны Цімохам Туміловічам імя пры адваротным чытанні літар у слове Ленін) Туміловічы.

Лілі магіляне слёзы і ў полі ў час жніва. Варта было толькі каму-небудзь з жанчын загаласіць, як яе тут жа падхоплівалі іншыя. Найчасцей плакалі жнеі, калі абедалі. У час масавага галашэння не маглі ўстрымацца ад слёз і нашая мама, бо пасля вызвалення ад акупантаў не прыйшло аніводнай звесткі пра брата Івана, які ўступіў у барацьбу з ворагам у першыя дні вайны. А не прыходзілі звесткі таму, бо, як высветлілася пазней, загінуў на роднай беларускай зямлі падчас летняй наступальнай аперацыі 1944 года «Баграціён».

Не баюся памыліцца такім сцвярджэннем: самым трагічным, самым цяжкім часам для магілян быў канец ліпеня — жнівень 1944 года, бо такіх людскіх стратаў, як за гэтыя дні, яны не панеслі за ўсе гады акупацыі. Рэаліі тагачаснага жыцця карэнным чынам змянілі стаўленне хлопцаў 1927 года нараджэння да адпраўкі на фронт. Калі па розных прычынах іх выклікаў Вуздзенскі райваенкамат, ва ўсіх апускаліся галовы, а родныя са слязамі на вачах праводзілі сваіх сыноў у дарогу. Ні жартам, ні ўсур’ёз я ўжо больш на пытаўся ў мамы, чаму так позна бусел прынёс мяне на свет. Не загінуўшы ў акупацыю, натуральна, моцна хацелася жыць, калі прыйшоў канец гэтай навале.

**Усё для фронту, усё для перамогі над ворагам!**

Для адпраўкі на фронт у мяне заставалася тры гады, але я жыў і працаваў толькі дзеля яго. Здрадзіў яму толькі адзін раз, калі ў канцы лета 1944 года мяне ўгаворвалі ехаць працаваць на абарончыя заводы Урала, а я, як толькі мог, упіраўся, будучы пакліка        ным у памяшканне сельскага савета. Нікольк не паўплывалі словы вярбоўшчыка, што я сваімі ўласнымі рукамі буду вырабляць патрэбныя дэталі для танкаў, якія затым будуць граміць ворага, што такая праца добра аплачваецца і таму нават змагу матэрыяльна дапамагаць сваёй сям’і. Супраць майго ад’езду на Урал выступалі і мама. Не паехаў. А вось трое маіх аднагодкаў далі згоду, але праз паўгода паўцякалі з-за цяжкіх умоў працы, нізкіх заробкаў і іншых прычын. Уцекачоў не судзілі, бо ім не было і па 16 гадоў, і да таго ж яны пасля вяртання ў Беларусь адразу ўладкаваліся на працу ў будаўнічых арганізацыях Мінска.



Мая праца на карысць фронту найбольш яскрава выявілася ў падвозцы сена з Магільнага на станцыю Койданава (алегласць паміж імі каля 30 км). Вазілі сена з уткнутымі зверху ў яго невялічкімі транспарантамі з надпісамі: «Усё для фронту!» ці «Усё для перамогі!» Гэтыя словы пісаліся толькі па-беларуску, бо тады наша мова абслугоўвала ўсе сферы грамадскага жыцця ў сельскай мясцовасці. Запомніўся патрыятычны выступ на гэтай мове перад калгаснікамі вернутага з фронту на працу ў школу маладога настаўніка Алёшы Дземідовіча. Ён пераканаўча тлумачыў прысутным пра вялікае значэнне самаадданай працы калгаснікаў для перамогі над фашысцкай Германіяй, хаця яго бацькі не належалі да іх. Затое, калі дзесьці ў сярэдзіне 60-х гадоў я прыехаў у Магільнае ў адпачынак з рускамоўнага Мінска, дык Алёша Дземідовіч сумесна з настаўніцай гісторыі мясцовай школы Маінай Нячаевай у штыкі сустрэлі маё беларускамоўе, абгрунтоўваючы гэта тым, што ў СССР адбываецца заканамерны працэс збліжэння і зліцця культур і моваў савецкіх народаў. Я не стаў ім пярэчыць, але пасля развітання ніяк не мог адысці ад думкі, у якіх ненадзейных руках знаходзіцца лёс магільнянскіх дзяцей. Ва ўсе ж закончаныя мною навучальныя гады перад вайной, у першы (ён жа і апошні) навучальны год у час акупацыі нас заўжды выхоўвалі настаўнікі цвёрдай нацыянальнай арыентацыі, і мы любілі, жылі ўсім беларускім, не запабягаючы перад чужым, суседскім. На вялікі жаль, у сярэдзіне 60-х гадоў такога ўжо не назіралася.

Для дастаўкі сена ў Койданава брыгадзір калгаса выдзяляў самых здаровых коней, бо трэба ж было з грузам і без яго прайсці 60 кіламетраў. Але атрыманыя ў абмен ад чырвонаармейцаў коні нярэдка падводзілі, бо былі загнаныя, надарваныя. З выгляду быццам бы нічога конь, а пачнеш араць, дык возьме і паваліцца на раллю. Аднойчы і мне моцна не пашанцавала з такім канём. Адвезці сена ў Койданава ў яго хапіла сілы. Але калі позна ўвечары з пустым возам вяртаўся дамоў, конь, мінуўшы Негарэлае, раптам паваліўся на дарозе. Я разгубіўся і мо толькі праз дзесяць хвілінаў пачаў адпускаць супоню хамута, здымаць падсядзёлак. Дзесьці праз паўгадзіны пасля таго здарэння пачуў ляскат колаў па дарозе. Якое шчасце! Ехаў з нашай быгады вазак мой цёзка і па імені, і па прозвішчы Лёня Лыч. На душы стала весялей, бо ён быў дужа кемлівым хлопцам. Разам мы ўжо цалкам вызвалілі каня з аглобляў. Ён нават зрабіў некалькі канвульсійных рухаў заднімі нагамі, але, каб устаць на ногі, у яго неставала сілы. Затым мы заўважылі нешта зусім незвычайнае ў яго паводзінах і вырашылі, што конь сканаў. Такі «дыягназ» неўзабаве пацвердзіў і мужчына сталага веку, прыпыніўшыся з возам каля нас.

— Хлопцы! Капут вашаму каню. Пакідайце яго на дарозе, а заўтра хтосьці з негарэльцаў знойдзе яму месца.

Мы так і зрабілі.Мой воз прычапілі да воза з запрэжаным канём. Ехаць давялося вельмі павольна. На калгасным двары з’явіліся ў час, калі

брыгадзір Васіль Лыч размяркоўваў хлопцаў на працу. Паслухаўшы наш аповед пра здарэнне, сказаў мне:

— Не хвалюйся, Лёня. За падзенне каня ніякай адказнасці не панясеш. Выберам другога, больш надзейнага. А сёння абодва ідзіце дамоў, адпачывайце.

Брыгадзір слова стрымаў. На новым кані я зрабіў колькі рэйсаў у Койданава і не меў ніводнага непрыемнага здарэння.

Хаця ў полі заставалася яшчэ штосьці нязжатым, нязвезеным у гумны, людзі пачалі раіцца, як арганізаваць дажынкі. Гэтае свята вельмі папулярным было ў даваенны час. Усе тры брыгады калгаса адзначалі яго, дзеля чаго кожнай з іх выдзялялася прасторнае гумно. На гэты раз у ім патрэбы не было, бо арганізатары дажынак ведалі, што на свята не пойдуць тыя, у каго пазабіваныя на фронце гаспадары, дзеці. Дажынкі адзначаліся ў хаце. Выдаткі на гэта ўзялі на сябе людзі, бо ў калгаса, акрамя коней, нічога не было са скаціны. Адзіным модным піццём была самагонка, выробленая, як сцвярджалася, яшчэ да вызвалення Магільнага ад акупантаў. Падлеткаў майго ўзросту ў тую хату не пусцілі, але паабяцалі нешта арганізаваць, калі застолле закончаць дарослыя.

Чарка-другая самагонкі адыграла сваю ролю. На хвіліну забыўшыся пра вялікае гора з-за стратаў магілян на фронце, людзі сталі ўгаворваць брыгадзіра запрасіць на святочную вячэру гарманіста. І ён з’явіўся. Пачаліся танцы. Бальшыня жанчын гуляла адна з адной. Нам нельга было ўстрымацца, і мы кінуліся да вокнаў. Гралі вальс «Амурскія хвалі». На мае вочы адразу трапілі мама ў пары з брыгадзірам. Я ўпершыню ўбачыў маму ў танцы. Круціліся вельмі лёгка, прыгожа адкінуўшы трохі назад галаву. На твары раз-пораз з’яўлялася ледзь прыкметная ўсмешка. Калі замоўк гармонік, мама, здавалася, без усялякай стомы накіраваліся да свайго месца за сталом. Не абышлося ў той вечар і без «полькі». Дажыншчыкі, сярод іх і мая мама, як мне падалося, надзвычай лёгка круціліся. Проста не верылася, што ўсё гэта адбываецца пасля цяжкага працоўнага дня.

Пад той час і ў многіх хлопцаў майго ўзросту, ужо не кажучы пра дзяўчат, былі пэўныя набыткі ў танцах. Неяк хапала сярод моладзі мястэчка і музыкаў. Месцам для танцаў служыў сутык дзвюх вуліц Кавалёўскай і Нясвіжскай. Удзень па ім ездзілі на падводах, хадзілі каровы, а пад вечар яно ператваралася ў нешта падобнае на танцпляцоўку і так утрамбоўвалася нашымі босымі нагамі, што, здавалася, і пыл у час танцаў не падымаўся ўверх. За якія-небудзь пяць метраў ад гэтага месца цёк у Нёман ручай, са смакам вады якога не можа параўняцца аніводная з сённяшніх марак пітной вады. За месяц выбранае намі месца для танцаў ператварылася ў сапраўдны ток, на якім можна было б цапамі малаціць снапы. Некаторыя вазакі нават свядома аб’язджалі гэтае месца, каб не папсаваць нам «танцпляцоўку». Гэтак жа сама паводзілі сябе і пастухі, гонячы статак кароў на пашу ці з пашы. Здзіўляе і такое, што тыя танцы ладзіліся пад самымі вокнамі хаты дзядзькі Язэпа (па-вулічнаму Борбіны), і ён ні разочку не паспрабаваў забараніць нам весяліцца, прычым часта да поўначы.



Завадатарам тых вулічных танцаў быў мой аднагодак калгаснік Паша Туміловіч. Як і ўсе мы, стомлены ад непасільнай для яго гадоў працы, ён амаль штовечар з хлопцамі і дзяўчатамі Нясвіжскай вуліцы прыходзіў на «танцпляцоўку». Люба было назіраць, як ён танцуе вальс то з адной, то з другой напарніцай. Не з нашага мястэчка чалавек мог бы падумаць, што Паша дзесьці прайшоў адпаведную школу танца. Паша быў першым і ў працы. У 60–80-я гады ён лічыўся адным з перадавых механізатараў раёна. Меў шмат розных урадавых узнагарод. А вось пасля выхаду на пенсію доўга не давялося пажыць. Відаць, праз свае дыхальныя шляхі нямала прапусціў выхлапных газаў трактара і самаходнага камбайна.

Неяк так сталася ў тагачасным яшчэ ваенным жыцці, што нас калгас па забяспечанасці вытворчасці рабочымі рукамі, цяглавай сілай, сельскагаспадарчым інвентаром быў адным з самых моцных, прычым не толькі ў межах Вуздзенскага раёна. Пра гэта добра ведалі нават у Мінскай вобласці, таму створаную з хлопцаў нашага калгаса брыгаду паслалі ў канцы лета 1944 года ў некаторыя вёскі Капыльскага раёна. Сярод тых пасланцоў быў і Ігар Вус. Едучы на працу ў суседні раён, ён не забыўся ўзяць з сабой свой любімы музычны інструмент — мандаліну, ігрой на якой проста прафесійна валодаў. Нягледзячы на вялікую стомленасць пад канец працоўнага дня, ён вечарам выходзіў на вуліцу з мандалінай у руках, каб весяліць мясцовую моладзь. Яна моцна палюбіла магільнянскага музыканта і, калі ён ад’язджаў дахаты, наладзіла для яго запамінальныя провады. Усе без выключэння магільнянскія хлопцы добра папрацавалі на Капыльшчыне, хаця заробак ад гэтага мелі проста мізэрны. Ігара Вуса, як выдатнага аратага, паслалі ў канцы 1944 года на злёт маладых перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Мясцовыя ўлады знайшлі «адпаведную» жаночаму полу працу для маёй 17-гадовай сястры Ліды з тым, каб і яна нешта карыснае магла рабіць дзеля перамогі над фашысцкай Германіяй. А той працай была валка з пня стогадовых сосняў у наваколлі вёскі Ніва, што прыкладна за дзесяць кіламетраў ад Магільнага. Тады асноўнай прыладай працы на валцы лесу была звычайная піла з дзвюма ручкамі. Ліда са сваёй сяброўкай такога ж самага ўзросту паспяхова спраўляліся з заданнем, хаця не мелі на месцы працы нармальных жыллёвых умоў, дрэнна харчаваліся. Усе гэтыя недахопы асабліва даваліся ў знакі ў зімовы перыяд. Яшчэ і па сёння стаіць уваччу, як я вязу з дому Лідзе абед, а яна, сагнуўшыся ў тры пагібелі, валіць з сяброўкай таўшчэразную хвою. Убачыўшы мяне, спынілі працу і адразу накінуліся на яду. Як я дома з мамаю ні ўхутвалі ў ватоўку бульбу ў мундзірах, яна за дарогу з-за моцнага марозу стала зусім халоднай. Аднак гэта нікольні не паўплывала на апетыт маладых дзяўчат-лесарубаў. Другая 14-гадовая сястра Ада з вялікай ахвотай займалася разам з сяброўкамі падборам і адпраўкай на фронт розных патрэбных салдату асабістых рэчаў. І ў сястры, відаць, усё добра атрымлівалася з гэтай справай, бо не раз сельсавецкае начальства дзякавала маме за такія старанні яе дачкі.

## Я іду вучыцца ў сёмы клас

Пры ўсёй маёй крыўдзе на савецкую ўладу, што вымусіла мяне с аднаасобніка ператварыцца ў калгасніка, я ўсё ж паступова-паступова пачаў звыкацца з калектыўнай працай на зямлі. І яшчэ невядома, ці знайшоў бы ў сабе сілы, жаданне адарвацца ад яе і пайсці вучыцца ў школу. Загітавалі, пераканалі мяне ў неабходнасці сесці за школьную парту дзядзька Валодзя. Пра мой школьны настрой неўзабаве даведаўся калгасны брыгадзір. Цяпер я ўжо працаваў у іншай брыгадзе: пераманілі перайсці добрым канём. Яе кіраўнік Раман (прозвішча не памятаю) з пасёлка Матэцкія некалькі вечароў запар заходзіў у нашую хату, каб пераканаць маму не пускаць мяне ў школу. Апошнім разам паабяцаў нават прывезці шэсць мяшкоў бульбы, г. зн. па адным на кожнага члена сям'і. Запэўніваў, што ніколі не будзем мець праблемы з прывозам з лесу дроў. Маці моцна хісталіся. Але цяпер ужо, акрамя дзядзькі Валодзі, за працяг маёй вучобы настойліва агітавала нашая кватарантка зубная* Ніна Бортнік. Да гэтай сапраўднай прыгажуні пачаў заляцацца дырэктар школы. Я стаў угаворваць і маму, і зубную, каб яны дамовіліся ад яго залічэння мяне не ў шосты клас, які я закончыў у гады акупацыі, а ў сёмы. Такое строга забаранялася ўладамі, але Ніна Бортнік абяцала сур'ёзна пагаварыць з дырэктарам. Яе ва ўсім падтрымалі мама, сказаўшы:

— Няхай толькі не паслухае, дык і нагі яго не будзе ў маёй хаце.

Паслухаў, задаўшы для праформы мне і пры кватаранцы, і пры маме некалькі пытанняў па фізіцы і хіміі. Адказам застаўся задаволены.

Пасля такой удачы гэтыя «паборніцы» школьнай адукацыі пачалі думаць пра Геню. Ішоў яму дзясяты год, а ён з-за вайны і акупацыі нават першага класа не закончыў. Ізноў пачалі прасіць дырэктара школы. А той, доўга не думаючы, тут жа ўзяўся пры ўсіх нас экзаменаваць Геню.

— Ого, — не ўстрымаўся экзаменатар, — дык ён паспяхова справіўся б і з праграмай трэцяга класа. Але гэтага рабіць не будзем. Пойдзе ў другі клас.

Заняткі 7-га класа наведвала 14 чалавек, а пазней — 12, бо два хлопцы вырашылі падацца на будоўлю ў Мінск. Вучыліся ў зусім не прыстасаванай для гэтай мэты хаце Янкеля Палонскага, уся сям'я якога загінула ўвосень 1941 года ў Вуздзенскім гета. У свой час у гэтым доме размяшчалася Магільнянская валасная ўправа. На працягу ўсяго навучальнага года адчуваўся вельмі востры дэфіцыт на падручнікі, школьныя прылады. Па шэрагу прадметаў вялі канспекты. Ледзь не нормай было адрываць нас ад вучобы і пасылаць на калгасную працу, прычым нават і ў начную змену. У апошнім выпадку часцей за ўсё даводзілася працаваць пры коннай малатарні. У адну з такіх зменаў, калі працавалі і мама, я адкрыў для сябе прыемную навіну: іх незвычайнае майстэрства сваімі размовамі

* Так у нас называлі і называюць цяпер тых, хто лечыць зубы.



падтрымліваць на працягу доўгага часу радасны настрой у калектыве, ад чаго людзі нават забываліся на стому. Мая аднакласніца Воля Цыбульская, дык нават не дачакаўшыся сваёй чаргі, прасілася ізноў пасляць яе ў начную змену, калі даведвалася, што там будуць працаваць мая мама.

Паколькі сёмы клас у Магільным быў самы старшы ў школе, мы, вучні яго, лічылі сябе ледзь не самымі адукаванымі сярод усіх жыхароў. Без нас не абыходзіліся пры арганізацыі канцэртаў мастацкай самадзейнасці, «гастроляў» па вёсках Магільнянскага сельскага савета. Па вечарах часта ладзілі дыскусіі, пераважна на ваенна-патрыятычныя тэмы ў хаце аднакласніцы Галі (прозвішча не памятаю; па-вулічнаму — Сотнікава). Аднойчы мяне моцна крытыкавалі дзяўчаты, што я на іх пытанне «Ці кінуўся б я са звязкай гранат пад варожы танк?» даў такі адказ:

— Кінуўся б толькі тады, калі б не мелася ніякага выйсця застацца ў жывых. Ратаваць жа цаной свайго жыцця жыцці іншых лічу не патрэбным, бо, можа, яны самі справяцца і без мяне са знішчэннем танка, не страціўшы аніводнага салдата. Я ж, калі не кінуся пад танк, застануся жывы, не выключана, затым знішчу не адзін, а некалькі танкаў.

Не стаялі мы ўбаку, калі трэба было сабраць і пасляць на фронт якія-небудзь вельмі патрэбныя чырвонаармейцам рэчы, хаця і самі мелі вельмі вялікую патрэбу ў іх.

Можа, ніхто, як сямікласнікі, не зрабіў так шмат па арганізацыі ў мястэчку першага святкавання дня перамогі над Германіяй. Дзяўчаты пайшлі ў лес ірваць дзеразу, а я з Колем Жыгалковічам прывезлі два вазы маладых пышных елачак і прыгожых галін са старых дрэў. Тады вельмі модным было ў час урачыстых святаў аздабляць імі ўваходы ў розныя культурна-асветніцкія, грамадскія ўстановы. Думаю, не толькі я, але і старэйшы за мяне на адзін год Коля не шкадаваў, што з-за заканчэння вайны нам не давялося са зброяй у руках паваяваць з ворагам.

З выпускнікоў нашага сёмага класа толькі Ларыса Вус засталася ў роднай вёсцы Касцяшы, нямала гадоў свайго жыцця аддаўшы працы ў мясцовай бібліятэцы. Адны з нас сталі педагогамі, другія — спецыялістамі ў самых розных сферах дзейнасці чалавека. Коля Жыгалковіч прысвяціў сябе ваеннай авіяцыі, стаў Заслужаным лётчыкам СССР, шкада толькі, што яго жыццё абарвалася трагічна і ў маладым веку. Я пасля доўгіх роздумаў, пошукаў знайшоў сябе ў навуцы. Маю ступень доктара гістарычных навук і званне прафесара культуралогіі. Лічу недаравальным, што мы, выпускнікі Магільнянскай няпоўнай сярэдняй школы 1945 года, ні разу не сустрэліся, каб прыгадаць пра гады вучобы ў той цяжкі, складаны для нашай роднай, дарагой Бацькаўшчыны час. Па вядомых прычынах зараз такая сустрэча немагчыма. Час для яе беззваротна мінуў.

## ПАДСУМАВАННЕ

Акупацыя давала мне вельмі мала шанцаў на выжыванне, але неяк кожны раз абставіны складваліся так, што смерць абыходзіла мяне бокам. Нельга не заўважыць, што галоўную ролю ў складванні такіх абставін адыгрываў адмоўны фактар. Так, хранічны востры парок сэрца таты не дазволіў ім стаць вясковым старастам з непазбежнымі ў такіх выпадках цяжкімі наступствамі: быць забітым разам з сям'ёю партызанамі ці паліцэйскімі. Другі выпадак з фактару адмоўнага значэння: атрыманне ад партызанаў у абмен на добрага каня нейкай загнанай клячы, якая ў час набліжэння карнага атрада да Магільнага не магла рыссю, не кажучы пра галоп, дамчаць мяне да пасёлка Матэцкія (а зусім жа паблізу яго і рухаўся гэты атрад у наша мястэчка). Як вядома, галоўным абавязкам, самым вялікім жаданнем кожнага партызана з'яўлялася забіць найбольшую колькасць немцаў і паліцэйскіх. У дзень, калі карнікі загналі ў адну з хатаў мястэчка ўсіх вылаўленых імі магілян, у тым ліку і мяне, у якасці заложнікаў для верагоднай расправы, не быў забіты аніводны ўдзельнік той аперацыі. І як вынік, і я, і ўсе астатнія заложнікі засталіся жывыя. З-за якіх-небудзь пяці сантыметраў мог бы не даць мне дачакацца заканчэння вайны атрыманы ад чырвонаармейцаў у парадку абмену іх конь. Ён выцяў мяне капытом у падбародак на адлегласці, калі моц удару ўжо была на зыходзе. Пашчасціла, што ад капыта добра дасталося падбародку, а не лобу.

Вось які жорсткі і ў адначассе літасцівы лёс выпаў на маю долю ў гады вайны і акупацыі!

Не сумняваюся, што ў кагосьці з чытачоў маіх успамінаў узнікне пытанне: «Чаму ж я раней не выступіў з імі ў друку?» Прычына, — а больш правільна: прычыны — ёсць. Калі б успаміны давялося друкаваць за савецкім часам, у іх паводле ідэалагічных установак камуністычнай партыі не трапілі б многія сюжэты з-за іх неадпаведнасці афіцыйным поглядам на нямецкі акупацыйны рэжым і партызанскі рух. Вядома, пры адсутнасці такіх абмежаванняў куды лепш было б у 60–80-я гады выступіць у друку з успамінамі, калі абсалютная бальшыня магілян, на долю якіх выпалі суровыя выпрабаванні вайны і акупацыі, яшчэ знаходзілася на гэтым свеце. Што ж да больш позняга перыяду, пачынаючы з 90-х гадоў, я ніяк не мог узяцца за ўспаміны па той прычыне, што ўсю сваю ўвагу сканцэнтраваў на распрацоўцы тэарэтычных асноў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. На вялікае шчасце ўсіх беларускіх нацыянальных патрыётаў, пасля распаду СССР наша краіна стала на шлях незалежнага суверэннага развіцця. Праўда, рухалася яна па ім надзвычай павольна, а з сярэдзіны 90-х гадоў пачала нават даваць задні ход. Замест таго, каб з усёй сур'ёзнасцю прыступіць да адраджэння, умацавання нацыянальна-культурнага патэнцыялу беларускага народа, дзяржава энергічна ўзялася за яго русіфікацыю, не жадаючы ў гэтым нічуць уступіць ні царскаму самаўладдзю, ні ідэалагічнаму апарату камуністычнай партыі. У такі адказны для лёсу Бацькаўшчыны час я не мог не рэагаваць на ўсё гэта і заняцца напісаннем успамінаў пра вайну і акупацыю. Жыў і працаваў выключна толькі на агульнанацыянальны інтарэс. Глыбока пераканаўшыся, што дзяржаўная палітыка русіфікацыі набыла хранічны характар, працягнецца мо не адно дзесяцігоддзе, калі нічога не зменіцца да лепшага ў верхніх эшалонах улады, я вырашыў на нейкі час спыніць сваю палеміку з ідэолагамі і праваднікамі афіцыйнага антынацыянальнага курсу і выканаць свой мясцова-патрыятычны абавязак перад маімі дарагімі землякамі-магілянамі, з якімі разам пакутаваў у гады акупацыі. Вельмі шкадую, што сёння іх так мала, і толькі адзінкі з іх пазнаёмяцца з маімі ўспамінамі. Аднак не выключаю, што да іх могуць выказаць зацікаўленасць дзеці, унукі, праўнукі… тых магілян, што не па сваёй волі сталі закладнікамі гітлераўскай і сталінскай таталітарных палітычных сістэм і так моцна напакутаваліся, пакуль яны вялі кровапралітную бітву паміж сабой.

У час напісання ўспамінаў перад маімі вачыма нязменна паўставала родная Кавалёўская вуліца гадоў акупацыі і нашага часу. Тады хаты яе бітком былі запоўнены людзьмі, сёння прыкладна ў 80 працэнтаў з іх (хатаў) адсутнічаюць усялякія прыкметы жыцця. Не пачуеш колішняй адметнай — як на мой погляд дык самай сакавітай на ўсю Беларусь — гаворкі магілян, якая не сціхала на вуліцы ў гады акупацыі, выразна, прыемна гучала ў лясных зямлянках. Сёння ва ўсім Магільным рэй вядзе «трасянка», прычым калі на сконе XX стагоддзя яна была беларуска-рускай, дык зараз руска-беларускай. Нават вялікія прадказальнікі не маглі прадбачыць, што магіляне, зведаўшы столькі пакут у гады вайны і акупацыі, праз пэўны час у выніку сур'ёзных памылак у правядзенні эканамічнай, сацыяльна-культурнай, дэмаграфічнай палітыкі будуць хадзіць па пустых безжыццёвых вуліцах некалі такога шматлюднага мястэчка. Маё асабістае ўсведамленне, што я практычна перажыў сваю Кавалёўскую вуліцу, мо як нішто іншае, гняце мой настрой. Здаецца, усё аддаў бы са сваіх матэрыяльных даброт, каб толькі зноў убачыць яе запоўненую да адказу людзьмі з іх колішняй чыстай мілагучнай беларускай мовай на вуснах. Парадаксальна, чаго мы не страцілі ў гады вайны і акупацыі, тое амаль бясследна знікла ў мірны час. І ўсё ж надзея на лепшае канчаткова не страчана. Верыцца, што на магільнянскай зямлі нарэшце з'явяцца сапраўдныя волаты і яна напоўніцца вясёлымі людскімі галасамі, стане адным з самых прыгожых куточкаў Беларусі, чаму так спрыяюць мясцовыя прыродна-геаграфічныя ўмовы.

* * *

Сёння ў самім Магільным жыве з дзесятак дзяцей той страшэннай вайны. Трохі больш іх па-за межамі мястэчка. У многіх з іх ужо ёсць

унукі, а ў кагосьці і праўнукі. Міне дваццаць гадоў, з’явяцца і прапраўнукі. І ўсё гэта будуць людзі, для якіх Магільнае з’яўляецца ў поўным сэнсе слова агульнай прарадзімай, зямлёй далёкіх і не так далёкіх продкаў. Каб кожным з магільнянскіх нашчадкаў такое добра ўсведамлялася, можна было б увесці ў практыку штогадовую сустрэчу іх у вызначаны для гэтага летні дзень, надаўшы яму статус свята — Дзень Магільнага. Без удзелу мясцовай улады тут, зразумела, не абысціся. Мястэчку надало б вялікую славу, што яно стала першым у краіне, дзе адзначаецца такое свята сярод невялікіх паводле сваіх памераў населеных пунктаў. Абвясціць людзям пра арганізацыю такога першага свята не ўяўляе аніякіх праблем, калі выкарыстаць дзеля гэтага афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Упэўнены, што ўжо на першае такое свята збярэцца шмат нашчадкаў магілян з самых розных куткоў Беларусі, а з цягам часу будуць прыязджаць на яго многія з тых, хто жыве ў блізкім ці далёкім замежжы. Не сумняваюся, што настрой у кожнага ўдзельніка свята будзе прыўзняты, таго і глядзі, што хто-небудзь свядома ці падсвядома прамовіць хоць некалькі слоў на беларускай мове, бо яна ж на магільнянскай зямлі спрадвеку была роднай, матчынай. Гэта дзесьці з сярэдзіны мінулага стагоддзя цёмныя чужацкія сілы, нібы тая саранча, уварваліся ў жыццё магілян, як і ўсяго беларускага народа, і амаль дашчэнту спляжылі іх родную мову, вымусілі перайсці на рускую. Завітаныя на свята госці з магільнянскімі каранямі будуць шукаць у сваім асяроддзі родных, тыя месцы, дзе стаялі дамы іх бацькоў, дзядоў і прадзедаў, згадваць іх тагачасныя пашпартныя прозвішчы, а таксама вулічныя. Пра апошнія асабліва трэба памятаць, бо многія з іх нясуць у сабе вельмі цікавую інфармацыю (часта не зусім зразумелую) пра той ці іншы род. Для мяне, напрыклад, нашае вулічнае прозвішча «Паўручавы» не менш дарагое і любае, чым пашпартнае — Лыч. Кожным святкаваннем Дня Магільнага мы будзем найлепшым чынам ушаноўваць і памяць пра тых, хто жыў у ім у час вайны і нямецкай акупацыі. Гэтага яны, а тым больш тагачасныя дзеці, заслугоўваюць ад сваіх сённяшніх і будучых нашчадкаў.



# ЗМЕСТ

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Лыч** Леанід Міхайлавіч

Магільнае ў часы нямецкай акупацыі
(чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.)

*Успаміны*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі,* рэдактар *Л. Карамазава*
вёрстка *Л. Ваўчок,* карэктар *Л. Карамазава*

Падпісана да друку 16.08.2011. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 6,07.
Ул.-выд. арк. 6,73. Наклад 100 ас. Зак.606 .

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд». Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.